**КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА**

**БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ**

**Даведнік**

Выпуск 1
Паступлeнні 1960—1992 гг.

Мінск
БелНДІДАС
1997

ББК 85.101 (4Бел) я 2
Б 43
УДК 069: 82 7 (476) (035.5)

*Рэдакцыйная калегія:* В.Я.Данекіна, Г.В.Запартыка, І.У.Саламевіч, В.У.Скалабан, Г.І.Сурмач, В.А.Фок

*Складальнікі:* І.Л.Асецкая, В.І.Бярэйшык, А.А.Варашылава, В.Я.Данекіна, І.Л.Дацюк, Г.М.Жукава, Г.В.Запартыка, І.І.Міраповіч, А.Р.Пісьмянкова, Н.Г.Сакалоўская, В.А.Фок, Г.Дз.Харавец

Б 43 Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва: Даведнік. Вып.І. Паступленні 1960—1992 гг. Рэд.кал. В.Я.Данекіна і інш.; Склад. І.Л.Асецкая і інш. — Мн.: БелНДІДАС, 1997. — 471 с.

ISBN 985-6099-14-5

Змешчаны анатацыі на 280 фондаў дзеячаў беларускай культуры, дзяржаўных і грамадскіх устаноў. Даведнік мае таксама пералік неапісаных фондаў, паказальнікі імёнаў і ўстаноў.

Б 0690000000
ISBN 985-6099-14-5

ББК 85.101 (4Бел)


# ПРАДМОВА

У чэрвені 1960 года быў створаны Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР. У яго функцыі ўваходзілі: збор і захаванне дакументаў асабістых архіваў прадстаўнікоў беларускай культуры, а таксама дакументаў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый гэтага напрамку дзейнасці і арганізацыя выкарыстання гэтых матэрыялаў.

Першым фондам, які паступіў у архіў, быў асабісты фонд вядомага беларускага паэта, удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Міхася Машары. Пасля былі прыняты дакументы Міхася Васілька, Міколы Засіма, Алеся Жаўрука, Якава Брайцава. У 1961 годзе з ЦДАЛМ СССР былі перададзены дакументы Я.Купалы і Я.Коласа. Так быў пакладзены пачатак камплектаванню архіва фондамі дзеячаў беларускай культуры.

У студзені 1976 года архіў быў ператвораны ў архіў-музей і атрымаў новую назву — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. Павялічылася колькасць супрацоўнікаў і аддзелаў. Да асноўных задач архіва — збору, захавання і выкарыстання дакументаў, дадалася новая задача — стварэнне музейнай экспазіцыі з тых дакументаў і экспанатаў, якія знаходзяцца ў нас на захаванні. Але ствараць музейную экспазіцыю архіву-музею не давялося з-за адсутнасці памяшкання. Таму гэтую функцыю прыходзіцца ажыццяўляць шляхам праваздзення выставак у залах творчых саюзаў і іншых зацікаўленых арганізацый.

У маі 1993 года змянілася назва архіва-музея. Ён стаў называцца Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Штатны расклад, колькасць аддзелаў і напрамак іх дзейнасці не змяніліся.

У аддзеле ведамасных архіваў, камплектавання і экспертызы каштоўнасці заведзены спецыяльны ўлік уладальнікаў асабістых архіваў, з якімі трэба было весці перамовы аб перадачы даку-

ментаў на дзяржаўнае захаванне, а таксама спіс устаноў і арганізацый, чые дакументы неабходна прыняць у архіў-музей.

Пошук дакументаў вядзецца і за межамі Беларусі. Так, з Масквы атрыманы архівы паэткі К.Буйло, перакладчыка беларускай літаратуры Я.С.Мазалькова, скульптара, народнага мастака БССР А.В.Грубэ, спявачкі, народнай артысткі БССР Л.Ф.Аляксеевай, заслужанага артыста БССР Г.К.Някрасава і інш.; з Санкт-Пецярбурга — крытыка і літаратуразнаўцы Л.А.Бэндэ, перакладчыкаў Б.А.Кежуна і П.С.Кабзарэўскага, артыстаў Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М.Горкага Я.М.Палосіна і К.С.Вясніной; з Пяцігорска — пісьменніка В.С.Гарбука, з Растова-на-Доне — паэта А.Жаўрука; з Яраслаўля — Багдановічаў; з Саратава — Я.Дылы; з Ташкента — перакладчыка С.І.Ліхадзіеўскага; з Вільнюса —" Калекцыя дакументаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў г.Вільні" і архіў старэйшай беларускай пісьменніцы Зоські Верас. З Польшчы, з дапамогай вядомага вучонага А.Мальдзіса, быў атрыманы архіў А.Гурыновіча. Перадаюць нам свае дакументы беларускі пісьменнік з Беластока С.Яновіч і гісторык Ю.Туронак з Варшавы. З Балгарыі паступілі дакументы перакладчыка Г.Вылчава, з Чэхаславакіі — опернага спевака М.Забэйды-Суміцкага, з ЗША — паэта М.Сяднёва і спевака Б.Андрусішына (Данчыка).

Апошнім часам наладжваюцца сувязі з беларускай эміграцыяй на Захадзе, у бібліятэку архіва паступаюць выдадзеныя за мяжой беларускія кнігі, газеты, часопісы.

У пошуках дакументаў актыўную дапамогу архіву-музею аказваюць творчая і навуковая грамадскасць. На працягу многіх гадоў з намі супрацоўнічалі ў пытаннях камплектавання архіва мастацтвазнавец П.М.Герасімовіч, паэт С.П.Шушкевіч, музыказнавец А.Я.Ракава, мастак Я.Я.Красоўскі, літаратуразнавец А.В.Мальдзіс, тэатразнавец Г.П.Прагін, гісторык В.У.Скалабан, літаратуразнавец І.У.Саламевіч і многія іншыя. Каштоўны падарунак архіву-музею і ўсёй нашай культуры зрабіў беларускі гісторык у Польшчы Ю.Туронак, які перадаў калекцыю выданняў беларускай эміграцыі. Без актыўнай дапамогі беларускі з Прагі Надзеі Кастэцкай наўрад ці ўдалося б нам арганізаваць



дастаўку ў Беларусь архіва М.Забэйды-Суміцкага. Усім нашым сябрам мы бясконца ўдзячныя.

У выніку сумесных намаганняў супрацоўнікаў архіва і яго сяброў на 1 студзеня 1993 года ў архіве-музеі налічваецца 363 фонды, з іх 310 — асабістыя фонды дзеячаў літаратуры і мастацтва. Гэта больш за 70 тысяч спраў, якія ўтрымліваюць разнастайную рэтраспектыўную інфармацыю па гісторыі культуры беларускага народа.

Храналагічныя рамкі дакументаў ахопліваюць перыяд з другой паловы XIX стагоддзя і да сённяшняга часу. Архіў-музей захоўвае ўнікальныя дакументы рэдакцыі першай беларускай газеты "Наша ніва", матэрыялы рэдакцый іншых перыядычных выданняў, дакументы пра дзейнасць беларускіх арганізацый у Вільні, Пецярбурзе, Празе, Латвіі. Усё гэта знаходзілася ў фондах ліквідаванага ў 1946 годзе Віленскага беларускага музея імя І.Луцкевіча. Дакументы з калекцыі гэтага музея ўтвараюць ф. № 3, які з'яўляецца крыніцазнаўчай базай для вывучэння гісторыі беларускага Адраджэння і ўяўляе каштоўнейшы набытак нашага народа.

Вялікую цікавасць уяўляюць дакументы аб нацыянальным будаўніцтве ў Савецкай Беларусі ў 20-30-я гады. Яны знаходзяцца ў фондзе Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк", у асабістых архівах пісьменнікаў.

Многія дакументы расказваюць пра падзеі другой сусветнай вайны і ўдзел беларускай інтэлігенцыі ў барацьбе з фашызмам.

Найбольш поўна адлюстраваны ў дакументах архіва-музея пасляваенны і сучасны перыяды. Тут вылучаюцца арыгінальныя рукапісы Уладзіміра Караткевіча, прыцягваюць увагу даследчыкаў асабістыя архівы Івана Мележа, Міхася Лынькова, Васіля Быкава. Нельга не згадаць і асабісты архіўны фонд сумна вядомага на Беларусі крытыка 30—40-х гадоў Лукаша Бэндэ. Гэты фонд, які складаецца з паўтары тысячы спраў, уключае многа асабліва каштоўных для нашай гісторыі дакументаў.

Бібліятэка архіва-музея налічвае больш за 14 тысяч тамоў кніг, больш за 500 гадавых камплектаў часопісаў, 300 камплектаў газет. Сярод іх многа унікальных і асабліва каштоўных —

газеты "Наша доля" і "Наша Ніва", "Вольная Беларусь", "Беларусь", "Звон" і інш.; часопісы "Маладняк", "Узвышша", "Полымя рэвалюцыі", асобныя нумары часопісаў "Саха", "Калоссе", "Беларуская борць", першыя выданні зборнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа "Жалейка" і "Песьні-жальбы", амаль усе выданні граматыкі Б.А.Тарашкевіча, беларуская граматыка нямецкага прафесара Р.Абіхта (1918), кнігі В.Ю.Ластоўскага, слоўнік І.І.Насовіча і многія іншыя.

Дакументы, якія паступілі ў архіў-музей, праходзяць навуковае апісанне. У яго ўваходзіць устанаўленне відаў дакументаў, аўтарства, першароднасці або капійнасці, крайніх датаў і іншых атрыбутаў, неабходных для апісання адзінкі захавання. Складаецца вопіс і неабходны навукова-даведачны апарат на кожны фонд.

Акрамя вопісаў, ствараюцца імянны і сістэматычны каталогі. Імянны каталог налічвае каля 104 тысяч картак. У ім можна знайсці звесткі пра дакументы не толькі прадстаўнікоў літаратуры і мастацтва, але і грамадскіх, дзяржаўных і іншых дзеячаў, асабістых архіваў якіх у нас няма.

Адзін з важных напрамкаў нашай работы — забеспячэнне захавання дакументаў. Пры паступленні фондаў у сховішча адразу ж выяўляюцца пашкоджаныя дакументы, якія патрабуюць рамонту ці рэстаўрацыі. Вядзецца спецыяльная картатэка ўліку фізічнага стану дакументаў. У планавым парадку штогод праводзіцца рэстаўрацыя, рамонт і пераплёт унесеных у картатэку дакументаў. Унікальныя і асабліва каштоўныя дакументы знаходзяцца на спецыяльным уліку, мікрафільмуюцца і выдаюцца для выкарыстання пераважна ў копіях. Пастаянна кантралюецца з дапамогай прыбораў тэмпературна-вільготнасны рэжым у сховішчах. Робіцца ўсё магчымае, каб забяспечыць вечнае захаванне дакументальных каштоўнасцяў.

Супрацоўнікі архіва-музея не толькі збіраюць і захоўваюць звесткі аб мінулым, але і ўдасканальваюць формы супрацоўніцтва архіва-музея з творчымі саюзамі рэспублікі, навукова-даследчымі інстытутамі АН Беларусі, рэдакцыямі газет і



часопісаў, выдавецтваў, радыё і тэлебачаннем, школьнымі музеямі, навучальнымі ўстановамі.

Архіў-музей аднесены да катэгорыі навукова-даследчых устаноў. Разам з іншымі дзяржаўнымі архівамі ўдзельнічае ў распрацоўцы навуковых даследаванняў па пытаннях архіўнай справы, дакументазнаўства, археаграфіі, крыніцазнаўства. Самастойна распрацоўвае таксама і метадычныя асновы работы па ўсіх напрамках дзейнасці, удзельнічае ў распрацоўцы рэспубліканскіх метадычных дапаможнікаў. Пры архіве-музеі дзейнічаюць навуковы савет і экспертна-метадычная камісія.

БДАМЛіМ сёння ўяўляе сур'ёзную інфармацыйную базу для вывучэння гісторыі беларускай культуры. Яго дакументы выкарыстоўваюцца ў розных напрамках: публікуюцца ў зборах твораў і навуковых зборніках, альманахах, перыядычным друку, вывучаюцца даследчыкамі, дэманструюцца на выстаўках, капіруюцца для музейных экспазіцый. Вядзецца шырокае інфармаванне аб складзе і змесце дакументаў праз ініцыятыўныя інфармацыі, выкананне тэматычных запытаў, праз лекцыі і выступленні, якія рыхтуюцца супрацоўнікамі архіва. Штогод да юбілейных датаў арганізуюцца тэматычныя і персанальныя выстаўкі. Стала практыкай сумесная падрыхтоўка экспазіцый з іншымі музеямі і архівамі.

Падрыхтаваны супрацоўнікамі архіва-музея даведнік падае звесткі пра ўсе матэрыялы, што захоўваюцца на 1 студзеня 1993 года. Найбольшую колькасць сярод іх займаюць дакументы па гісторыі літаратуры. Беларуская проза прадстаўлена фондамі А.М. Адамовіча, В.У. Быкава, Я. Брыля, Я. Дылы, У.С. Караткевіча, М.П. Лобана, М.Ц. Лынькова, Я. Маўра, І.П. Мележа, П.С. Пестрака, І.П. Шамякіна, Х.С. Шынклера, зборамі матэрыялаў: Ц. Гартнага, Я. Коласа і інш. Цікавыя і разнастайныя паводле свайго зместу фонды паэтаў: А.І.Александровіча, З.Астапенкі, К.Буйло, С.І.Грахоўскага, Я.Журбы, Е.Я.Лось, М. Лужаніна, М.А.Машары, А. В.Пысіна, А.С.Сербантовіча, В.П.Таўлая, М.Танка, С.П.Шушкевіча і інш., таксама фонд паэта-дэмакрата XIX стагоддзя А.Гурыновіча, зборамі матэрыялаў: сям'і Максіма Багдановіча, Я.Купалы. Беларуская драма-

тургія прадстаўлена фондамі А.Маўзона і Я.П.Шабана, драматычныя творы таксама ёсць у многіх фондах празаікаў. Разнастайныя матэрыялы даследчыкі знойдуць у фондах літаратурных крытыкаў і літаратуразнаўцаў Л.Бэндэ, С.К.Майхровіча, В.Ф.Мачульскага і інш. Аб літаратурных і культурных сувязях між народамі можна даведацца з фондаў перакладчыкаў — Г.Вылчава, П.С.Кабзарэўскага, С.І.Ліхадзіеўскага, Я.С.Мазалькова, Я.Семяжона і інш.

Гісторыя беларускай літаратуры адлюстравана таксама і ў фондах Саюза пісьменнікаў, Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк", рэдакцый часопісаў "Маладосць", "Нёман", "Полымя", газеты "Літаратура і мастацтва", выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Беларусь" і інш.

Тэатральнае мастацтва прадстаўлена асабістымі фондамі артыстаў і рэжысёраў сталічных і абласных тэатраў. Гісторыя тэатра імя Янкі Купалы адлюстравана ў дакументах аб жыцці і творчасці бліскучай плеяды беларускіх артыстаў і рэжысёраў — С.С.Бірылы, У.І. і Б.У.Уладамірскіх, В.У.Галіны, Г.Ю.Грыгоніса, У.І.Дзядзюшкі, І.Ф.Ждановіч, П.В.Кармуніна, Р.М.Кашэльнікавай, Е.А.Міровіча, П.С.Малчанава, Б.В.Платонава, В.М.Полы, К.М.Саннікава, С.М.Станюты і інш. Тэатр імя Я.Коласа прадстаўлены імёнамі З.І.Канапелькі, І.А.Матусевіча, А.Ф.Мельдзюковай, К.П.Радзялоўскай, А.М.Труса і інш. Цікавыя і значныя матэрыялы прадстаўнікоў Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М.Горкага — Г.Б.Абуховіч, Дз.А.Арлова, В.В.Воінкава, А.Ф.Кістава, А.І.Клімавай, Г.А.Качаткова, І.Я.Ліснеўскага, Р.І.Янкоўскага і інш. Сярод вядомых майстроў опернага мастацтва імёны Л.П.Александроўскай, А.Д.Арсенкі, І.М.Балоціна, В.Ф.Валчанецкай, Л.Р.Ганеставай, С.Ю.Друкер, Р.В.Млодак, І.Дз. Сарокіна і інш., а таксама артыстаў балета — Т.С.Узунавай, Ю. В.Хіраска.

Змястоўна дапаўняюць фонды тэатральных дзеячаў матэрыялы саміх тэатраў, у якіх яны працавалі — гэта архівы Беларускіх акадэмічных тэатраў імя Я.Купалы і імя Я.Коласа, Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М.Горкага, Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР і інш. Многа інфармацыі ўтрымлівае фонд Беларускага тэатральнага аб'яднання.



Гісторыкі музычнай культуры звернуць увагу на фонды кампазітараў: С.С.Аксакава, А.В.Багатырова, Г.М.Вагнера, Я.А.Глебава, В.А.Залатарова, А.К.Клумава, Дз.А.Лукаса, П.П. Падкавырава, С.У.Палонскага, Р.К.Пукста, Ю.У.Семянякі, Я.К.Цікоцкага, А.Я.Туранкова, М.М.Чуркіна і інш., этнографа і кампазітара Я.В.Прохарава, музыказнаўцаў Дз.М.Жураўлёва, Л.С.Мухарынскай, С.Г. і І.Г.Нісневічаў. Музычнае жыццё адлюстравана ў фондах Саюза кампазітараў БССР, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р.Р.Шырмы, Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.І.Цітовіча, Белдзяржфілармоніі і Белдзяржкансерваторыі.

Гісторыя выяўленчага мастацтва знайшла адлюстраванне ў фондах мастакоў-жывапісцаў І.В.Ахрэмчыка, В.В.Волкава, П.М.Гаўрыленкі, Я.Я.Красоўскага, М.Л.Тарасікава, А.М.Шаўчэнкі, графікаў А.М.Кашкурэвіча, Л.М.Лейтмана, М.Я.Лісоўскага, А.М.Тычыны, мастакоў тэатра Б.Я.Малкіна, А.П.Марыкса, Я.Дз.Нікалаева, скульптараў С.І.Селіханава, А.К.Глебава, мастацтвазнаўцаў Г.І.Барышава, М.С.Кацара, Ф.Л.Лейтман. Не пакінуць абыякавымі нашых даследчыкаў фонды Саюза мастакоў БССР, Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

Кінематограф прадстаўлены фондам аднаго з заснавальнікаў беларускага кіно У.У.Корша-Сабліна, а таксама дакументамі Саюза кінематаграфістаў БССР і кінастудыі "Беларусьфільм".

Даведнік мае тры раздзелы:

I. Асабістыя фонды.

II. Калекцыі і зборы.

III. Дзяржаўныя ўстановы і творчыя арганізацыі.

Усе асабістыя фонды пададзены ў алфавітным парадку. Фонды ўстаноў размешчаны па групах: дзяржаўныя ўстановы і творчыя арганізацыі, тэатры, кінастудыі, выдавецтвы і г.д.

Пасля назвы фонду асобным радком падаюцца даведачныя звесткі: нумар фонду, нумар вопісаў, колькасць адзінак захавання, іх крайнія даты (прычым крайнія даты дакументаў, якія не

адпавядаюць датам дакументаў фондаўтваральніка, агаворваюцца), затым ідзе кароткая біяграфічная даведка і анатацыі дакументаў фонду. Пры напісанні анатацый выкарыстаны дыферэнцыраваны падыход да кожнага фонду. Групоўка матэрыялаў у анатацыях адпавядае іх сістэматызацыі ў вопісах, за выключэннем тых вопісаў, у якіх ёсць значныя парушэнні сістэматызацыі (паступленні першых гадоў архіва). Матэрыялы ў анатацыях гэтых вопісаў пададзены ў адпаведнасці са схемай сістэматызацыі апошніх гадоў, якая прынята ў архіве.

У анатацыі на асабістыя фонды можна выдзеліць наступныя групы (некаторыя з іх могуць адсутнічаць у залежнасці ад складу дакументаў фонду і іх аб'ёмаў), прычым кожная асноўная група дакументаў (раздзел) пачынаецца з новага абзаца.

Першая група — гэта творчыя матэрыялы: рукапісы пісьменніка, ноты кампазітара, малюнкі мастака, фатаграфіі роляў і сцэн спектакляў, рэжысёрскія распрацоўкі — у артыстаў і рэжысёраў.

Другая група — таксама рукапісы (калі яны ёсць), але толькі ў фондах артыстаў, рэжысёраў, мастакоў і кампазітараў.

Трэцяя група — перапіска. Лісты фондаўтваральніка (чарнавікі, копіі), лісты да яго, тэлеграмы, запіскі. Імёны адрасатаў і карэспандэнтаў падаюцца выбарачна. Побач з прозвішчам указваецца колькасць лістоў і іх крайнія даты, пры наяўнасці аднаго ліста лічба не ўказваецца.

Чацвёртая група — гэта або пералік асобных біяграфічных дакументаў фондаўтваральніка, або агульная назва раздзела "Матэрыялы да біяграфіі" з указаннем крайніх дат.

Пятая група — нарысы, артыкулы, нататкі, успаміны і г.д. пра фондаўтваральніка.

Сярод дакументаў самога фондаўтваральніка часта сустракаюцца дакументы іншых асоб. Іншы раз гэта тэматычна падабраныя дакументы, і, калі іх аб'ём вялікі, то яны могуць выдзяляцца ў калекцыю, тады іх апісанне змяшчаецца за анатацыяй на ўсе дакументы фондаўтваральніка. Пры невялікай колькасці яны знаходзяцца перад выяўленчымі матэрыяламі, як і тыя, што адкладваліся ў фондзе.



Завяршаюць апісанне выяўленчыя матэрыялы: партрэты, фатаграфіі фондаўтваральніка, індывідуальныя і ў групах з рознымі асобамі, з дароўнымі надпісамі і без іх, малюнкі і інш.

Апісанне кніг з дароўнымі надпісамі, якія паступаюць з дакументамі фондаўтваральніка ў бібліятэку архіва аддзяляюцца ад асноўнага апісання зорачкай.

У канцы Даведніка пададзены спіс фондаў, якія паступілі ў БДАМЛіМ і не прайшлі навукова-тэхнічнай апрацоўкі.

Даведнік забяспечаны імянным паказальнікам і паказальнікам дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый (да раздзелаў I—III).

Даведачны апарат падрыхтаваны В.Я.Данекінай, І.І.Міранові́ч.

Прадмова састаўлена Г.І.Сурмач, В.Я.Данекінай.

Агульная ўніфікацыя праведзена В.Я.Данекінай, выверку тэкстаў і паказальнікаў ажыццявіла Г.В.Запартыка.

Выказваем падзяку сп. А.В.Вараб'ёву, Ю.А.Капіцу, В.І.Пташнікавай, І.У.Саламевічу за садзеянне ў падрыхтоўцы Даведніка.

## СПІС СКАРОЧАНЫХ НАЗВАЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ І ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

Ансамбль танца БССР — Дзяржаўны ансамбль танца БССР
БДТ-1 — Беларускі першы дзяржаўны тэатр ( да снежня 1944)
БДТ-2 — Беларускі другі дзяржаўны тэатр (да снежня 1944)
БДТМІ — Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут
БДУ імя У.І.Леніна — Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўны універсітэт імя У.І.Леніна
Беларускае аддзяленне Літфонду СССР — Беларускае аддзяленне Літаратурнага фонду СССР
Беларускае аддзяленне Музфонду БССР — Беларускае аддзяленне Музычнага фонду СССР
Беларускае аддзяленне УУААП — Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў
Белдзяржкансерваторыя — Беларуская ордэна Дружбы народаў дзяржаўная кансерваторыя імя А.В.Луначарскага
Белдзяржфілармонія — Беларуская дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармонія
Белдзяржэстрада — Беларуская дзяржаўная эстрада
Белсаўпраф — Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў
БелТА — Тэлеграфнае агенцтва Беларускай ССР пры СМ БССР
БРКАМ — Беларускі рэспубліканскі камітэт абароны міру
БелСЭ — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя
БРК работнікаў культуры — Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры
БТА — Беларускае тэатральнае аб'яднанне
ВДНГ СССР — Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі СССР
Галоўліт БССР — Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайнаў у друку пры Савеце Міністраў БССР
ДАВТ БССР — Дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР (з 1964)
Дзяржбібліятэка БССР імя У.І.Леніна — Дзяржаўная ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга бібліятэка БССР імя У.І.Леніна
Дзяржкамвыд БССР — Дзяржаўны камітэт БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю



Дзяржкамдрук БССР — Дзяржаўны камітэт БССР па друку
Дзяржкіно БССР — Дзяржаўны камітэт БССР па кінематаграфіі
Дзярж.музей БССР — Дзяржаўны музей БССР
Дзярж.рускі тэатр БССР імя М.Горкага — Дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга рускі драматычны тэатр імя М.Горкага
Дзярж.тэатр лялек — Дзяржаўны тэатр лялек БССР
Дзярж.тэатр музкамедыі БССР — Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР
Дзяржтэлерадыё БССР — Дзяржаўны камітэт БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню
Мастацкі музей БССР — Дзяржаўны мастацкі музей БССР
МЗС БССР — Міністэрства замежных спраў БССР
Мінскі дзяржцырк — Мінскі дзяржаўны цырк
Народны хор БССР — Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР імя Г.І.Цітовіча
Тэатральны музей імя А.А.Бахрушына — Цэнтральны тэатральны музей імя А.А.Бахрушына
Тэатр імя Я.Коласа — Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Я.Коласа
Тэатр імя Я.Купалы — Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Я.Купалы
Тэатр оперы і балета БССР — Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балета БССР
ТЮГ БССР — Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі
РНМЦ — Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры
СЖ БССР — Саюз журналістаў БССР
СК БССР — Саюз кампазітараў БССР
СМ БССР — Савет Міністраў БССР
СП БССР — Саюз пісьменнікаў БССР
ССП БССР — Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР
УААП — Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах
Харавая капэла БССР — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР імя Р.Р.Шырмы

## СПІС СКАРОЧАНЫХ СЛОЎ

аб. — абарот
аднаім. — аднаіменны
адр. — адрасат
адз. — адзінка
альм. — альманах
англ. — англійская
апубл. — апублікаваны
арг. — арганізацыя
асіст. — асістэнт
асобн. — асобныя
аўт. — аўтограф
аўтарыз. — аўтарызаваны
б. — былы
балг. — балгарская
б.д. — без даты
беларус. — беларуская
б-ка — бібліятэка
бр. — браты
венг. — венгерская
вобл. — вобласць
воп. — вопіс
вуч. — вучэбны
вуч-шча — вучылішча
выбр. — выбранае
выд. — выдадзенае
выд-ва — выдавецтва
вып. — выпуск
выр. — выразка
газ. — газета
г., г.г. — год, гады
г. — горад
гал. — галоўны
ган. чл. — ганаровы член
г-ва — грамадства



г.зн. — гэта значыць
гл. — глава, глядзі
грамадз. — грамадзянскі
груз. — грузінская
губ. — губерня
дадат. — дадатковы
дак. — дакумент
дзейн. — дзейнасць
Дзярж.пр. — Дзяржаўная прэмія
дзярж. — дзяржаўны
д-р — доктар
драм. — драматычны
друк. — друкаваны
еўрап. — еўрапейскі
заг. — загадчык
замеж. — замежны
засл. дзеяч маст-ў — заслужаны дзеяч мастацтваў
засн. — заснаваны
зб., зб-кі — зборнік, зборнікі
зах. — захаванне
і г.д. — і гэтак далей
і да т.п. — і да таго падобнае
інст-т — інстытут
інш. — іншае
італ. — італьянская
канд. — кандыдат
кар. — карэспандэнт
кн. — кніга
коль-ць — колькасць
коп. — копія
к-т — камітэт
культ.-асвет. — культурна-асветны
Лен.пр. — Ленінская прэмія
літ. — літаратура
мал. — малюнак
маст. — мастак

маст-ва — мастацтва
маст.кір. — мастацкі кіраўнік
мат-лы — матэрыялы
маш. — машынапіс, машынапісны
міжнар. — міжнародны
мін-ва — міністэрства
мн. — многія
муз. — музычны
нар. — нарадзіўся
н.-д. — навукова-даследчы
нар.арт. — народны артыст
нас. — насельніцтва
нац. — нацыянальны
невяд. — невядомы
нек. — некалькі
неўст. — неўстаноўлены
ням. — нямецкая
падрыхт. — падрыхтаваны
пал. — палова (пры даце)
пам. — памочнік
паст. — пастаўлены, пастаноўшчык, пастаноўка, пастанова
пач. — пачатак
польск. — польская
прадм. — прадмова
праф. — прафесар, прафесійны
прысв. — прысвечаны
псеўд. — псеўданім
рэд. — рэдакцыя, рэдакцыйны
рэж. — рэжысёр, рэжысёрскі
рэсп. — рэспубліканскі
рук. — рукапіс
рус. — руская
сапр. — сапраўдны
сімф. — сімфанічны
скар. — скарочаны
скл. — складаны



сл. — словы
ст., ст.ст. — стагоддзе, стагоддзі
стар. — старонка
старш. — старшыня
сц. — сцэнарыст, сцэнарый
сял. — сялянскі
ТБ — тэлебачанне
т-ва — таварыства
т.зв. — так званы
т., тт — том, тамы
т.ф. — тэлефільм
т.ч. — такім чынам
укл. — уключна
укр. — украінская
у т.л. — у тым ліку
упам. — упамінанне, упамінаецца
ф-т — факультэт
ф. — фонд
фотакоп. — фотакопія
ф-п — фартэп'яна
франц. — французская
цэнтр. — цэнтральны
ч. — частка
час. — часопіс
чл.-кар. — член-карэспандэнт
экз. — экзэмпляр
яўр. — яўрэйская



## Абеліёвіч Л.М.

*Ф. 345; воп.1; 113 адз. зах.: 1938—1988 гг.*

Абеліёвіч Леў Майсеевіч (1912—1985) — кампазітар; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963).

Рукапісы-ноты Л.М.Абеліёвіча. Творы для сімф.аркестра: сімфоніі № 1 (1962), № 3 (1967), № 4 (1970), уверцюра №2 (1955), канцэрт для ф-п і сімф. аркестра (1979); канцэртны вальс для эстраднага аркестра [1960]; камерныя інструментальныя творы: квартэт № 1 (1947), "Арыя" для скрыпкі і камернага аркестра (1973), канцэрт для ф-п і камернага аркестра (1979), сюіта для 2-х ф-п на беларускія народныя тэмы (1950), санаты для ф-п (1944—1984), варыяцыі для раяля на ўласную тэму [1940—1950], п'еса для ф-п ([1940-я]-1985), санаты для скрыпкі і ф-п [1940—1970], п'еса для скрыпкі і ф-п [1940—1950], арыя для віяланчэлі і ф-п (1973), санаты і п'есы для духавых і ўдарных інструментаў (1950—[1970-я]); вакальныя творы: вакаліз для голасу з сімф. аркестрам памяці Дз.Дз.Шастаковіча, рамансы на сл. А.Астрэйкі, М.А.Багдановіча, Р.Бёрнса, В.Я.Брусава, А.С.Пушкіна, Ф.І.Цютчава і інш. (1938—1988), песні для голасу і ф-п, для хору на сл. М.Ф.Алтухова, А.Астрэйкі, А.М.Бачылы, П.У.Броўкі і інш. [1940—1960]; апрацоўкі беларускіх народных песень [1950—1960]; музыка для спектакля Дзярж.тэатра лялек БССР: "Канёк-гарбунок" П.П.Яршова (1953), "Лесавік" (1961), "Цвёрды арэшак" М.Ф.Алтухова (1964); музыка для радыёперадачы "Сказ пра дровы, нафту і газ" паводле казкі Я.А.Пермяка (1961); музыка для фільма "Пяцёрка адважных" Л.Мартынюка. Усяго 155 рук.

Лісты да Л.М. Абеліёвіча: Ц. Аліханава 4 (1978—[1980]), І.І.Браўна 2 (1978), М.А.Забурдаева 4 (1978—1980), В.Уладзіміравай (1955) і інш. Усяго 11 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Л.М.Абеліёвіча (1941—1987).

Нарысы, нататкі, інфармацыя пра творчасць Л.М.Абеліёвіча — друк.выр. ([1960-я]—1986).

Фота Л.М.Абелі:віча, індывідуальныя і ў групах з жонкай і дачкой, Дз.Б.Смольскім і інш., 12 (1949—[1970-я]).

**Абуховіч Г.Б.**

*Ф.342; воп.I; 188 адз. зах.; 1927—1985 гг.*

Абуховіч Ганна Браніславаўна (1908—1986) — артыстка Маскоўскага тэатра рабочай моладзі, Рэалістычнага тэатра, Дзярж.рускага тэатра БССР імя М.Горкага; народная артыстка БССР (1944).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці Г.Б.Абуховіч. Ролі, сыграныя ў Дзярж.рускім тэатры БССР імя М.Горкага, 37 (1940—1983), канцэртны рэпертуар [1940-я—1960-я]; фота ў ролях і сцэнах у спектаклях Дзярж.рускага тэатра БССР імя М.Горкага — "Двенадцатый час" А.М.Арбузава, "Бесприданница" А.М.Астроўскага, "Каменное гнездо" Х.Вуаліёкі, "Варвары" М.Горкага, "Птицы нашей молодости" І.Друцэ, "Дом Бернарды Альбы" Ф.Г.Лоркі, "Последний срок" В.Г.Распуціна і інш., індывідуальная і ў групах з Дз.А.Арловым, З.В.Асмалоўскай, С.С.Біруковым, А.Ф.Кіставым, А.І.Клімавай, І.К.Лакштанавай, Ю.У.Сідаравым, А.І.Шах-Парон і інш., 192 (1940—1981); Краснаярскага тэатра імя А.С.Пушкіна 4 [1941—1943]; фота кінапроб 3 (1927—1930).

Рукапісы Г.Б.Абуховіч. Артыкулы, нататкі, выступленні (1952—1980); успаміны — "Об Англии, Шекспире и многом другом" (1962), "Полвека на сцене" (1985) і інш.; дзённікавыя запісы (1974). Усяго 41 рук.

Перапіска Г.Б.Абуховіч з Г.С.Чынглеем 3 (1974).

Матэрыялы да біяграфіі Г.Б.Абуховіч (1940—1988). Праграмы і афішы спектакляў Дзярж.рускага тэатра БССР з удзелам Г.Б.Абуховіч (1940—1981), сшыткі з запісамі аб шэфскай рабоце (1971—1979), спісы працоўнай дзейнасці (1981), спісы роляў, рэжысёрска-асістэнцкіх прац за 1932—1983 гг.; пратакол пасяджэння праўлення БТА з абмеркаваннем спектакля А.Ц.Кузняцова "Свидание в предместье" (1974).



Віншавальныя тэлеграмы Г.Б.Абуховіч з нагоды юбілеяў і ўзнагарод:Э.Агняцвет, В.У.Галіны, С.М.Станюты, М.М.Яроменкі і інш. (1978).

Матэрыялы, сабраныя Г.Б.Абуховіч (1939—1983). Праграмы спектакляў Дзярж.рускага тэатра БССР: "Замужняя невеста" А.М.Астроўскага, "Кремлевские куранты" М.Ф.Пагодзіна, "Коварство и любовь" Ф.Шылера (1939—1945), біяграфічная даведка пра В.І.Чэмберг — маш. (1973).

Сцэнарыі, нарысы, артыкулы, нататкі ,інфармацыі, рэцэнзіі на спектаклі Дзярж.рускага тэатра БССР імя М.Горкага з удзелам Г.Б.Абуховіч — аўт., друк. выр. (1959—1983).

Фота Г.Б.Абуховіч, індывідуальныя і ў групах з Л.П.Александроўскай, С.С.Бірылам, П.У.Броўкам, В.В.Воінкавым, А.Ф.Кіставым, Г.К.Някрасавым, В.Ф.Фёдаравым, А.І.Шах-Парон і інш., 62 (1943—1983).

Фота з дароўнымі надпісамі Г.Б.Абуховіч: І.Друцэ 2 (1973), А.К.Ільінскага (1962), Ю.У.Талубеева (1962), У.І.Уладамірскага 3 (1949, 1956, 1957).

Фота артыстаў Дзярж.рускага тэатра БССР імя М.Горкага ў ролях і сцэнах са спектакляў : "Варвары" М.Горкага (1952), "Бесприданница" А.М.Астроўскага (1962), "Кремлевские куранты" М.Ф.Пагодзіна (1940), "Порт-Артур" М.Ф.Пагодзіна і А.М. Сцяпанава (1954), "Царь Федор Иоаннович" А.М.Талстога (1946), "Отелло" У.Шэкспіра (1947) і інш. з удзелам З.А.Васільевай, В.В.Воінкава, А.Ф.Кістава, І.К.Лакштанавай, А.І.Шах-Парон і інш. 119 (1940—1982).

Эскізы касцюмаў і дэкарацый А.Б.Грыгар'янца да спектакля "Мамаша Кураж и ее дети" Б.Брэхта — мал. 5 (1962).

**Авечкін А.А.**

*Ф.121; воп.1; 310 адз. зах.; 1951—1965 гг.**

Авечкін Аляксандр Аляксеевіч (1913—1980) — празаік, дзіцячы пісьменнік.

Рукапісы А.А.Авечкіна. Аповесці :"Горе маленького Рональда" (1951—1953), "Небо бывает разным" (1960); "У дивных гор" (1962—1965) і інш.;п'есы і сцэнарыі: "Сильные крылья" (1954—1956), "Бригада шагает вперед" (1963), "Ошибка" (1956), "Цена земли" (1958); апавяданні і навелы: "Поединок" (1954—[1955]), "Васька", "Девочка", "Мальчишечьи песни" (1955), "Настенька"(1955), "Аккордеон" (1956), "Амурские волны", "Дорога счастья"(1956), "Удачный стишок" (1957), "30 характеров" (1958), "Всё раньше пробуждается день", "Новые брюки" (1959), " Ромашка" (1961), "Вишни", "Луч света"(1963), "Звезды мои!", "Племянничек", "Сюрприз" (1964) і інш.; нарысы (1956—1964); артыкулы, інфармацыя, рэпартажы, выступленні (1955—1960). Усяго каля 115 рук.

Лісты А.А.Авечкіна ў рэдакцыю "Детгиза" (1964), піянерам [1960-я].

Ліст А.А.Авечкіну ад Б.І.Бур'яна (1962).

Водгук Я.С.Рамановіча на п'есу А.А.Авечкіна "Однажды осенью" — маш.(1954), рэцэнзія В.Б.Шклоўскага на аповесць "Большое горе маленького Рональда" — маш. (1954), заключэнне А.В.Красінскага на сцэнарый "Сильные крылья" — маш. (1955).



**Адамовіч А.**

*Ф.116; воп. 1—3; 771 адз. зах.; 1923—1987 гг.*

Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч) (1927—1994) — празаік,крытык, літаратуразнаўца; член-карэспандэнт АН БССР (1980); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я.Коласа (1976).

Рукапісы А.М.Адамовіча. Дысертацыя "Станаўленне мастацкага стылю Кузьмы Чорнага" (1953), манаграфія " Шлях да майстэрства (станаўленне мастацкага стылю Кузьмы Чорнага)" (1958); артыкулы пра В.П.Астаф"ева, В.Г.Распуціна,Я.Брыля, К.Чорнага і інш., узровень сучаснай крытыкі і яе месца ў літаратурным жыцці, пасляваенную прозу, ваенную тэму ў беларус.літаратуры і інш. (1953—1983); каментарыі да 10-томнага выд. І.П.Мележа (1981); нататкі аб маральна-эстэтычным накірунку ў развіцці сучаснай беларус. прозы (1982); рэцэнзіі на творы Я.Брыля, М.П.Яругіна, Р.С.Бярозкіна, Ю.М.Канэ (1959—1980); даклады: "Гуманизм и современный мир" (1970), "Литература в поле сравнительного изучения" (1978); выступленні: на адкрыцці дзён культуры ВНР у Мінску (1957), на пленуме СП БССР аб сучаснай беларускай прозе (1961), на вучоным савеце АН УССР (1962), на VIII Міжнародным з'ездзе славістаў у г.Загрэбе (Югаславія) (1978) і інш.; "Заглядываючы ў сябе" — аўтабіяграфія (1963), інтэрв'ю, дадзеныя кар. :"Журналиста", "Литературной газеты" (1979), "Культура и жизнь" (1981), альманаха "Братэрства" (1982), газ."Голас Радзімы" (1983) і інш.; дак. аповесці "Хатынская повесть" (1971), "Я з вогненнай вёскі..." у сааўт. з Я. Брылём, У.А.Калеснікам (1972—1974), "Блокадная книга" ў сааўт. з Д.А.Граніным (1977—1979), "Каратели" (1971—1980); раманы: "Война под крышами" (1959—1961), "Сыновья уходят в бой" (1959—1964); аповесці: "Асия" (1964), "Последний отпуск" (1967); п'есы: "Встреча" (1968), "Возвращение в Хатынь" у сааўт. з Б.І.Луцэнкам (1977); сцэнарыі маст. і дакум. фільмаў: "Партизаны" (1960), "Война под

крышами" (1967), "Сыновья уходят в бой" (1969), "У войны не женское лицо" (1975), "Иди и смотри"="Убейте Гитлера" ў сааўт. з Э.Г.Клімавым (1976), "Растреленная песня" ў сааўт. з Я.Брылём, В.Н.Дашуком, У.А.Калеснікам (1977), "Люди и топорище" [1970-я], "Последняя охота" ў сааўт. з В.Н.Дашуком (1982); творчыя заяўкі на сцэнарыі мастацкіх і тэлефільмаў (1979—1982); апавяданне "Гитлер" (1950—1953). Усяго 398 рук.

Лісты А.М.Адамовіча: П.М.Машэраву (1975), М.Г.Ткачову (1973), неўст. адр. 3 (1961—1962). Усяго 5 адр.

Лісты А.М.Адамовічу: В.Д.Аскоцкага (1977), В.Г.Распуціна коп. 3 (1980—1985).

Лісты А.М.Адамовічу: рэдакцый часопісаў, газет, выд-ваў 5 (1961—1968).

Характарыстыкі на А.М.Адамовіча (1957—1962); водгукі А.М. Адамовіча на навуковыя працы, работу выд-ва "Прогресс" (1958—1980); аўтабіяграфія (1963), спісы навуковых прац і артыкулаў (1964).

Артыкулы, інфармацыі, водгукі аб творчасці А.М.Адамовіча — друк. выр. (1953—1987).

Успаміны А.М.Адамовіч (маці пісьменніка) пра Вялікую Айчынную вайну, пра падзеі, апісаныя ў дылогіі "Партызаны" — маш. (1970). Запісы гутарак з жыхарамі "забітых" весак, сабр. для кнігі "Я з вогненнай вёскі..." (1970—1974).

Фота А.М.Адамовіча, індывідуальныя і ў групах з А.Г.Бачаровым, Я.Брылём, У.Б.Карпавым, Дз.М.Кавалёвым, У.А.Калеснікам, Б.І.Луцэнкам, К.М.Сіманавым, Б.М.Сцяпанавым, П.І.Ткачовым, Р.І.Янкоўскім і інш., 17 (1938—1978).

Фота М.І.Адамовіча (бацькі) (1923) і А.М.Адамовіч (маці) (1946).



## Аксакаў С.С.

*Ф.95; воп.1; 54 адз. зах.: 1870—1957 гг.**

Аксакаў Сяргей Сяргеевіч (1891—1968) — рускі кампазітар; з 1914 г. да 1953 г. жыў у Харбіне і Шанхаі, з 1954 г. — у СССР, з 1955 г. — у г.Мінску.

Рукапісы-ноты С.С.Аксакава. Раманс для ф-п (1956—1957); рамансы і песні для хору на сл. А.Герзона, В.Паповай, А.М.Пляшчэева (з праўкай А.Ц.Грачанінава, кампазітара) (1906, 1955—1957). Усяго 4 рук.

Рукапісы С.С.Аксакава. Успаміны (1930—1935, 1957), артыкулы (1930—1957). Усяго 11 рук.

Лісты С.С.Аксакаву А.Ц.Грачанінава 20 (1932—1940).

Дароўныя надпісы С.С.Аксакаву на нотах: А.Ц.Грачанінава (1952), Родзін Хо (1939).

Рахунак рус.страхавога тав-ва ў Петраградзе на імя С.С.Аксакава (1917), даведка аб яго грамадскай рабоце ў Таварыстве грамадзян СССР у Шанхаі (1954).

Артыкулы пра С.С.Аксакава — друк.выр. (1930, 1946—1948).

"Каталог кампазітара А.Ц.Грачанінава" — друк.выд. (1931).

Фота: С.Ц.Аксакава (прадзеда) (з партрэта мастака В.І. Сурыкава) [1850—1855], І.С.Аксакава (брата) [1870—1880], М.С.Аксакавай (сястры) [1902—1908], Анічкава (пісьменніка) з жонкай [1903—1908], Л.Ф.Манькоўскага [1902—1905], І.П.Паўлава (акадэміка) (1916), А.Сяліцкай [1902—1908].

Фота А.Чарапніна з дароўн. надпісам С.С.Аксакаву (1934).

Фота: сядзібы Аксакавых у с.Страхава Самарскай губерні 4 [1901—1905], г.Масквы 2 [1901, 1904].

Альбом М.С.Аксакавай (сястры) з малюнкамі і вершамі (1903—1908).

## Александровіч А.І.

*Ф.97; воп.1; 140 адз.зах.; 1910—1963 гг.*

Александровіч Андрэй Іванавіч (1906—1963) — паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык; грамадскі дзеяч, член-карэспандэнт АН БССР (1936).

Рукапісы А.І.Александровіча. Паэмы: "Дваццаць" (1926), "Маці" (1938—1946), "Вайна і мір" (1951), "Хлебная зіма" (1949); зб.вершаў "Выбранае" (1957); вершы (1922—1963); п"еса "Пад небам бацькаўшчыны" (1946); артыкулы і выступленні (1923—1963); пераклады вершаў М.М.Асеева, М.В.Ісакоўскага, С.І.Кірсанава, С.Я.Маршака, А.С.Пушкіна і інш. (1947—1956); старонкі з дзённіка (1955); аўтабіяграфіі 2 (1957, 1962). Усяго 350 рук.

Ліст А.І.Александровіча В.В.Зуёнку (1959).

Лісты А.І.Александровічу: А.С.Васілевіч 2 (1960, 1961), В.С.Гарбука (1961), В.В.Зуёнка (1959), Я.Казекі (1962), П.В.Мядзёлкі 4 (1958—1962) і інш. Усяго 24 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.І.Александровіча (1947—1963).

Матэрыялы аб рэабілітацыі А.І.Александровіча (1955—1956).

Артыкулы, водгукі і інш. аб творчасці А.І.Александровіча — фотакоп., маш. (1927—1958); некралогі — друк.выр. (1963).

Фота А.І.Александровіча, індывідуальныя і ў групах з М.Горкім, С.І.Грахоўскім, Я.Купалам і інш., 50 (1910—1963).

Фота Я.Купалы з С.М.Гарадзецкім (1936).

* * *

Дароўныя надпісы А.І.Александровічу на кнігах: А.П. Бялевіча (1957, 1959), І.М.Барашкі (1959), А.С.Васілевіч (1957, 1960), П.Ф.Глебкі (1947), І.І.Грамовіча (1958), С.І.Грахоўскага (1961), І.Д.Гурскага (1958, 1959), А.А.Зарыцкага (1961), А. Звонака (1960), М.І.Калачынскага (1958), У.Б.Карпава (1960), А.М.Кулакоўскага (1956), Я.Купалы (1944), М.Лужаніна (1958),



М.А.Машары (1958, 1961), А.В.Пальчэўскага (1958), П.Е.Панчанкі (1959), Я.Скрыгана (1956, 1961), Р.К.Сабаленкі (1961), М.Танка (1957), М.Г.Ткачова (1957), М.Хведаровіча (1961), А.Дз.Чарнышэвіча (1957), І.П.Шамякіна (1960), С.П.Шушкевіча (1959), А.І.Якімовіча (1955, 1958) і інш. Усяго 52.

## Александроўская Л.П.

*Ф.316; воп.1; 887 адз.зах.; 1907—1989 гг.*

Александроўская Ларыса Пампееўна (1904—1980) — спявачка; рэжысёр; салістка ДАВТа БССР; народная артыстка СССР (1940).

Матэрыялы акцёрскай і рэжысёрскай дзейнасці Л.П.Александроўскай. Партыі, выкананыя ў тэатры оперы і балета БССР, з паметкамі Л.П.Александроўскай, 3 (1935—1947); мат-лы яе канцэртнай дзейнасці: арыі, арыёза, рамансы, рускія і беларускія народныя песні, песні савецкіх кампазітараў (1927—1956); рэпертуарныя спісы і картка [1970-я]; фота ў ролях і сцэнах з опер тэатра оперы і балета БССР: "Кармен" Ж.Бізэ, "Князь Игорь" А.П. Барадзіна, "Запорожец за Дунаем" С.С.Гулак-Арцямоўскага, "Фауст" Ш.Гуно, "Тихий Дон" І.І.Дзяржынскага, "Царская невеста" М.А.Рымскага-Корсакава, "Алеся", "Міхась Падгорны" Я.К.Цікоцкага, "Кветка шчасця" А.Я.Туранкова, "Евгений Онегин", "Пиковая дама" П.І.Чайкоўскага і інш., індывідуальныя і ў групах з А.Д.Арсенкам, І.М.Балоціным, У.М.Глазавым, М.А.Лазаравым і інш., 108 (1928—1955); рэж. экз. опер, манціроўка, планіроўка оперных спектакляў тэатра оперы і балета БССР: "Надежда Дурова" А.В.Багатырова, "Аида" і "Трубадур" Дж.Вэрдзі, "Страшный двор" С.Манюшкі, "Міхась Падгорны" Я.К.Цікоцкага, "Яснае світанне" А.Я.Туранкова (1952—1970); фота сцэн і дзеючых асоб опер тэатра оперы і балета БССР: "Запорожец за Дунаем" С.С.Гулак-Арцямоўскага, "Страшный

двор" С.Манюшкі, "Дзяўчына з Палесся" Я.К.Цікоцкага, "Мазепа" П.І.Чайкоўскага 9 (1951—1967).

Рукапісы Л.П.Александроўскай. Сцэнарны план тэлеперадачы аб пастаноўцы оперы "Надежда Дурова" А.В.Багатырова (1956); нарысы, артыкулы, нататкі пра беларускі тэатр, маладых оперных спевакоў, развіццё муз. маст-ва і інш. (1945—[1971]); рэцэнзіі (1951—[1973]); водгукі на манаграфіі, кнігі, дысертацыі, прысв. пытанням развіцця муз. і драм. маст-ва (1951—1973); даклады і выступленні на кангрэсах прыхільнікаў міру, конкурсах вакалістаў, з'ездах і пленумах БТА, на творчых сустрэчах з М.Д.Міхайлавым, М.І.Царовым, Я.К.Цікоцкім і інш. (1942—1974); успаміны пра А.В.Няжданаву, Д.Захара і інш. (1947—1964). Усяго 138 рук.

Запісныя кніжкі і блакноты (50) з запісамі выступленняў, успамінамі пра сваё жыццё, рэпетыцый і інш. (1948—1976).

Лісты Л.П.Александроўскай: П.І.Батаву (1948), П.У.Броўку (1965), Я.Я.Несцярэнку (1969), С.В.Абразцову (1954), В.І.Чыаўрэлі (1958), Ц.М.Хрэннікаву (1975) і інш. Усяго 28 адр.

Лісты да Л.П.Александроўскай: В.В.Барсавай (1953), П.І.Батава (1948), Р.М.Гліэра (1942), К.Я.Галяйзоўскага (1959), Д.Б.Кабалеўскага (1974), І.С.Казлоўскага 3 (1963, [1964]), Я.Коласа 2 (1941), А.М.Крыловіча 5 (1965—1970), С.Я.Лемешава (1971), Я.Маўра (1941), П.С.Малчанава (1947), Я.Я.Несцярэнкі 5 (1967-1971), Б.А.Пакроўскага 31 (1944—1979), Н.Ф.Сакалоўскага 2 (1942), С.М.Станюты 3 [1970-я], А.Я.Туранкова 6 (1949-[1958]), М.І.Царова (1974), Я.К.Цікоцкага 3 (1941—1961), М.М.Чуркіна 2 ([1940-я], 1959), І.П.Яўнзем 25 (1964—1972) і інш. Усяго 146 кар.

Лісты да Л.П.Александроўскай супрацоўнікаў ДАВТа БССР (1941—1976), БТА (1948—1974), прыхільнікаў таленту (1942—1974) і інш. візітныя карткі дзеячаў маст-ваў, консулаў, акрэдытаваных у г.Мінску [1960-я].

Лісты да Л.П.Александроўскай партыйных, савецкіх і творчых арганізацый аб канцэртнай дзейнасці, аб рабоце ДАВТа БССР, БТА, удзелу ў юбілейных урачыстасцях; рэдакцый газ. і час. з прапановамі аб супрацоўніцтве і інш. (1942—1979).



Дароўныя надпісы Л.П.Александроўскай на тытульных лістах нотаў: В.Б.Лепяшынскай (1965), П.П.Падкавырава (1945), Р.К. Пуксты (1945), Дз.Дз.Шастаковіча (1950) і інш. Усяго 15 (1942—1978).

Дыплом і пасведчанне народнай артысткі БССР і СССР (1939, 1943), запрашальныя білеты на ўрачыстыя пасяджэнні, канцэрты, мітынгі (1941—1976), ордэнскія кніжкі і пасведчанні да медалёў і нагрудных знакаў (1942—1977), анкета, асабовыя лісткі па ўліку кадраў (1946—1960), працоўная кніжка (1948), білет члена БТА, членскія білеты кандыдата ў члены ЦК КПБ (1952—1956), аўтабіяграфія (1960) і інш.

Запрашальныя білеты на творчыя сустрэчы з Л.П.Александроўскай (1936—1972), працоўныя пагадненні з тэатрамі, філармоніямі, БТА (1948—1951); тлумачальныя запіскі, планы выпуску спектакляў, заўвагі мастацкага савета на спектаклі "Мазепа", паст. Л.П.Александроўскай, пуцёўка на канцэртнае выступленне з М.К.Чаркасавым на пл. імя А.С.Пушкіна ў г.Маскве і інш. (1947- 1961).

Праграмы і афішы спектакляў, вечароў і канцэртаў з удзелам Л.П.Александроўскай (1928—1969).

Службовыя пасведчанні і пропускі Л.П.Александроўскай (1941—1975), тэлеграма з выклікам у Маскву франтавой брыгады артыстаў пад кіраўніцтвам Л.П.Александроўскай (1941), матэрыялы аб удзеле Л.П.Александроўскай у арганізацыі работы тэатра оперы і балета БССР у г.Горкім і рээвакуацыі тэатра ў г.Мінск (1941—1944); загады Мін-ва культуры БССР, якія адносяцца да дзейнасці Л.П.Александроўскай у тэатры і БТА (1951—1973); яе характарыстыкі (1960, 1970); спісы і характарыстыкі салістаў оперы тэатра оперы і балета БССР (1959—1960); матэрыялы аб рабоце Л.П.Александроўскай у БТА: мандаты, запрашальныя білеты, прывітальныя адрасы і інш. (1946—1975); мат-лы дэпутацкай дзейнасці Л.П.Александроўскай: мандаты, пропускі, дэпутацкія білеты, уліковыя карткі, агітацыйныя лісткі, дэпутацкія справаздачы і інш. (1945—1951); перапіска з выбаршчыкамі і ўстановамі па заявах выбаршчыкаў (1946—1962); мат-лы аб удзеле Л.П.Александроўскай у міратворчых

арганізацыях: запрашэнні, мандаты, лісты, тэлеграмы (1946—1969); мат-лы аб удзеле Л.П.Александроўскай у рабоце рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных конкурсаў вакалістаў: праграмы, бюлетэні і інш. (1965—1971); мат-лы аб удзеле Л.П.Александроўскай у канферэнцыі і кангрэсе Міжнароднага інстытута тэатра: запрашэнні, праграмы, стэнаграмы і інш. (1967, 1973); мат-лы аб удзеле Л.П.Александроўскай у пахаваннях Я.Купалы: тэлеграмы, фота, артыкулы, інфармацыі (1942) і І.В.Сталіна: пасведчанне, пропуск, фота і інш. (1953).

Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні ганаровых званняў і ўзнагарод Л.П.Александроўскай (1938—1955); запрашальныя білеты, прывітальныя адрасы, віншавальныя лісты і тэлеграмы партыйных, савецкіх, творчых арганізацый: Н.А.Абухавай, У.І.Качалава, І.С.Казлоўскага, М.Д.Міхайлава і інш. у сувязі з юбілеямі Л.П.Александроўскай (1945—1979).

Сцэнарны план радыёперадачы, артыкулы, нарысы, нататкі аб Л.П.Александроўскай (1946—1978); рэцэнзіі на спектаклі ДАВТа БССР з удзелам Л.П.Александроўскай (1927—1975) і паст. ёю ў тэатры оперы і балета БССР (1951—1960); рэж. заўвагі Б.А.Пакроўскага на спектаклі: "Страшны двор", "Дзяўчына з Палесся", паст. Л.П.Александроўскай (1952, 1953); водгукі гледачоў (1941—1953).

Некралог Л.П.Александроўскай (1980); тэлеграмы тэатраў са спачуваннямі з выпадку яе смерці (1980), запрашальны білет на вечар памяці Л.П.Александроўскай (1984).

Рэцэнзіі, водгукі, інфармацыі аб спектаклях тэатра оперы і балета БССР — друк. выр. (1931—1958), афішы оперных спектакляў тэатра оперы і балета БССР пад час Дэкады беларускага мастацтва ў г.Маскве (1940), лібрэта опер: "Міхась Падгорны" (1937,1939), "Дзяўчына з Палесся" [1953], напісаныя П.У.Броўкам, ноты опер: "Міхась Падгорны" Я.К.Цікоцкага (1939), "Яснае світанне" А.Я.Туранкова (1958) і інш.

Партрэты Л.П.Александроўскай і яе родных, замалёўкі да партрэтаў, шаржы-мал. В.Б.Ладыгінай, М.Мядзвядоўскага, А. Чаркаскага 12 (1942—1955).



Фота Л.П.Александроўскай, індывідуальныя і ў групах з А.П.Зуевай, В.Л.Кніпер-Чэхавай,В.П.Марэцкай, П.С.Малчанавым, Б.А.Пакроўскім, М.І.Царовым, А.М.Шатровай, Р.Р.Шырмам і інш., 351 ([1909]—1975); фота Л.П.Александроўскай з М.Дз.Ворвулевым, С.Я.Лемешавым, І.С.Казлоўскім, Т.І.Шымко і інш. у касцюмах і грыме пасля спектакляў тэатра оперы і балета БССР, 18 (1945—1959).

Фотакопіі эскізаў дэкарацый і касцюмаў да спектакляў тэатра оперы і балета БССР: "Страшны двор", "Надзея Дурава", "Міхась Падгорны" (1952—[1957]).

Фота з дароўнымі надпісамі Л.П.Александроўскай: К.Байсеітавай (1942), С.Г.Бірман [1970-я], В.А.Давыдавай (1976), В.А.Залатарова (1958), У.Ф.Луцэвіч (1942), С.Я.Лемешава 2 (1952), Я.Я.Несцярэнкі (1967), У.І.Пірадава (1942), Т.С.Чабан (1957) і інш. Усяго 27.

Фота: Н.А.Абухавай [1950-я], А.Д.Арсенкі (1939), М.Дз. Ворвулева [1950-я], А.Б.Гольдэнвейзера [1950-я], Д.Ібаруры 3 [1950-я], І.С.Казлоўскага 3 (1953), А.В.Луначарскага — коп. (1923), В.А.Селеха 3 (1956), Ю.У.Талубеева [1960-я] і інш.; Ф.І.Шаляпіна з жонкай, дзецьмі, роднымі, блізкімі, знаёмымі 25 [пач. XX ст.]; фота: урачыстых вечарын М.І.Царова 2 (1973), Малога тэатра (1949), удзельнікаў фестывалю мастацтваў у г.Мінску 34 (1968).

Фота сцэн са спектакля Гданьскай філармоніі "Страшны двор" С.Манюшкі II (1951).

* * *

Дароўныя надпісы Л.П.Александроўскай на нотах: В.І.Волкава (1946), І.О.Дунаеўскага (1940), І.І.Жыновіча (1948), Н.Ф.Сакалоўскага (1946), А.Я.Туранкова 2 (1966, 1971). Усяго 6.

Дароўныя надпісы Л.П.Александроўскай на кнігах: Х.Бідструпа (1964), Н.С.Гілевіча 2 (1964, 1970), К.Крапівы (1951), Б.М.Палявога (1950), А.А.Яблачкінай (1953), І.П.Яўнзем (1968) і інш. Усяго 53 (1943—1974).

### Алешка А.А.

*Фота.208; воп.1; 104 адз. зах.; 1938—1973 гг.*

Алешка Антон Антонавіч(1913—1971) — празаік.

Рукапісы А.А.Алешкі. Раманы: "Толькі жыць ды жыць" (1958), "Дарогі без слядоў" (1964—1967), "Побач з маланкамі" (1967—1968); аповесці "Маладосць" (1938), "Неба на замку" (1949) і інш.; аповесці (1938—1971); дзённікі (1942—1944, 1966—1969). Усяго 47 рук.

Лісты А.А.Алешкі: родным 2 (1951,1971); П.М.Машэраву (1968) і інш. Усяго 7 адр.

Лісты да А.А.Алешкі: пісьменнікаў, медыкаў, аднапалчан (1960—1971). Усяго 11 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.А.Алешкі (1962—1973).

Рэцэнзіі на творы А.А.Алешкі — аўтарыз. маш., друк. выр. (1962—1973).

Фота А.А.Алешкі, індывідуальныя і ў групе з жонкай і сынамі, франтавымі сябрамі, В.Віткам, С.І.Грахоўскім, М.Лужаніным і інш., 52 (1944—1971).

### Аляксеева Л.Ф.

*Ф.310; воп.1; 40 адз. зах.: 1924—1984 гг.*

Аляксеева Ларыса Філалогаўна (нар.1907) — спявачка тэатра оперы і балета БССР; народная артыстка БССР (1944).

Фота Л.Ф.Аляксеевай у ролях са спектакляў, сыграных у тэатры оперы і балета БССР: "В пущах Полесья" А.В.Багатырова, "Кармен" Ж.Бізэ, "Травиата" Дж.Вэрдзі і інш., 14 (1938—1945).

Нататка і ўспаміны Л.Ф.Аляксеевай (1940, 1957).



Лісты Л.Ф. Аляксеевай ад розных устаноў, прыхільнікаў таленту (1942—1969). Усяго 17 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Л.Ф.Аляксеевай (1932—1984).

Артыкулы і нататкі пра Л.Ф.Аляксееву — друк. выр. (1940—1972).

Газеты "Советская Белоруссия", "Советский артист", "Чырвоная змена" (1940), буклет (1946), прысвечаныя дэкадам беларускага мастацтва ў Маскве.

Фота Л.Ф.Аляксеевай, індывідуальныя і ў групах з Л.П.Александроўскай, А.В. Багатыровым, І.М. Балоціным, Р.В.Млодак і інш., 26 (1924—1966).

Фота з дароўнымі надпісамі Л.Ф.Аляксеевай: А.Ф.Гнесінай (1938), М.М. Серады 8 (1941, 1942).

Фота: М.С.Галаванавай, А.В.Няжданавай [1940-я], В.Масалейнікавай (1936) і інш.

### Аляксееў М.І.

*Ф. 207; воп.1; 80 адз. зах.; 1943—1946 гг.**

Аляксееў Мікалай Іванавіч (1898—1985) — празаік, драматург; заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Рукапісы М.І.Аляксеева. Раман "Испытание" (1944—1957); аповесці (1962—1973); п'есы, сцэнарыі (1948—1963); ваенна-гістарычныя нарысы і даследаванні, артыкулы, выступленні (1953—1975). Усяго 43 рук.

Лісты М.І.Аляксеева: В.В.Каціновічу (1973); у "Інфармацыйны бюлетэнь сакратарыята СП СССР" (1975). Усяго 5 адр.

Лісты да М.І.Аляксеева: В.І. Казлова — Старшыні Прэзідыума ВС БССР 3 (1958), чытачоў, школьнікаў і інш. (1964—1976). Усяго 66 кар.

Матэрыялы да біяграфіі М.І.Аляксеева (1945—1975).

праўкай (1980), "Векапомныя дні" — эпілог рамана, разрозненыя лісты (1956—1969); "Мстители" — сцэнарый кінааповесці — у сааўт. з К.Крапівой (1944); апавяданні: "Янка-парашутыст" (1937), "Пра некаторых Угрум-Бурчэевых ... ці Прыгоды аднаго лінгвіста" — маш. (1939), "Агні Танганьікі" (1953), "Ластаўчына талака" і інш.; нарысы: "З кагорты старэйшых" (пра І.М.Барашку), "Якаў Бранштэйн", "Певец Белоруссии" ( пра З.Бядулю), пра Я.Коласа, "Владимир Ильич Ленин", "Кузьма Чорны" і інш. (1940—1972); артыкулы: "Мы пераможам" (аб творчасці беларускіх пісьменнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны), "Задачы беларускай літаратуры ў перыяд аднаўлення і развіцця гаспадаркі і культуры Беларусі", "Мастацкая проза ў 1947 годзе і інш. (1943—1972); нататкі, фельетоны, памфлеты, інфармацыі (1939—1972); рэцэнзіі і водгукі (1944—1972); даклады (1932—1964); выступленні (1943—1972); "Путь к писательству" — аўтабіяграфія (1948, 1963); успаміны пра А.І.Александровіча, П.Ф.Глебку, М.Горкага, Я.Коласа, Я.Купалу, С.В.Прытыцкага і інш. (1948—1974); дзённікавыя запісы (1944—1945); аўтабіяграфіі 2 (1948, 1963). Усяго каля 240 рук.

Лісты М.Ц.Лынькова (частка лістоў чарнавікі, ксера-і фотакоп.): І.М.Барашку (1942), П.У.Броўку (1944), Я.Брылю 37 (1960—1975), Дз.Я.Бугаёву 3 (1959—1972), В.У.Быкаву (1971), Л.А.Бэндэ 9 (1935—1961), П.Ф.Глебку 5 (1942, 1960—1962), І.Д.Гурскаму II (1942, 1960—1967), П.С.Кабзарэўскаму 10 (1940, 1948—1967), Дз.М.Кавалёву 18 (1942—1944, 1965—1975), Я.Коласу 47 (1941—1944, 1947—1956), К.Крапіве 4 (1942—1943, 1971—1972), А.А.Куляшову 16 (1942, 1960—1974), І.П.Мележу 12 (1961—1975), Б.М.Мікулічу 6 (1946—1948), Я.С.Мазалькову 55 (1945—1969), П.Е.Панчанку 3 (1942—1943), М.Т.Рыльскаму (1945), М.Танку 12 (1954—1972), А.А.Фадзееву (1951) і інш. Усяго 74 адр.

Лісты М.Ц.Лынькова родным, знаёмым, чытачам, навучэнцам (1946—1975).

Лісты да М.Ц.Лынькова: І.М.Барашкі 13 (1942—1945), П.У.Броўкі 6 (1942—1962), Я.Брыля 6 (1961—1975), К.Буйло 18 (1943, 1960—1974), Л.А.Бэндэ 19 (1942—1961), В.Віткі 9 (1944,



[1960]—1975), П.Ф.Глебкі (1941), А.Жаўрука (1942), М.А.Засіма (1944), А.Іверса (1944), Э.Ш.Кагана 8 (1942—1944), П.С.Кабзарэўскага 32 (1942—1969), К.П.Корсакаса 16 (1949—1974), К.Крапівы 9 (1950—1974), А.А.Куляшова 9 (1942—[1974]), У.Ф.Луцэвіч 3 (1943—[1944]), Я.Маўра (1944), Б.М.Мікуліча 5 (1946—1947), А.Я.Міронава 5 (1946—1947), Я.С.Мазалькова 70 (1945—1969), П.С.Пестрака (1948), Р.К.Сабаленкі (1943), Я.Судрабкална 19 (1958—1965), М.Танка 16 (1942—1973), І.П.Шамякіна 10 (1948—1975), А.І.Якімовіча 13 (1943—1961) і інш. Усяго каля 200 кар.

Лісты да М.Ц.Лынькова: родных, сяброў, чытачоў, навучэнцаў (1942—1975).

Справаздача аб рабоце Бабруйскай філіі "Маладняка" — фотакоп. аўт. М.Ц.Лынькова [1926], аўтабіяграфія (без канца) — фотакоп. аўт. [1935]; лісты СНК БССР, АН СССР, АН БССР, рэд. часопісаў і газет, выд-ваў, сваякоў беларус. пісьменнікаў Камітэта па Сталінскіх прэміях у галіне маст-ва і літаратуры пры СМ СССР, Славянскага камітэта СССР і інш. М.Ц.Лынькову (1941—1978), пратакол пасяджэння ўрадавай камісіі па арганізацыі пахавання народнага паэта Беларусі Я.Купалы (1942), мандаты на з'езды, пленумы ЦК КПБ, СП СССР і інш. (1943—1963), перапіска М.Ц.Лынькова з Беластоцкім аддз. ССП БССР (1943—1945), паст. СНК БССР аб стварэнні камісіі па арганізацыі пахавання К.Чорнага, пасведчанні (1944, 1946), мат-лы аб падрыхтоўцы расшыранага пленума ССП БССР (1945), мат-лы аб удзеле М.Ц.Лынькова ў рабоце I, VII—X сесій Генеральнай Асамблеі ААН (1945—1955), мат-лы аб удзеле М.Ц.Лынькова ў падрыхтоўцы і правядзенні ў г. Мінску чацвёртага тыража выйгрышаў Трэцяй Дзярж. ваеннай пазыкі (1946).

Матэрыялы юбілеяў М.Ц.Лынькова (1949—1974).

Нарыс У.Б.Карпава, інфармацыі, нататкі пра М.Ц.Лынькова — друк. выр. (1945—1975), успаміны В.У.Адамчыка, М.І.Аляксеева, М.Я.Аўрамчыка, А.М.Бачылы, Я.Брыля, К.Буйло, Б.І.Бур'яна, В.У.Быкава, А.П.Бялевіча, Ю.П.Ванага, В.Віткі, Н.С.Гілевіча, С.І.Грахоўскага, У.Б.Карпава, К.П.Корсакаса,

К.Крапівы, М.П.Лобана, П.Е.Панчанкі, М.Танка, І.П.Шамякіна, С.П.Шушкевіча, А.І.Якімовіча і інш. — аўт., маш. з рэд. праўкай, аўтарыз. маш. (1975—1977).

Лісты І.М.Барашкі — Я.Купалу, ССП СССР 3 (1942—1943); ліст К.В.Горава (прэзідэнта АН БССР) К.К.Атраховічу (К.Крапіве) (1942); ліст С.І.Ліхадзіеўскага — Я.Коласу (1945); ліст М.Т.Паслядовіча жонцы і дзецям [1945]; выпіска з загаду Палітупраўлення Заходняга фронту аб прызначэнні А.І.Стаховіча літаратарам у газ. "За Савецкую Беларусь" — коп. (1942); загад Наркамата гандлю СССР аб забеспячэнні работнікаў навукі, маст-ва і літаратуры (1944) і інш.

Фота М.Ц.Лынькова, індывідуальныя і ў групах з І.М.Барашкам, Р.Д.Мурашкам, М.Чаротам пад час рэсп. сходу ССП БССР, на з'ездзе СП СССР, У з'ездзе СП БССР і інш., 20 (1930—[1970]).

Фота з дароўнымі надпісамі М.Ц.Лынькову: І.М.Барашкі (1942), С.М.Новіка-Пяюна (1965), У.І.Уладамірскага (1959).

## Любан І.І.

*Ф. 303; воп.1; 72 адз. зах.; 1935—1975 гг.*

Любан Ісак Ісакавіч (1906-1975) — кампазітар; заслужаны артыст БССР (1956).

Рукапісы-ноты І.І.Любана. Сюіты "Старажытны беларускі вясельны абрад" [1939], "Купальскія сцэны" [1940—1950]; песні на сл. А.Астрэйкі, П.У.Броўкі, А.Г.Русака і інш. (1942—1975); апрацоўкі беларускіх народных песень [1950-я—1960-я]; музыка да фільмаў: "Палеская легенда" П.С.Васілеўскага, М.М.Фігуроўскага (1958) і інш.; да спектакляў тэатра імя Я.Коласа "Несцерка" [1941], "За лясамі дрымучымі" (1958), чарнавы накід трэцяга акта оперы "Несцерка" [1940-я]; уверцюры для сімфанічнага аркестра і народных інструментаў, сюіты, п'есы для ф-п [1930—1970]. Усяго 291 рук.



Лісты да І.І.Любана: супрацоўнікаў літаратурнага музея Я.Купалы (1966), П.А.Харкова (1969), Э.С.Валасевіча (1970).

Матэрыялы да біяграфіі І.І.Любана [1935-1975].

Вершы М.Андронава, П.П.Кудраўцова, А.Г.Русака і інш. — аўт., маш., друк. выд. [1941—1970].

Артыкулы і нататкі пра І.І.Любана — маш., друк. выр. (1956—[1970-я]).

Фота І.І.Любана, індывідуальныя і ў групах з З.І.Азгурам, Ю.С.Арончык, А.Астрэйкам, Я.Купалам і інш., 21 [1920—1960].

## Ляўданскі У.А.

*Ф. 69; воп.1; 31 адз. зах.; 1950—1973 гг.*

Ляўданскі Уладзімір Аляксандравіч (1911—1973) — празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык.

Рукапісы У.А.Ляўданскага. Апавяданні: (1959—1973); артыкулы (1965—[1969]); рэцэнзіі (1969, 1971); аўтабіяграфія (1963). Усяго 20 рук.

Матэрыялы да біяграфіі У.А.Ляўданскага (1962—1971).

Фота У.А.Ляўданскага, індывідуальныя і ў групах з Т.К.Хадкевічам, І.П.Шамякіным і інш., 15 [1950-я—1970-я].

## Мазалькоў Я.С.

*Ф. 259; воп. 1—2; 584 адз. зах.; 1905—1979 гг.*

Мазалькоў Яўген Сяменавіч (1909—1969) — перакладчык, літаратуразнавец; заслужаны дзеяч культуры БССР (1968), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950).

Рукапісы Я.С.Мазалькова. Пераклады: раманаў Я.Коласа, А.М.Кулакоўскага, М.П.Лобана, М.Ц.Лынькова [1955—1967];

аповесцяў — П.Р.Галавача, П.Н.Кавалёва, М.Лужаніна, І.П.Мележа (1960—1970), І.Я.Франко [1940-я—1950-я]; п'есы І.П.Мележа "Дни нашего рождения" (1959); апавяданняў — П.У.Броўкі, С.І.Грахоўскага, Ц.Зарэчнага, А.Н.Карпюка, П.Н.Кавалёва, Я.Коласа, М.Лужаніна, І.Я.Навуменкі, К.Чорнага і інш. (1942—1969); казак — "Как Микола и Петр лошадей на Украине закупали", "Муж богоданный", "О судье праведном, о лягушке, угре, смерти, угоднике Миколе" (1958); вершаў — А.П.Бялевіча, М.А.Багдановіча, П.У.Броўкі, Я.Коласа, П.Е.Панчанкі і інш. (1942—1967); нарысаў: Я.Казекі, К.Крапівы, В.І.Казлова (1943—1965); артыкулаў і дарожных нататак М.Танка "В новой Болгарии" [1950—1951]; выступленняў Я.Купалы "Поднимайся, народ мой, на великую расплату", "Призыв к белорусскому народу" (1942); сцэнарыі радыёперадач пра Вялікую Айчынную вайну (1941—1945); паданні "Одна душа", "Поющая земля" ([940-я]—1959); вершы (1918—[1960-я]); нарысы (1939—1972); успаміны пра Я.Коласа, Я.Купалу [1940-я—1960-я]; артыкулы і нататкі аб праблемах літаратуры і перакладаў пра творчасць П.У.Броўкі, З.Бядулі, Я.Коласа, М.Танка і інш. ([1930-я]—1969); рэцэнзіі на зб-кі артыкулаў, нарысы, аповесці, артыкулы і інш. (1945—1969); выступленні [1940-я—1960-я], прапановы па уніфікацыі перакладу некаторых граматычных форм з укр. і беларус. моў на рус. [1960-я], аўтабіяграфія [1964]. Усяго 482 рук.

Блакноты і сшыткі (8) з запісамі і выпіскамі аб літаратуры, дзеннікавыя запісы (1932—[1960-я]).

Лісты Я.С.Мазалькова: К.Буйло 2 [1959], Л.А.Бэндэ [1950], М.Лужаніну (1959), П.С.Пестраку 3 [1953—1987], К.М.Сіманаву [1950] і інш. Усяго 18 адр.

Лісты да Я.С.Мазалькова: Э.Агняцвет 7 (1940—1967), Л.Л.Арабей 3 (1968), А.Я.Багдановіча — фотакоп. (1940), П.У.Броўкі 60 (1940—1969), Я.Брыля 2 (1961, 1962), К.Буйло 9 (1961—1969), С.М.Гарадзецкага 5 (1947—1963), М.В.Гарбачова 3 (1959—1964), Ц.Гартнага (1936), П.Ф.Глебкі 7 (1942—1965), І.Д.Гурскага 4 (1944—1959), А.А.Зарыцкага 2 (1949), Б.С.Ірыніна 4 (1948—1959), М.В.Ісакоўскага 18 (1942—1969), П.С.Кабзарэўскага 26 (1946—1968), П.Н.Кавалёва 32 (1946—1969), У.Б.Карпава



9 (1957—1962), К.Ц.Кірэенкі 6 (1951—1969), М.М.Клімковіча 5 (1946—1951), Я.Коласа — фота і ксеракоп. 86 (1936—1956), К.Крапівы 5 (1952—1967), А.А.Куляшова 16 (1940—1969), Я.Купалы — фота і ксеракоп. 8 (1936—1942), М.П.Лобана II (1963—1966), Е.Я.Лось 3 (1965—1968), М.Лужаніна 42 (1945—1968), І.Ф.Луцэвіч 52 (1943—1959), М.Ц.Лынькова 15 (1948—1969), А.Я.Макаёнка 3 (1953—1968), І.Я.Навуменкі 35 (1958—1967), П.Е.Панчанкі 6 (1942—1968), П.С.Пестрака 19 (1946—1962), А.В.Пысіна (прыкладзена аўтабіяграфія) (1959), Я.Скрыгана 2 (1960), М.Танка 22 (прыкладзены вершы) (1940—1969), А.Т.Твардоўскага (1950), Т.К.Хадкевіча 2 (1958—1959), К.Чорнага (1940), Р.Р.Шырмы 10 (1939—1951), Р.В.Шкрабы (1962), С.П.Шушкевіча 2 (1959—1969) і інш. Усяго больш за 150 кар.

Дароўны надпіс Я.С.Мазалькову М.В.Ісакоўскага на рук. паэмы А.А.Куляшова "Прыгоды цымбал" (1944).

Афішы і запрашальныя білеты (1942—1968), дамовы з выдавецтвамі на выд. і перавыд. сваіх твораў (1942—1969), мат-лы дзейнасці Я.С.Мазалькова ў камісіях і саветах па пытаннях літаратуры (1948—1969), аўтабіяграфіі (1966—1969), пасведчанне (1968).

Паэма "Тарас на Парнасе" ў перакладзе М.В.Ісакоўскага з беларус. мовы (1939) (прыкладзены ліст Я.С.Мазалькова ў рэд. часопіса "Нёман" 1969), Р.Р.Шырмы "Сонца глянула з усходу" — п'еса (1951) (прыкладзены ліст Р.Р.Шырмы Я.С.Мазалькову), творчыя характарыстыкі-рэкамендацыі на М.В.Гарбачова, М.І.Грабнёва, Н.З.Кісліка, В.А.Лукшу і інш., напісаныя Я.С.Мазальковым (1953—1965).

Адрасы, віншавальныя лісты і тэлеграмы Я.С.Мазалькову з нагоды юбілеяў і ўзнагарод: СП БССР, творчых саюзаў, рэд. газет і часопісаў і інш. устаноў і арганізацый; І.М.Барашкі Дз.З.Бародзіча, Р.С.Бярозкіна, А.А.Зарыцкага, П.С.Кабзарэўскага, А.М.Кулакоўскага, У.Ф.Луцэвіч, М.Ц.Лынькова і інш. (1950—1969).

Нарысы, артыкулы, нататкі, рэцэнзіі на творы Я.С.Мазалькова і інш. — друк. выр. (1927—1979).

Рукапісы: Я.Колас "На ростанях" — раман, кн. 3-я, раздз. 29—35 (1954—1955) і інш.; І.П.Мележ "Дом на праспекце" — аповесць (1954—1955); Я.Брыль "Іржавая стрэлка", "Свята трактарнай песні" — апавяданні (1948—1949), А.М.Кулакоўскі "Бацькава вуліца" — апавяданне (1961), М.Ц.Лынькоў "Падарунак маці", "Цана крыві" — апавяданні (1962); Э.Агняцвет "Шчасце", "Мае думы" — вершы (1946), Г.М.Бураўкін "У маўзалеі" — верш (1962), П.Ф.Глебка "Правадыр" — верш (1942), Я.Колас "Грошай я не маю" (1908), "На развітанне" (1950), "Песняру Максіму Рыльскаму" (1955) — вершы, К.Крапіва "Развітанне сына", "Лісі хвост і воўчы клык", "Сніўся вароне палёт", "Фрыцавы трафеі" — вершы (1942), А.А.Куляшоў "Витебская махорка", "Мельник", "Приговор отца" — вершы ў перакладзе на рус. мову (1941), М.А.Машара "Атрад Юрына", "Дзед Лукаш", "Маці" — вершы (1941—1944); П.У.Броўка — нарыс пра Я.Купалу [1940-я], Я.Колас "Беспощадный обличитель", "За высокую ідэйнасць і мастацкую дасканаласць" і інш. — артыкулы, маш., друк. выр. (1932—1951), П.Фаляў "Манас" — артыкул — маш. [1930-я]; М.В.Гарбачоў — рэцэнзія на зб. вершаў М.С.Смагаровіча "На гранях жизни" — аўтарыз. маш. (1961), А.А.Есакоў "Против искажений истории белорусской литературы" — рэцэнзія на хрэстаматыю С.І.Васілёнка "Белорусская литература" — маш. з аўт. праўкай (1951); Я.Колас "Белорусы никогда не отдадут немецким захватчикам своей воли, своей земли, своей независимости", "К мести, братья славяне!" — прамовы на II і III Усеславянскіх мітынгах у г.Маскве — маш. (1942-1943); А.Т.Твардоўскі — выступленне на II з'ездзе СП БССР — маш. (1949); каляндар памятных дзеячаў літаратуры на 1930 г. (1929); аўтабіяграфіі: Э.Агняцвет, А.Астрэйкі, М.І.Калачынскага, М.М.Клімковіча, М.А.Машары, В.П.Таўлая, М.Танка, Н.М.Тарас — аўтарыз. маш. (1940); лісты: А.М.Глезера А.А.Фадзееву (1949), П.Ф.Глебкі ў Дзяржлітвыд. (1952), Я.Коласа М.Лужаніну — рукап. М.Лужаніна 4 (1948—1955), А.М.Кулакоўскага С.П.Кошачкіну (1967), П.Ф.Прыходзькі М.А.Патапаву (1965) і інш.



Газеты: "За Савецкую Беларусь" (1941), "Савецкая Беларусь" (1942), "За свабодную Беларусь" (1942), сатырычны лісток "Партизанская дубинка" (1942—1943), газета-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну" (1942—1943).

Фота Я.С.Мазалькова, індывідуальныя і ў групах з П.У.Броўкам, Я.Коласам, Н.С.Гілевічам, П.Ф.Глебкам, С.І.Грахоўскім, М.Лужаніным, М.Ц.Лыньковым і інш., 89 (1925—1968).

Фота з дароўным надпісам Я.Коласа Я.С.Мазалькову (1940).

Фота: Я.Коласа [1950-я], М.Ц.Лынькова [1950-я—1960-я], В.Стафаніка [1905—1906] і інш.

## Мазураў К.Т.

*Ф. 333; воп. 1; 7 адз. зах.; 1984—1988 гг.*

Мазураў Кірыла Трафімавіч (1914—1989) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху на Беларусі; Герой Сацыялістычнай Працы.

Рукапісы К.Т.Мазурава. "Незабываемое" — кніга ўспамінаў (1984, 1987); ліст К.Т.Мазурава Г.І.Сурмач (1988).

## Майхровіч С.К.

*Ф. 273; воп.1; 275 адз. зах.; 1925—1981 гг.*

Майхровіч Сцяпан Казіміравіч (1908—1981) — літаратуразнавец, крытык.

Рукапісы С.К.Майхровіча. Манаграфіі: "Янка Лучына. Жыццё і творчасць" ([1950]—1952), "В.І.Дунін-Марцінкевіч" [1951—1952], "Янка Брыль. Жыццё і творчасць" (1957), "Жизнь

и творчество Ф.Богушевича" [1950—1961], "Беларуская літаратура і народная паэзія XIУ—XIX стагоддзяў" (1964), "Слова аб палку Ігаравым" (1965—1968), "Прыказкі і прымаўкі. Гістарычны нарыс" (1972—1974), "Іван Шамякін. Нарыс жыцця і творчасці" (1974), "Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя" (1956), "Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIУ—ХУIII стагоддзяў" [1969—1970] і інш.; артыкулы: "Беларуская літаратура" [1945—1946], "Фальклор і беларуская савецкая літаратура" (1961), "Разгром патомкаў Чынгісхана" (1964), "Баркалабаўская хроніка" [1970-я] і інш.; нарысы пра жыццё і творчасць беларус. пісьменнікаў, польск. дзеячаў літаратуры і маст-ва, славянскіх і беларус. філосафаў — асветнікаў (1948-1970); рэцэнзіі: на рукапісы кніг (1958—1973), на зб-кі вершаў, аповесцяў, апавяданняў (1948—1966); водгукі (1958—1962); прадмовы [1952—1960-я]; выступленні [1952]. Усяго 105 рук.

Лісты да С.К.Майхровіча: П.У.Броўкі 3 (1947—[1978]), Я.Коласа (1947), М.Лужаніна 4 (1954—1978), М.Т.Рыльскага 2 (1946,1947), С.П.Шчыпачова 2 (1954) і інш. Усяго 47 кар.

Матэрыялы да біяграфіі С.К.Майхровіча ([925]—1978).

Рэцэнзіі, водгукі на працы С.К.Майхровіча, нататкі пра жыццё і творчасць — друк. выр. (1954—1981).

Аўтабіяграфіі: П.У.Броўкі [1946—1950], Я.Журбы (1948).

Фота С.К.Майхровіча, індывідуальныя і ў групах з С.І.Грахоўскім, А.С.Ставерам, М.Т.Паслядовічам і інш., 12 (1929—1980); фотарэпрадукцыя С.К.Майхровіча з кіраўнікамі Беластоцкага падполля (1944).

* * *

Дароўныя надпісы С.К.Майхровічу на кнігах: А.П.Бялевіча (1969), Р.С.Бярозкіна (1965), І.І.Грамовіча (1958), А.А.Зарыцкага (1952), М.А.Машары (1952).



## Малкін Б.Я.

*Ф. 203; воп.1; 51 адз. зах.; 1937—1975 гг.*

Малкін Барыс Яўсеевіч (1908—1972) — мастак тэатра імя Я.Купалы, Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М.Горкага, графік.

Малюнкі Б.Я.Малкіна. Эскізы дэкарацый і касцюмаў да спектакляў тэатра імя Я.Купалы (1937—1970); жанравыя карціны [1960-я]; нацюрморты [1960-я]; пейзаж, пейзажныя малюнкі і замалёўкі (1941—1972); карыкатуры для часопіса "Фронтовой юмор" (1942), ілюстрацыі, эскізы плаката для газеты "Раздавім фашысцкую гадзіну" і вокладак для кніг, эмблемы (1942—1975). Усяго 217 мал.

Каталогі выставак Б.Я.Малкіна (1962—1975).

Матэрыялы да біяграфіі Б.Я.Малкіна (1942, 1965).

Фота Б.Я.Малкіна 2 (1968).

## Малчанаў П.С. і Мазалеўская Л.І.

*Ф. 292; воп.1; 260 адз. зах.; 1918—1980 гг.**

Малчанаў Павел Сцяпанавіч (1902—1977) — артыст тэатраў імя Я.Коласа і імя Я.Купалы; народны артыст СССР (1948); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946); яго жонка — Мазалеўская Любоў Іванаўна (1903—1964) — галоўны рэжысёр ТЮГа БССР, артыстка; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1957).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці П.С.Малчанава. Ролі, сыграныя ў тэатры імя Я.Купалы і Дзярж. рускім тэатры БССР імя М.Горкага, 3 (1970—1973); фота ў ролях у спектаклях тэатра імя Я.Коласа: "Незабыўны 1919-ы" У.В.Вішнеўскага, "Рэвізор" М.В.Гогаля, "Сентыментальны вальс" А.Літоўскага, "Прымакі"

Я.Купалы 2 (1928, 1936), "Крамлёўскія куранты" М.Ф.Пагодзіна, "Калі зацвітаюць сады" В.П.Палескага, "Так і будзе", "Хлопец з нашага горада" К.М.Сіманава, "Жывы труп" Л.М.Талстога, "Гамлет" У.Шэкспіра, "Калі співаюць пеўні" Ю.Юр"ева і інш., індывідуальныя і ў групах з М.С.Бялінскай, А.К.Ільінскім, А.П.Радзялоўскай, Ц.М.Сяргейчыкам і інш., 46 (1928—1951); тэатра імя Я.Купалы: "Кастрычнік" М.В.Бальшынцава, "Вечная крыніца" Д.І.Зорына, "Нора" Г.Ібсена, "Макар Дубрава" А.Я.Карнейчука, "Амністыя" М.Я.Матукоўскага, "Людзі на балоце" І.П.Мележа, "Чайка" А.П.Чэхава, "Гульня з кошкай" І.Эркеня, індывідуальныя і ў групах з З.І.Браварскай, Г.П.Глебавым, І.Ф.Ждановіч, Б.В.Платонавым, 52 (1952—1976); фота ў ролях з фільмаў: "Баям насустрач" Э.Аршанскага, "Канстанцін Заслонаў" У.У.Корша-Сабліна, "Незабыўны 1919-ы" М.Чыаурэлі, "Збянтэжаны Саўка" Ю.Сурыкава, індывідуальныя і ў групах з М.Г.Гелавані, У.В.Дружнікавым і інш., 12 (1932—1969).

Рукапісы П.С.Малчанава. Артыкулы: "В жизни и на сцене", "Родны Ільіч" — друк. выр. (1952—1970); нататкі аб рабоце над ролямі: "Геніяльны драматург", "Мой образ В.И.Ленина", "Я жыў яго героямі" і інш. — маш., друк. выр. (1949—1967); выступленне аб падрыхтоўцы тэатра імя Я.Купалы да дэкады беларус. маст-ва і літаратуры ў г.Маскве — маш. (1952); рэцэнзіі на спектаклі тэатра сатыры "Домоклов меч" Н.Хікмета і англ. тэатра "Олд-Вік" — друк. выр. [1960-я]; успаміны: пра Беларускую драм. студыю ў Маскве [1940-я—1950-я], "О Гамлете", пра Я.Коласа і Я.Купалу, "На профессиональной сцене" (пра тэатр імя Я.Коласа) — маш., рук. і інш. [1940-я—1950-я]. Усяго 19 рук.

Ліст П.С.Малчанава Л.І.Мазалеўскай (1955).

Лісты да П.С.Малчанава: Б.М.Афоніна (1945), Т.А.Бандарчык 9 (1961—1974), А.Л.Петрашкевіча [1960-я], А.І.Талстой-Паповай (унучкі Л.М.Талстога) (1951), В.Дз.Ульянавай (пляменніцы У.І.Леніна) 6 (1971—1973). Усяго 9 кар.

Дароўныя надпісы П.С.Малчанаву: Ю.П.Гаўрука на рук. драмы "Кароль Лір" У.Шэкспіра ў яго перакладзе (1950) і Н.Хікмета па праграмах спектакля "Забыты ўсімі" (1958).



Пасведчанні, ордэнская кніжка, мандаты, пропускі, дэлегацкія і дэп. білеты, дыплом лаўрэата Дзярж. пр.СССР (1939—1962), праграмы і афішы тэатра імя Я.Купалы з удзелам П.С.Малчанава (1952—1974), лісты да П.С.Малчанава па пытаннях супрацоўніцтва (1952—1962) і інш.

Граматы, адрасы, нарысы, віншавальныя лісты, тэлеграмы П.С.Малчанаву з нагоды юбілеяў: тэатраў, грамадскіх арганізацый; П.У.Броўкі, І.І.Грамовіча, У.І.Няфёда, Л.Г.Рахленкі і інш. (1952—1972).

Б.І.Бур'ян — "Гамлет с берегов Двины" — сцэнарый дак. фільма — маш. з рэд. праўкай (1968), верш А.А.Куляшова, нарысы, артыкулы, нататкі, успаміны пра П.С.Малчанава — друк. выр. (1947—1973); рэцэнзіі на спектаклі з удзелам П.С.Малчанава — друк. выр. (1950, 1951); пратакол агульнага сходу і стэнаграма пасяджэння работнікаў тэатра імя Я.Коласа па абмеркаванню спектакля "Гамлет" (1946), некралог П.С.Малчанава — друк. выр. (1977).

Трагедыя У.Шэкспіра ў перакладзе Ю.П.Гаўрука з аўт. перакладчыка (1948); камедыя І.Эркеня "Гульня з кошкай" у перакладзе Ю.П.Гаўрука (1975); газ. "Літаратура і мастацтва" (1947); нарыс С.А.Пятровіча "Тэатр над Дзвіною" — друк. выр. (1947).

Партрэты П.С.Малчанава, выкананыя А.В.Лентуховым, М.Мардоўскім 3 (1942—1955). Фота скульптурнага партрэта П.С.Малчанава работы А.А.Бембеля (1956); фота П.С.Малчанава, індывідуальныя, у грыме У.І.Леніна, і ў групах з З.І.Азгурам, М.І.Аладавым, П.У.Броўкам, С.С.Бірылам, М.С.Бялінскай, У.І.Дзядзюшкам, А.К.Ільінскім, З.І.Канапелькай, Б.Г.Кноблак, А.А.Куляшовым, Ц.М.Сяргейчыкам, М.М.Яроменкам і інш., 50 [1918—1970-я].

Фота з дароўнымі надпісамі П.С.Малчанаву: П.Е.Панчанкі (1947), А.Станкевіча (1945), А.І.Талстой-Паповай (1951), В.Дз.Ульянавай (1972), А.І.Хачатурана [1977], Н.Хікмета (1958).

Фота з аўтографамі: А.К.Ільінскага, В.Т.Лебедзева, У.І.Уладамірскага 3 ([1928]—1956).

Фота: Г.П.Глебава, У.І.Дзядзюшкі, Ц.М.Сяргейчыка, А.І.Лагоўскай 4 ([1941]—1977).

Фота з эскізаў дэкарацый 8 (1946).

Матэрыялы артыстычнай і рэжысёрскай дзейнасці Л.І.Мазалеўскай. "Гамлет" — рэж. сцэнарый (1947); фота сцэн са спектакляў, паст. Л.І.Мазалеўскай У ТЮГу БССР: "Горад майстроў" Т.Р.Габэ, "Мінулася кату масленіца" А.М.Астроўскага, "Аркадзь Жыгалкін" Я.Пасава, "Папараць-кветка" І.В.Козела з удзелам А.М.Бляева, В.П.Бузука, У.М.Говар-Бандарэнкі, Р.Ф.Маленчанкі і інш., 37 (1956—1961); фота Л.І.Мазалеўскай у сцэнах у спектаклях: Беларускай драм. студыі "Сон у летнюю ноч" У.Шэкспіра (1925); БДТ-2 "Здані" Г.Ібсена, "Прымакі" Я.Купалы, "Любоў Яравая" А.К.Транёва з удзелам Я.К.Глебаўскай, М.П.Маркоўскай, П.С.Малчанава і інш., 4 (1936—1940); фота ў ролях з фільмаў: "Жанчына" Я.Л.Дзігана, "Залатыя агні" У.У.Корша-Сабліна, "Дзеці партызана" М.М.Фігуроўскага, індывідуальныя і ў групах з А.П.Жакавым, А.Кузняцовым, С.І.Шкуратам, П.А.Шпрынгфельдам і інш., 14 (1932—1954).

Рукапісы Л.І.Мазалеўскай. Артыкулы аб стварэнні вобраза У.І.Леніна на беларус. сцэне [1940-я].

Лісты да Л.І.Мазалеўскай: Т.А.Бандарчык 3 (1949—1963), М.А.Кнебель [1950-я], М.Вяндроўскай (1948), студэнтаў БДТМІ (1955); віншавальныя тэлеграмы ад У.І.Уладамірскага, У.Ф.Луцэвіч 2 (1956). Усяго 5 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Л.І.Мазалеўскай (1939—1964).

Праграмы спектакляў, паст. Л.І.Мазалеўскай у тэатрах Беларусі (1948—1960).

С.А.Пятровіч — сцэнарый тэлеперадачы пра Л.І.Мазалеўскую (1973), рэцэнзіі на спектаклі з удзелам і паст. Л.І.Мазалеўскай (1951—1955), артыкулы, нататкі, некралог Л.І.Мазалеўскай — маш., друк. выр. (1958—1964).

Даклад А.І.Талстой-Паповай "Цыганская песня и русские писатели" — маш. [1941].

Ценявы партрэт Л.І.Мазалеўскай работы М.Мардоўскага (1955); фота скульптурнага партрэта Л.І.Мазалеўскай работы А.А.Бембеля (1967).



Фота Л.І.Мазалеўскай, індывідуальныя і ў групах з П.С.Малчанавым, Т.А.Бандарчык, В.М.Бебутавым, А.М.Бляевым, Б.У.Барысенкам, Л.В.Гепнер, А.П.Марыксам, А.П.Радзялоўскай, У.М.Стэльмахам, Л.Я.Цімафеевай і інш., 33 [1920—1960-я].

Фота з дароўнымі надпісамі Л.І.Мазалеўскай: Л.І.Баранчыка, З.І.Браварскай, Б.А.Дакальскай, У.У.Кудрэвіча, П.С.Малчанава, Б.В.Платонава, У.І.Уладамірскага (1955).

Фота: Т.А.Бандарчык [1930-я], І.Ф.Ждановіч [1950-я], С.М.Станюты [1960-я].

* * *

Дароўныя надпісы П.С.Малчанаву і Л.І.Мазалеўскай на кнігах: П.У.Броўкі (1974), Ю.П.Гаўрука (1975), А.Звонака (1967), М.Ц.Лынькова (1969), А.Л.Петрашкевіча (1970) і інш.

## Малчанаў Ю.Б.

*Ф. 176; воп.1; 5 адз. зах.; 1947—1976 гг.*

Малчанаў Юрый Барысавіч (нар.1921) — артыст; удзельнік канцэртных франтавых брыгад, з 1944 г. — у Маскоўскай аперэце, Ленінградскім тэатры музкамедыі, Адэскім акадэмічным тэатры оперы і балета, з 1947 г. да 1948 г. працаваў у Дзярж. тэатры музкамедыі БССР.

Нарыс Ю.Б.Малчанава; фота сцэны са спектакля Дзярж. тэатра музкамедыі БССР з удзелам Ю.Б.Малчанава (1948); праграмы і афішы спектакляў Адэскага тэатра оперы і балета, Дзярж. тэатра музкамедыі БССР з удзелам Ю.Б.Малчанава (1947—1962).

## Маркоўская М.П.

*Ф. 266; воп.1; 38 адз. зах.; 1920—1980 гг.;*

Маркоўская Марыя Паўлаўна (1910—1981) — з 1919 г. — артыстка цырка і эстрады ў гг. Кіеве, Растове-на-Доне, з 1931 г. — артыстка (акрабатка) у Віцебскім аддзяленні Управлення цыркавымі, эстраднымі і музычнымі прадпрыемствамі, з 1937 г. да 1976 г. — артыстка тэатра імя Я.Коласа; заслужаная артыстка БССР (1966).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці М.П.Маркоўскай. Фота пад час выступленняў у перасоўным цырку і на эстрадзе 3 [1920—1930-я], у ролях са спектакляў тэатра імя Я.Коласа, індывідуальныя і ў групах з Я.К.Глебаўскай, Г.М.Гарбуком, З.І.Канапелькай, П.С.Малчанавым, А.П.Радзялоўскай, Ц.М.Сяргейчыкам, А.М.Трусам, А.Р.Шэлегам, Ф.І.Шмакавым, М.М.Яроменкам і інш., 55 (1920—1976).

Дароўныя надпісы М.П.Маркоўскай на афішах і праграмах спектакляў тэатра імя Я.Коласа: Г.Б.Асвяцінскага, І.П.Шамякіна, Б.У.Эрына і інш. (1938—1976).

Матэрыялы да біяграфіі М.П.Маркоўскай (1940—1976).

Рэцэнзіі на спектаклі з удзелам М.П.Маркоўскай, успаміны пра яе — друк. выр. (1952—1980).

Фота М.П.Маркоўскай 9 (1920—[1970-я]).



## Марыкс А.П.

*Ф. 118; воп. 1—2; 294 адз. зах.; 1908—1977 гг.**

Марыкс Аскар Пятровіч (1890—1976) — мастак тэатра імя Я.Купалы, тэатра імя Я.Коласа і інш., графік, майстар дэкаратыўнага мастацтва; педагог; народны мастак БССР (1961).

Малюнкі і гравюры А.П.Марыкса. Эскізы дэкарацый, касцюмаў і грымаў да спектакляў: тэатра імя Я.Купалы — "Кавальваявода" Е.А.Міровіча 16 (1925), "Салавей" М.Я.Крошнера (1937), "Чужы цень" К.М.Сіманава 2 (1948) і інш.; тэатра імя Я.Коласа — "Фронт" А.Я.Карнейчука 3 (1942), "Проба агнём" К.Крапівы (1943), "Нашэсце" Л.М.Лявонава (1943), "Сям"я" І.Ф.Папова 4 (1949), "Гора ад розуму" А.С.Грыбаедава 14 (1952) і інш.; Гродзенскага абласнога драм. тэатра — "Наш корреспондент" Л.Левіна і І.Метэра 2 (1941), "Собор Парижской богоматери" паводле В.Гюго [1946—1948], "Мария Стюарт" Ф.Шылера 4 (1946), "Живой портрет" А.Марэта 2 (1951), "Деревья умирают стоя" Л.Касоны 3 (1956) і інш.; эскізы, замалёўкі нацыянальнага тэатралізаванага касцюма [1950-я]; эскізы касцюмаў розных эпох і народаў (мат-л, сабр. для кн. "История одежды") (1948—1975); помнікі архітэктуры (1910—[1960-я]); жанравыя карціны і малюнкі (1943—1975); пейзажы і пейзажныя накіды [1930-я—1976]; партрэты (1942—[1960-я]); эскізы пано і чаканкі ([1950-я]—1969). Усяго 556 мал.

Фота работ і рэпрадукцый твораў А.П.Марыкса 71 [1950-я—1960-я].

Фота выстаўкі работ А.П.Марыкса 3 [1940—1941], каталогі выставак 5 (1941—1970).

Рукапіс А.П.Марыкса "История костюмов народов мира" — даследаванне — маш. з аўт. праўкай ([1920-я]—1975).

Лісты да А.П.Марыкса: М.І.Самбурава (1946), А.Б.Скібнеўскага (1950), Ц.М.Сяргейчыка (прыкладаецца

рэцэнзія Я.Матліна на спектакль тэатра імя Я.Коласа "Блудный сын") 2 (1958, 1970), А.М.Шаўчэнкі (1964) і інш. Усяго 15 кар.

Дароўныя надпісы А.П.Марыксу на тытульных лістах каталогаў персанальных выставак: Я.Я.Красоўскага (1963), В.К.Цвіркі (1969).

Даведкі пра работу А.П.Марыкса (1925—1944), асабістая кніжка чырвонаармейца А.П.Марыкса (1927), працоўныя спісы (1936—1952), аўтабіяграфіі 8 (1938—1971), асабістая кніжка ўдзельніка аднаўлення г.Мінска (1944) і інш.

Праграмы і афішы спектакляў, афармленых А.П.Марыксам (1946—1970), спісы яго работ [1940-я—1975], дамовы, характарыстыкі, акты, заявы, лісты па творчых пытаннях і інш. ([1940-я]—1975).

Ганаровыя граматы, адрасы, віншавальныя лісты і тэлеграмы С.С.Казіміроўскага, Ф.Л.Лейтман, А.Дз.Шыбнёва, Р.Р.Шырмы, выразкі з газет з нарысамі іартыкуламі ў сувязі з юбілеямі А.П.Марыкса і наданнем звання нар. маст. БССР і інш. (1941—1977).

Нарысы, успаміны В.Я.Мсяроўскага, водгукі пра А.П.Марыкса і яго творчасць — маш., друк. выр. (1945—1977); некралогі А.П.Марыкса (1976).

Партрэт А.П.Марыкса работы Я.Я.Красоўскага (1970).

Фота А.П.Марыкса, індывідуальныя і ў групах з З.І.Азгурам, І.В.Ахрэмчыкам, В.В.Волкавым, Я.А.Зайцавым, Ц.Я.Кісялёвым і інш.

Фота з дароўнымі надпісамі А.П.Марыксу: З.Елісеевай (артысткі) (1923), У.І.Уладамірскага 4 (1955—1961) і інш. Усяго 9.

### Матусевіч І.А.

*Ф. 251; воп.1; 167 адз. зах.; 1912—1985 гг.*

Матусевіч Іосіф Антонавіч (1907—1985) — артыст тэатра імя Я.Коласа; народны артыст БССР.

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці І.А.Матусевіча. Ролі, сыграныя ў тэатры імя Я.Коласа, Бабруйскім народным і Гомельскім драмтэатрах, 20 (1945—1970); фота ў ролях у спектаклях тэатра імя Я.Коласа: "Іркуцкая гісторыя" А.М.Арбузава, "Рэвізор" М.В.Гогаля, "Ворагі", "На дне" М.Горкага, "Закон вечнасці" Н.У.Думбадзе, "Пінская шляхта" В.І.Дуніна-Марцінкевіча, "Гібель эскадры" А.Я.Карнейчука, "Бацькаўшчына" К.Чорнага, "Гамлет" У.Шэкспіра, "Марыя Сцюарт" Ф.Шылера, індывідуальныя і ў групах з Г.А.Арловай, Л.В.Гепнер, Я.К.Глебаўскай, А.К.Ільінскім, А.Ф.Мельдзюковай, П.С.Малчанавым, Ф.І.Шмакавым і інш., 151 (1929—1984); фота ў ролях з фільмаў з удзелам І.А.Матусевіча 25 (1972—1981).

Рукапісы І.А.Матусевіча. Нарыс "Валодзька, хлопчык мой!" (1973); артыкулы і нататкі пра сумесную працу БДТ-2 з Я.Коласам і пра людзей тэатра (1978—1984); успаміны пра А.П.Радзялоўскую (1972). Усяго 7 рук.

Лісты да І.А.Матусевіча: М.Н.Герчыка (1970), І.І.Грамовіча 3 (1980—1981), А.П.Радзялоўскай (1970), інш. Усяго 12 кар.

Матэрыялы да біяграфіі І.А.Матусевіча (1948—1985). Праграмы спектакляў тэатра імя Я.Коласа з удзелам І.А.Матусевіча (1968—1980).

Альбом з матэрыяламі пра І.А.Матусевіча (1932—1935); нарысы, артыкулы, нататкі пра яго — друк. выр. (1978—1983).

Ценявы партрэт і сяброўскія шаржы на І.А.Матусевіча — мал. Я.Дз.Нікалаева, К.Куксо [1950-я—1970-я].

Фота І.А.Матусевіча, індывідуальныя і ў групах з М.С.Бялінскай, З.С.Вялікім, А.К.Ільінскім, Т.А.Кокштысам, Б.М.Левіным, З.І.Канапелькай, Л.І.Пісаравай і інш., 146 (1912—1984).

Фота з дароўнымі надпісамі І.А.Матусевічу:Г.А.Арловай (1955), Н.Ф.Гвоздзікавай, Я.І.Жарыкава (1977), І.І.Жыновіча (1939), Я.П.Шабана (1965), М.М.Яроменкі (1962) і інш.

Партрэт А.Б.Скібнеўскага — мал. В.А.Скібнеўскай з дароўным надпісам І.А.Матусевічу (1973).

Фота: Г.Б.Шчарбакова [1960-я], Янаша Войча (ГДР) (1978), грымёрнай А.К.Ільінскага (1963), дэкарацыі да спектакля тэатра імя Я.Коласа "Гамлет" [1946]; эскіз касцюма Упманіса да спектакля "Я хачу дамоў" — маст. Я.Дз.Нікалаева (1969).

## Маўзон А.

*Ф. 307; воп.1; 109 адз. зах.; 1937—1979 гг.*

Маўзон Аркадзь (Маўшэнзон Арон Іосфіфавіч) (1918—1977) — драматург.

Рукапісы А.Маўзона. П'есы: "Дзедаў пояс" (1942—1943), "Канстанцін Заслонаў" (1945—1946), "Непримиримость" (1956), "У бітве вялікай" (1957), "Жывыя, не забудзьце!" — урывак (1968), "Усяго адно жыццё" (1969), "Гибель надежд, или землетрясение на одной улице" (1970—1971), "А дзіназаўры — усё адно знікнуць" (1976); сцэнарыі: "Канстанцін Заслонаў" (1947), "Люди в пути" (1973—1974), "Невыдуманная история" [1970-я] і інш. Усяго 16 рук.

Фота А.Маўзона ў ролях у спектаклях БДТ-2; "Лекар паняволі" Мальера, "Дуброўскі" паводле А.С.Пушкіна, "Генеральны консул" Л.Р.Шэйніна, індывідуальныя і ў групах з А.К.Ільінскім, М.П.Маркоўскай, А.Р.Шэлегам і інш.,5 (1937—1940).

Лісты А.Маўзона: В.П.Баскінай 7 (1961—1976), С.С.Казіміроўскаму (1975). Усяго 2 адр.

Лісты да А.Маўзона: Л.А.Абрамяна (1966), І.М.Барашкі 6 (1947—1963), В.П.Баскінай 15 (1961—1975), Г.В.Вігурскай (1962), Г.В.Осіпава 5 (1952—1961), А.С.Падабеда 13 (1966—1969), Я.С.Рамановіча 2 (1946, 1947), Л.Г.Рахленкі (1946), Ц.М.Сяргейчыка 3 (1962), Г.Б.Шчарбакова 4 (1962—1969), Б.У.Эрына 2 (1964) і інш. Усяго 44 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.Маўзона (1947—1976).Праграмы і афішы спектакляў па п'есах А.Маўзона тэатраў гг.Брэста, Гомеля, Ленінграда, Мінска, Масквы і інш. (1947—1971), праграмы маст.фільмаў студыі "Беларусьфільм" (1958—1960).

Артыкулы, нататкі, інфармацыі, рэцэнзіі на п"есы, сцэнарыі і інш. А.Маўзона: Б.І.Бур'яна, У.І.Няфёда, П.Е.Панчанкі, Л.Г.Рахленкі і інш. — маш., друк. выр. (1947—1978).



Фота А.Маўзона, індывідуальныя і ў групах з А.С.Вялюгіным, А.І.Вярцінскім, П.Ф.Глебкам, К.Л.Губарэвічам, І.Л.Дорскім, А.Звонакам, А.К.Ільінскім, У.Б.Карпавым, У.С.Караткевічам, І.П.Шамякіным і інш., 59 ([1930-я]—1975).

Фота з дароўным надпісам А.Маўзону В.М.Турчанкова (1958).

Фота сцэн са спектакляў тэатраў імя Я.Коласа, Я.Купалы і інш. з удзелам: Г.П.Глебава, Б.В.Платонава, І.А.Ражбы, Р.І.Янкоўскага і інш., паст. па п'есах А.Маўзона, 41 (1955—1972).

Фота кадраў з фільмаў Р.М.Віктарава, У.У.Корша-Сабліна, С.І.Сплашнова і інш., паст. па сцэнарыях А.Маўзона на кінастудыі "Беларусьфільм", 21 (1947—1960).

## Маўр Я.

*Ф. 290; воп.1; 165 адз. зах.; 1903—1980 гг.*

Маўр Янка (Фёдараў Іван Міхайлавіч) (1883—1971) — дзіцячы пісьменнік, перакладчык; заслужаны дзеяч культуры БССР (1968); лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

Рукапісы Я.Маўра. Раман: "Дзяўчына-маці" (1946—1947); аповесці: "Аповесць будучых дзён" (1932), "Шлях з цемры" (1946—1948), "Тысяча дзён" (1947), "Фантамабіль прафесара Цылякоўскага" (1954); п'есы: "Хата з краю" (1938), "Памылка" (1940), "Балбатун" (1941); апавяданні: "Чужаземец" (1932), "Казка пра смелага акцябронка Рому" (1935), "Спартак" (1936), "Бярозавы конь" (1938), "Падарожжа ад школы да дому", "Сям"я" (1939), "Начальнік артылерыі" (1940), "На крызе" (1941), "Дзве праўды", "Багіра", "Завошта", "Эталон нявольнікаў" [1945], "Першая ластаўка" (1945—1950), "На парозе будучыні", "Максімка" (1946), "Юбілейны дзед" (1947), "Пестрык" (1948), "Дом пры дарозе", "Запіска", "Знаёмства з героем", "Кастусь і Косцік" (1950); нарысы: "Каляровы душ" (1930), "Падарожжа па

Малой Беларускай чыгунцы" (1938), "Детоубийство" (1945), "Нашы дзеці" (1946), "Невядомы герой", "Раскажы пра сваіх сяброў", "Некалькі слоў пра мараль" (1947), "Як я пазнаёміўся з Я.Коласам" (1952), "На Западном рубеже" (1960); эцюды: "Шапка" (1937), "На краю света" (1942), "Яно" (1946); нататкі (1951—1958), прадмова да рамана "Амок" (1941, 1958); фельетоны (1947, 1965); рэцэнзіі на творы М.І.Гамолкі (1953), на фільм У.У.Корша-Сабліна "Першыя выпрабаванні" (1961); выступленне на сходзе ў СП БССР (1952); інтэрв"ю з кар.: "ЛіМа" (1965), часопіса "Маладосць" (1970); аўтабібліяграфія (1927—1972). Усяго 58 рук.

Дзённікавыя і чарнавыя запісы да сваіх твораў (1941—1969).

Лісты Я.Маўра: А.І.Якімовічу (1945), І.А.Вайнштэйну, Л.А.Міленькаму (1958). Усяго 3 адр.

Лісты да Я.Маўра: П.У.Броўкі (1958); В.Р.Дзмітрыева (1970), М.М.Клімковіча (1953), Я.Коласа 10 (1941—1954), М.Т.Паслядовіча (1968), П.М.Рунца (1968), В.С.Сурскай 19 (1950—1951), А.Л.Тонкеля 8 (1956—1966), В.І.Шаўчэнкі 39 (1955—1965), С.П.Шушкевіча (1963), У.М.Юрэвіча (1968), Б.У.Якаўлева 8 (1955) і інш. Усяго 50 кар.

Загад міністра адукацыі БССР аб узнагароджанні пісьменніка нагрудным знакам "Выдатнік народнай асветы" (1948), дамовы і лісты да Я.Маўра выдавецтваў, рэдакцый газет, часопісаў (1954—1971), асабовы лісток па ўліку кадраў (1967).

Ганаровыя граматы, адрасы, лісты, тэлеграмы Я.Маўру ў сувязі з юбілеямі і ўзнагародамі: мін-ваў, сакратарыята СП БССР, выд-ваў, рэдакцый часопісаў, газет, музеяў; Э.Агняцвет, З.І.Азгура, Я.Брыля, М.М.Носава, М.П.Прыляжаевай і інш. (1948—1968).

Вершы, нарысы, нататкі, інфармацыі, рэцэнзіі, водгукі, успаміны П.Н.Кавалёва пра Я.Маўра — маш., друк. выр. (1947—1980).

Матэрыялы аб смерці Я.Маўра: некралогі, тэлеграмы са спачуваннямі родным і блізкім — маш., друк. выр. (1971).

Ценявы партрэт Я.Маўра — вык. М.М.Медзвядоўскім (1955), фота скульптурнага партрэта Я.Маўра 2 (1955), фота Я.Маўра, індывідуальныя, 30 (1908—1969), з сям"ёй 12 (1908—1971), у групах з М.Васільком, А.С.Вялюгіным, П.Ф.Глебкам, А.Я.Міронавым, М.Г.Ткачовым, М.Танкам, Я.Османісам і інш., 64 (1950—1964).

Фота пахавання і надмагільнага помніка Я.Маўра 3 (1971).



### Махнач А.І.

*Ф. 158; воп.1; 260 адз. зах.; 1940—1969 гг.*

Махнач Алесь (Аляксандр Іванавіч) (нар. 1922) — драматург, празаік, публіцыст; заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Рукапісы А.І.Махнача. П'есы: "Гэта была яна" (1946—1947), "Помста кліча" (1947—1949), "Перад бурай" (1956—1958); камедыі; зб-кі сатырычных сцэнак; апавяданні, нарысы, вершы, артыкулы; дарожныя нататкі і ўспаміны (1950—1968). Усяго каля 150 рук.

Запісныя блакноты і сшыткі А.І.Махнача 12 (1947—1965).

Лісты А.І.Махнача (1955—1969). Усяго 9 адр.

Лісты да А.І.Махнача: М.М.Клімковіча 10 (1962—1968), П.С.Кабзарэўскага 6 (1954—1967); абаронцаў Брэсцкай крэпасці; школьнікаў і інш. (1948—1969). Усяго больш за 60 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.І.Махнача (1947—1969).

Фота А.І.Махнача, індывідуальныя і ў групах, 10 (1955—1968).

## Мацалевіч К.І.

*Ф. 38; воп.1; 22 адз. зах.; 1922—1955 гг.*

Мацалевіч Канстанцін Іванавіч (1895-19 ) — спявак; з 1926 г. — саліст І-га Беларускага дзяржаўнага тэатра; у 1929—1951 гг. — саліст Маскоўскага тэатра оперы і Ленінградскай дзяржаўнай абласной філармоніі.

Праграмы канцэртаў, афішы І-га Беларускага вакальнага квартэта і інш. з удзелам К.І.Мацалевіча (1926—1929).

Артыкулы і нататкі пра канцэрты з удзелам К.І.Мацалевіча — друк. выр. (1926—1929).

Фота К.І.Мацалевіча, індывідуальныя і ў групах з артыстамі І-га Беларускага вакальнага квартэта і БДТ-І, 9 (1927—1929).

Фота з дароўнымі надпісамі К.І.Мацалевічу: І.І.Валадзько 13 (1927), М.А.Зорава [1927], У.М.Крыловіча 2 (1927), А.П.Марыкса (1927), Л.І.Ржэцкай (1927—1928), Т.С.Узунавай (1927—1933), У.І.Уладамірскага (1927) і інш. Усяго 49.

## Мачульскі В.Ф.

Ф. 317; воп.1; 25 адз. зах.; 1929—1975 гг. асобныя дак. 1858—1863 гг.

Мачульскі Васіль Фёдаравіч (1893—1973) — літаратуразнавец; педагог.

Рукапісы В.Ф.Мачульскага. Дысертацыя, нарысы, артыкулы (у асноўным друк. выд., маш.): "Апіс рукапісаў М.Багдановіча і матэрыялаў да яго біяграфіі" (1929), "Да пытання аб беларускім элеменце ў"Слове аб палку Ігаравым" (1929), "Исследования по истории белорусской литературы" (1946) і інш. Усяго 9 рук.

Лісты да В.Ф.Мачульскага: Дз.С.Ліхачова 2 (1961, 1965), В.А.Свобады (1963) і інш. Усяго 4 кар.



Матэрыялы аб удзеле В.Ф.Мачульскага ў ІУ Міжнародным з'ездзе славістаў (1958).

Альбом А.І.Вярыгі-Дарэўскага з запісамі, нотамі, вершамі: В.І.Дуніна-Марцінкевіча, А.Ф.Рыпінскага, І.Сыракомлі і інш. на польск. мове. 1858—1863 гг. — рук. коп. Я.Хвораста (1930).

Водгукі А.М.Вазнясенскага, М.К.Гудзія і інш. на навуковыя даследаванні В.Ф.Мачульскага пра "Слова аб палку Ігаравым" (1946—1963).

М.М.Піятуховіч "Рукапісы А.Ф.Рыпінскага" — артыкул [пач. 1930-х] і інш.

Фота В.Ф.Мачульскага з жонкай, К.А.Федзіным, А.М.Вазнясенскім і інш. — коп., 5 (1951—1952).

Фота вокладкі і аўтографаў з альбома А.І.Вярыгі-Дарэўкага 5 (1858—1863).

## Машара М.

*Ф.1; воп.1; 63 адз. зах.; 1928—1960 гг.*

Машара Міхась (Міхаіл Антонавіч) (1902—1976) — паэт, празаік, драматург, перакладчык.

Рукапісы М.А.Машары. "Вяселле" — паэма, друк. (1933); "Выбраная лірыка" — зб. вершаў, маш. (1941); "Зязюльчыны слёзы" — казкі ў вершах (1960); "Чаму дрыжыць асіна" — легенда ў вершах (1960); вершы: "Васількі", "Край камення і балот", "Шлях цяжкі ланцужны" і інш. (1928—1960); п'есы:"Каморнік" (1929), "Чорт з падпечча" (1938); апавяданні (1928—1933, 1941—1944); пераклады (1928, 1953—1956). Усяго 818 рук.

Лісты М.А.Машары родным і знаёмым (1929). Усяго 10 адр.

**Мележ І.П.**

*Ф. 277; воп.1; 608 адз. зах.; 1938—1978 гг.*

Мележ Іван Паўлавіч (1921—1976) — празаік, драматург, публіцыст, народны пісьменнік БССР (1972); лаўрэат літаратурнай прэміі імя Я.Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

Рукапісы І.П.Мележа. Раманы: "Мінскі напрамак" (1958,1970, 1974), "Людзі на балоце" (1962), "Подых навальніцы" (1966), "Завеі, снежань" (1978), накіды, асобныя раздзелы незакончаных раманаў цыкла "Палеская хроніка", "Час спадзяванняў", "Сцежкі ў асацэ", "Лепшыя гады жыцця" (1968—1976); аповесці: "Гарачы жнівень" (1946), "Сакратар райкома" (1947), "Таварышы" (1947); п'есы: "Хто прышоў уночы" (1945), "Пакуль маладыя" (1955—1956), "У новым доме" (1957, 1960); незакончаныя п'есы: "Старэйшы брат", "Такая зямля", "Цяжкі чалавек" [1950-я]; апавяданні: "Булкін" (1945), "Ноч без зор" (1945), "Такі кароткі водпуск" (1946, 1947), "Удава Кацярына" (1947), "Памылка" (1954) і інш. (1942—1957), (1967—1972); вершы: "Багдановіч", "Жураўлі", "Над ракою" і інш. (1938—1943); "Бацькі і дзеці", "Веснавы цвет", "Цар прыроды", "Белыя вішні і яблыні" (1966), "Крымскія маланкі" (1967); нарысы, прысв. А.М.Адамовічу, К.Крапіве, Р.Ралану, К.А.Федзіну і інш. (1944—1972), кніга нарысаў, эсэ літаратурна-крытычных артыкулаў "Жыццёвыя клопаты" (1974); артыкулы (1948—1975); дысертацыя "Раманы Кузьмы Чорнага" (1948); нататкі (1947—1976); рэцэнзіі на творы В.У.Адамчыка, І.І.Грамовіча, М.Р.Лупсякова (1946—1972); даклады на пасяджэннях секцыі прозы СП БССР, на пленумах праўлення СП БССР і інш. (1956—1972); выступленні на літаратурных вечарынах, на з"ездах СП БССР, на з"ездах СП саюзных рэспублік (1953—1976); успаміны: пра К.Чорнага, пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны і інш. (1955—1975); творч. аўтабіяграфія (1965); інтэрв"ю, дыялогі з кар.: "Литературной газеты" (1956—1975), часопісаў "Вопросы литературы" (1963—1975), "Дружба народов" (1964, 1972), "Русская речь" (1965), замежн. часопіс "Frei Welt" (1966) і інш.; дзённікі, запісныя кніжкі са звесткамі аб рабоце над сваімі творамі (1945—1975); аўт. пераклады на рус. мову: рамана "Минское направление" (1947—1953), п'есы "Кто пришел ночью" (1945), апавяданняў: "Последняя операция" (1944), "Дружеские чувства" (1945), "В горах дожди" (1955), "Свидание" (1974); вершаў: "В палате", "Дорожные знаки", "Мы ночью оставили деревушку" (1942—1943), вершы І.-В.Гётэ ў перакладзе з ням. мовы (1950). Усяго 336 рук.

Пераклады твораў І.П.Мележа: урыўкі з раманаў у перакладах І.В.Клімашэўскай, Д.М.Кавалёва, А.П.Пятроўскага, І.К.Стралкунаса на літ., рус., укр. мовы (1944—1976).

Бібліяграфія твораў І.П.Мележа (1965—1976).

Лісты І.П.Мележа (пераважна коп.): Гораку Мілану (1955), К.Крапіве (1970), Г.М.Маркаву (1975), Л.Я.Пятровай (жонцы) 21 (1945—1974), К.М.Сіманаву (1972), А.П.Смірнову (1955), лісты да чытачоў і школьнікаў (1955—1975) і інш. Усяго 58 адр.

Лісты да І.П.Мележа: М.А.Абалкіна (1967), А.М.Адамовіча 2 (1966, 1971), В.У.Адамчыка (1970), Л.П.Александроўскай (1974), Т.Алімкулава (1975), Ю.А.Андрэева 8 (1973—1976), В.Д.Аскоцкага 3 (1963—1979), С.А.Барадзіна (1974), Я.Брыля (1971), В.І.Бялова (1969), Ю.П.Ванага 9 (1964—1973), Г.Вылчава 2 (1970, 1975), Н.С.Гілевіча (1973), В.В.Гуры (1975), У.Л.Жураўлёва (1965), Ю.А.Збанацкага (1967), О.А.Йыгі 27 (1962-1968), П.С.Кабзарэўскага 2 (1966, 1968), С.Кавалёва 4 (1972—1975), І.Ф.Карабутэнкі 4 (1946—1970), А.З.Карніенкі 2 (1972), А.А.Куляшова (1961), Ф.І.Куляшова 5 (1956—1971), Е.Я.Лось (1972), А.П.Лупана (1961), Г.М.Маркава (1964), А.Я.Міронава (1963), І.Я.Навуменкі 4 (1964), Л.М.Навічэнкі 9 (1963—1976), А.В.Пысіна (1969), В.К.Рэймерыса 2 (1963,1972), С.В.Сартакова 2 (1959—1964), В.А.Смірнова (1964), В.Ф.Субоціна (1973), М.Танка (1968), М.М.Улашчыка 3 (1969—1974), А.З.Хакімава (1971), І.Г.Чыгрынава (1975), І.К.Чабану 3 (1971—1972), Б.У.Эрына 2

(1968—1972), У.М.Юрэвіча (1964), Я.І.Янішчыц (1975) і інш. Усяго 318 кар.

Пасведчанне (1942), дамовы (1945—1976), лісты да І.П.Мележа рэдакцый газет, часопісаў, сав. і замежных выд-ваў (1957—1976), запрашальныя білеты на з'езды і пленумы СП БССР і СССР, канферэнцыі (1949—1972), аўтабіяграфія І.П.Мележа (1957), лісты І.П.Мележа па службовых пытаннях (1960—1976), указы аб прысуджэнні Дзярж. пр. БССР (1962, 1976), стэнаграма другой Усесаюзнай канферэнцыі таварыства СССР — Францыя (1966), перапіска дэпутата Вярхоўнага Савета БССР І.П.Мележа з выбаршчыкамі, мін-вамі і ведамствамі (1966—1973), афішы аб вылучэнні І.П.Мележа ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР (1967—1975); указы: аб наданні звання нар. пісьменніка БССР (1972), аб прысуджэнні І.П.Мележу Ленінскай прэміі (1972); рабочы даклад X камісіі Сусветнага кангрэса міралюбівых сіл (1973).

Адрасы, віншавальныя лісты і тэлеграмы І.П.Мележу з нагоды юбілеяў і ўзнагарод: мін-ваў, СП БССР, выд-ваў, рэдакцый часопісаў, газет, музеяў; Э.Агняцвет, В.У.Быкава, П.У.Броўкі, А.А.Грэчкі, С.П.Кір"янава, М.Р.Ларчанкі, П.Е.Панчанкі і інш. (1966—1974).

Вершы, прысв. І.П.Мележу: А.П.Бялевіча (1971), Н.С.Гілевіча (1970), Е.Я.Лось (1974), П.Е.Панчанкі (1977); сцэнарый дак. фільма, нарысы, артыкулы, нататкі, інфармацыі, рэпартаж пра І.П.Мележа: А.М.Адамовіча, В.У.Адамчыка, Дз.Я.Бугаёва, А.К.Гардзіцкага, М.Ц.Лынькова (1947—1976); бібліяграфія крытычнай літ. пра творы І.П.Мележа (1944—1966); некралогі І.П.Мележа (1976) — маш., друк. выр., друк. выд.

Матэрыялы пра смерць К.Чорнага: некралогі, нататкі пра пісьменніка (1944); прамова старшыні праўлення СП Грузіі І.В.Абашыдзе на XXIII з'ездзе КП Груз. ССР — маш. (1966).

Сяброўскія шаржы на І.П.Мележа 5 (1965—1973).

Фота з партрэта І.П.Мележа (1970); фота І.П.Мележа, індывідуальныя і ў групах з Л.Я.Пятровай (жонкай), Л.І.Мележ (дачкой), П.Ф.Мележам (бацькам), М.Дз.Мележ (маці), 13 (1943—1965); В.М.Ажаевым, Я.Брылём, С.П.Залыгіным,



Дз.М.Кавалёвым, А.М.Кулакоўскім, М.Ц.Лыньковым, А.Я.Макаёнкам, М.А.Стэльмахам, І.П.Шамякіным і інш., 59 (1941—1976).

Фота пахавання І.П.Мележа (1976).

Рэпрадукцыі ілюстрацый да твораў І.П.Мележа 5 (1964—1973).

Фота дзеючых асоб і сцэн са спектакляў па п'есах І.П.Мележа ў паст. беларус. тэатраў 10 (1957—1966).

Фота з дароўнымі надпісамі І.П.Мележу: Ю.А.Андрэева 2 (1975), В.С.Гарбука 3 (1961).

## Міровіч Е.А.

*Ф. 142; воп.1; 53 адз. зах.; 1900-я—1978 гг.*

Міровіч (Дунаеў) Еўсцігней Афінагенавіч (1878—1952) — артыст Санкт-Пецярбургскіх тэатраў: "Адміралцейскага", "Арле-кін", Троіцкага тэатра мініяцюр, Ліцейнага "Народны дом", "Камерцыйны збор" (Кранштат); мастацкі кіраўнік, рэжысёр і педагог БДТ-І (тэатр імя Я.Купалы), ТРАМа, Першага беларускага калгасна-саўгаснага тэатра (г.Гомель), ТЮГа БССР імя Н.К.Крупскай (г.Мінск) і інш; народны артыст БССР (1940); драматург.

Рукапісы Е.А.Міровіча. П'есы (маш.коп.): "Графиня Эльвира" (1910), "Негр-злодей" или черный друг опаснее белых двух" (1910), "Вова приспособился" (1911), "Рыцарь дон Фернандо" (1911), "Остановитесь" ("Фабрика талантов") (1912), "Первая победа" ("Тевтоны") (1914), "Театр купца Епишкина" (1914) і інш., "Каваль-ваявода" — рук. з яго праўкамі (1924), "Запяюць верацёны" — гранкі (1927). Усяго 22 рук.

Матэрыялы артыстычнай і рэжысёрскай дзейнасці Е.А.Міровіча. Фота ў ролі матроса [1900-я]; фотарэпрадукцыі: дзеючых асоб спектакля "Графиня Эльвира", паст. у Ліцейным тэатры

мініяцюр у г.Пецярбурзе 2 [1910]; сцэн са спектакляў БДТ-І: "Міжбур'е" Дз.Курдзіна, "Гута" Р.Я.Кобеца 3 [1930-я].

Прашэнне Е.А.Міровіча галоўнаму ўпраўленню па справах друку ў г.Пецярбурзе — маш. коп. [1906], водгук цэнзара драм. твораў на п'есу Е.А.Міровіча "Опекуны" — маш. коп. (1906); указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб наданні звання нар. артыста БССР Е.А.Міровічу — маш. коп. (1940), атэстат прафесара кафедры майстэрства акцёра Е.А.Міровіча (1947), спіс п'ес, напісаных і паст. Е.А.Міровічам [1940-я], ганаровыя граматы Новасібірскага і Томскага гарвыканкамаў (1943—1944), аўтабіяграфія [1950].

Віншавальны адрас артыстаў кранштацкага тэатра "Коммерческое собрание" (1910), "Трыбуна мастацтва" — часопіс, прысв. 25-годдзю творчай дзейнасці Е.А.Міровіча — друк. выд. (1925); нарысы і нататкі да юбілеяў Е.А.Міровіча — друк. выр. (1948—1978).

Нарысы, артыкулы, нататкі, успаміны В.У.Галіны, Я.С.Рамановіча (1946—1974); некралог Е.А.Міровіча (1952) — друк. выр.

"Театр купца Епишкина" Е.А.Міровіча — кампазіцыя аднаактавых камедый і сцэнічная рэдакцыя Г.Марчука — ксеракоп. (1978).

Фота Е.А.Міровіча, індывідуальныя і ў групах з артыстамі ТЮГа імя Н.К.Крупскай, С.С.Бірылам, В.У.Галінай, Р.В.Млодак іінш., частка фотакоп., 15 ([1900-я]—1949).

## Млодак Р.В.

*Ф. 105; воп. 1, 2; 90 адз. зах.; 1924—1963 гг.**

Млодак Рыта (Рэвека) Веньямінаўна (1906—1969) — спявачка; салістка ДАВТ БССР; народная артыстка БССР (1940).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці Р.В.Млодак. Фота ў ролях у операх: "Кармэн" Ж.Бізэ, "Фауст" Ш.Гуно, "Міхась Падгорны" Я.К.Цікоцкага, "Кветка шчасця" А.Я.Туранкова, "Евгений Онегин", "Пиковая дама", "Мазепа" П.І.Чайкоўскага і інш., індывідуальныя і ў групах з А.Д.Арсенкам, В.Ф.Валчанецкай, М.А.Лазаравым, С.Я.Лемешавым, 78 (1938—1962).

Рукапісы Р.В.Млодак. Нататкі — друк. выр. (б.д.). Усяго 2 рук.

Дароўныя надпісы Р.В.Млодак на нотах: А.В.Багатырова, В.А.Залатарова, Дз.А.Лукаса, П.П.Падкавырава, Р.К.Пукста і інш. (1942—1955).

Матэрыялы да біяграфіі Р.В.Млодак (1941—1964). Афішы і праграмы канцэртаў і спектакляў тэатра оперы і балета БССР з удзелам Р.В.Млодак (1940—1959).

Артыкулы, нататкі пра Р.В.Млодак — друк. выр. (1942—1957).

Фота Р.В.Млодак, індывідуальныя і ў групах з Л.П.Александроўскай, І.М.Балоціным, С.Ю.Друкер, С.Я.Лемешавым і інш., 100 (1924—1958).

Фота з дароўнымі надпісамі Р.В.Млодак: І.С.Казлоўскага 2 (1953), С.П.Шчыпачова (1951), І.П.Яўнзем (1942).

Фота В.І.Казлова 2 (1942).

## Мухарынская Л.С.

*Ф. 349; воп. 1; 247 адз. зах.; 1904—1987 гг.*

Мухарынская Лідзія Саулаўна (1906—1987) — музыказнаўца, фалькларыст; педагог; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974).

Рукапісы Л.С.Мухарынскай. "Историческое развитие белорусского народного творчества" — манаграфія [1960-я—1980-я], "Современная белорусская народная песня" (1967) — дысертацыя; даследаванні: "Мелодический язык современной белорусской народной песни" (1959), "Белорусская народная партизанская песня Великой Отечественной войны" (1968), "Белорусское народное творчество древнейшего исторического периода"

(1970), "К вопросу об эстетическом освоении действительности в белорусской современной народной песне" (1972); нарысы (1951—[1980-я]); артыкулы (1957—1980); сцэнарыі [1960-я—1970-я]; рэцэнзіі і водгукі (1952—1979); выступленні (1957—1983); "Спорные вопросы белорусской фольклористики" — лекцыя [1970-я]; праграмы па курсу беларускага народнага музычнага мастацтва — маш., друк. выд. ([1970-я],1982). Усяго 226 рук.

Запісы беларускіх народных і аўтарскіх партызанскіх песень, зробленыя Л.С.Мухарынскай (1941—1958).

Лісты Л.С.Мухарынскай: М.І.Аладаву [1960-я], Я.С.Саладуху (1967), А.А.Хахлоўкінай (1960—1963) і інш.; у рэдакцыі выд-ваў і інш. (1949—1984). Усяго 23 адр.

Лісты да Л.С.Мухарынскай: Р.М.Аладавай 2 (1974), В.А.Белага 4 (1961—1973), В.М.Бяляева 3 (1959), В.А.Васінай-Гросман 5 (1965—1985), В.Л.Гашоўскага 8 (1971—1978), М.І.Грынберг 20 (1925—1971), В.Я.Гусева 7 (1972—1985), В.Ю.Дэльсона II (1957—1969), А.Н.Дзмітрыева 2 (1969, 1975), Б.Г.Ерзаковіча 3 (1972—1981), Д.В.Жытомірскага (1980), І.І.Зямцоўскага 4 (1967—1979), Л.Э.Красінскай 9 (1954-1986), Л.В.Кулакоўскай 2 (1978), І.Ламель (ГДР) 70 (1963-1983), Т.В.Паповай 10 (1964—1979), Б.В.Смірнова (1961), В.З.Харужага 2 (1967), А.А.Хахлоўкінай 4 (1961—1963), В.А.Цукермана 4 (1963—1983), Я.Чурленітэ 7 (1968—1980), Дз.Дз.Шастаковіча і яго жонкі 23 (1965—1983) і інш. Усяго 76 кар. Лісты выканаўцаў народных песень 89 (1948—[1980]). Лісты рэдакцый часопісаў, выд-ваў, творчых саюзаў, архіваў і інш. 140 (1948—1985).

Пасведчанне аб прысваенні Л.С.Мухарынскай звання медыцынскай сястры (1941), службовыя характарыстыкі (1948—[1966]), спісы навуковых прац Л.С.Мухарынскай за 1935—1971 гг., мат-лы Міжнародных кангрэсаў антрапалагічных і этнаграфічных навук (1964—1976), мат-лы абароны кандыдацкай дысертацыі (1967—1969) і інш.

Віншавальныя лісты, тэлеграмы і інш. Л.С.Мухарынскай з нагоды юбілеяў (1962—1986).

Рукапісы-ноты: А.Філіповіч. Гімнападобны кант-напеў, запісаны кіеўскай пяцілінейнай натацыяй у "Дыярыушы" — фота-



коп. [аўтографа] (1646), запісы беларускіх народных песень М.Ф.Федароўскім, М.М.Чуркіным, Р.Р.Шырмам і інш. — рук. [канец XIX ст., 1920-я—1950-я], запісы беларускіх партызанскіх песень Г.М.Вагнерам, З.Я.Мажэйкай і інш. (1959—1962).

В.А.Сізко. "Белорусская советская опера" — манаграфія — маш. (1958).

Матэрыялы А.А.Хахлоўкінай: асабовы лісток па ўліку кадраў, аўтабіяграфія, спіс навуковых прац, артыкул (1947—1971); лісты радыёслухачоў у муз. рэдакцыю беларус. радыё з тэкстамі партызанскіх песень — маш. коп. 31 (1963—1964) і інш.

Артыкулы, нататкі, рэцэнзіі і водгукі на работы Л.С.Мухарынскай — аўтарыз. маш., друк. выр. (1939—[1980]), стэнаграма абмеркавання артыкула Л.С.Мухарынскай "Воскресить традиции коллективного творчества" ў СК БССР — маш. коп. (1960), пратаколы пасяджэнняў музыказнаўчай секцыі СК БССР з абмеркаваннем яе прац — маш. коп. (1964, 1981).

Фота Л.С.Мухарынскай, індывідуальныя і ў групах з бацькамі, М.І. і Р.М.Аладавымі, Г.С.Глушчанкам, М.Я.Грынблатам, П.Ф.Глебкам, К.І.Сцепанцэвіч, Г.І.Цітовічам і інш., 24 (1904—1981).

Фота: В.З.Харужай, індывідуальныя і ў групах з камсамольскімі актывістамі — коп., 4 (1921), Я.К.Цікоцкага 2 (1934, [1969]), выканаўцаў народных і партызанскіх песень 37 ([1930-я]—1982) і інш.

## Нікалаеў Я.Дз.

*Ф. 252; воп. 1; 229 адз. зах.; 1936—1978 гг.*

Нікалаеў Яўген Дзмітрыевіч (1913—1978) — мастак тэатра імя Я.Коласа; народны мастак БССР (1967).

Малюнкі Я.Дз.Нікалаева. Эскізы дэкарацый, касцюмаў і грымаў да спектакляў: тэатра імя Я.Коласа — "Авадзень" паводле Э.Войніч (1948), "Праўда добра, а шчасце лепш"

А.М.Астроўскага (1950), "Пяюць жаваранкі" К.Крапівы (1950), "Раскіданае гняздо" Я.Купалы (1951), "Тры сястры" А.П.Чэхава (1951), "Гарачае лета ў Берліне" Д.К'юсак (1966), "Шостае ліпеня" М.Шатрова (1967), "Улада цемры" Л.М.Талстога (1969), "Амністыя" М.Я.Матукоўскага (1971), "Прыніжаныя і зняважаныя" паводле Ф.М.Дастаеўскага (1973) і інш.; Станіслаўскага абласнога ўкраінскага драмтэатра імя І.Франко — "Порт-Артур" І.Ф.Папова і А.М.Сцяпанава (1953); пейзажы (1947—1973); партрэт [К.Рагавенкі] (1947), аўтапартрэт [1950-я]; серыя шаржаў на артыстаў тэатра імя Я.Коласа "Троху з сэрцам, троху з перцам" [1950-я]. Усяго 1443 мал.

Альбом Я.Дз.Нікалаева з замалёўкамі пейзажаў [1950-я].

Фота макетаў і эскізаў дэкарацый да спектакляў тэатра імя Я.Коласа, афармленых Я.Дз.Нікалаевым, 198 (1936—1978).

Рукапіс Я.Дз.Нікалаева. Выступленне аб рабоце над дэкарацыямі да спектакля "Шостае ліпеня" М.Шатрова (1967).

Матэрыялы да біяграфіі Я.Дз.Нікалаева (1949—1975).

Артыкулы, рэцэнзіі з упамінаннем пра Я.Дз.Нікалаева — друк. выр. (1959—1976), кніга водгукаў аб яго персанальнай выстаўцы (1974), "Колосовцам" — верш А.Б.Скібнеўскага (1973), нарысы пра артыстаў тэатра імя Я.Коласа, рэцэнзіі на спектаклі тэатра імя Я.Коласа (1973—1976) — друк. выр.

Фота Я.Дз.Нікалаева, індывідуальныя і ў групах з З.І.Азгурам, А.В.Аладавай, У.С.Басалыгам, А.А.Бембелем, С.С.Казіміроўскім, З.І.Канапелькай, Б.У.Эрыным і інш., 61 (1936—1978).

Пейзаж "Вечар" В.Багаткіна з дароўным надпісам Я.Дз.Нікалаеву (1965).

Эскізы дэкарацый і касцюмаў да спектакляў тэатра імя Я.Коласа: А.Бебутавай "Гамлет" У.Шэкспіра 3 (1946); А.Б.Грыгар'янца — "Сіньёр Марыо піша камедыю" А.Нікалаі 5 (1959), "Востраў Афрадзіты" А.Парніса (1960), "Трэцяя галава" М.Эме 3 (1961), "Не трывожся, мама!" Н.Думбадзе 21 (1972), "Заставайцеся сонцам" А.П.Папаяна 26 [1972]; А.П.Марыкса — "Каварства і каханне" Ф.Шылера (1946), "Жывы труп" Л.М.Талстога 8 (1951), "Блізкае" Ю.П.Чапурына [1950], В.Рындзіна



"Ворагі" М.Горкага (1952); А.А.Салаўёва "Чатыры крыжы на сонцы" А.А.Дзялендзіка (1965) і інш.

Фотамантаж спектакля "2.000.000 на дробныя выдаткі" (тэатр імя Я.Коласа) з дароўным надпісам С.Я.Кохана Г.Б.Шчарбакову (1960).

## Нісневічы І.Г. і С.Г.

*Ф. 236; воп. 1, 2; 593 адз. зах.; 1910—1984 гг.*

Нісневіч Ізідар Герасімавіч (1919—1977) — музыказнавец; яго сястра — Сіма Герасімаўна (1914—1985) — музыказнаўца; педагог.

Рукапісы І.Г.Нісневіча. Сцэнарыі: літаратурна-муз. сцэнарый спектакля "Абеліскі" (1972), сцэнарны план оперы паводле Я.Брыля "Зязюльчына рэха" [канец 1950-х], дак. фільмаў пра Р.Р.Шырму, Я.К.Цікоцкага і інш., тэлефільма пра С.Манюшку (1960—1977), заяўкі на фільмы і тэлефільмы (1965—1973), музычных тэле- і радыёперадач пра беларус. кампазітараў: Г.М.Вагнера, Р.К.Пукста, Ю.У.Семяняку, Я.К.Цікоцкага, Г.І.Цітовіча, рус., беларус. і замежн. оперную і балетную музыку і інш. (1946—1975), канцэртаў (1960); нарысы пра дзеячаў рус. савецкай і замежн. культуры, хоры і ансамблі і інш. (1947—[1977]); даведнік "Композиторы Белоруссии" — маш. з рэд. праўкай (1960), заўвагі па слоўніку беларус. раздзела мяркуемага тэатральна-энцыклапедычнага даведніка — маш. [1960-я]; артыкулы, нататкі, агляды, інфармацыі (1946—1977); рэцэнзіі на муз. творы савецкіх кампазітараў, кнігі і зб-кі (1947—1976); даклады, выступленні [1960-я], успаміны пра В.А.Залатарова (1972), інтэрв'ю (1966—1977). Усяго каля 950 рук.

Сшыткі і блакноты з запісамі, выразкамі, звесткамі для сцэнарыяў, нарысаў, артыкулаў і інш., 47 (1952—[1970-я]); дзённікавыя запісы (1954—1964).

Лісты І.Г.Нісневіча: В.А.Залатарову 7 (1942—1944), Е.С.Нісневіч (маці) і С.Г.Нісневіч (сястры) 30 (1945—1965). Усяго 3 адр.

Лісты да І.Г.Нісневіча: У.У.Алоўнікава (1944), Г.М.Вагнера 4 (1960—1961), В.А.Залатарова 16 (1943—[1962]), Л.В.Залатаровай 5 (1942—1943), Я.К.Цікоцкага 12 (1961—1968) і інш. Усяго 67 кар.

Дароўныя надпісы І.Г.Нісневічу: ад С.С.Аксакава на паштоўцы з аўтографам А.Ц.Грачанінава (1961), М.А.Ашрафі і І.А.Султанава (1964), Г.М.Вагнера (1948), П.П.Падкавырава (1946) і інш. на праграмах спектакляў, брашурах, нотных рукапісах. Усяго 14.

Матэрыялы да біяграфіі І.Г.Нісневіча (1933—1977).

Рэцэнзіі А.А.Есакова, Г.М.Загародняга, Я.К.Цікоцкага на кнігі, нарысы І.Г.Нісневіча — аўт., маш., друк. выр. (1961—1967), нататкі, інфармацыі са згадкай пра І.Г.Нісневіча (1948—1975); некралогі І.Г.Нісневіча (1977) — друк. выр.

Нарысы і артыкулы пра музычнае жыццё Беларусі, Таджыкістана, Узбекістана і інш. — рук., маш., друк. выр. ([1940-я]—1971).

Рукапісы і рукапісы-ноты: А.М.Бачылы, А.Л.Бяссмертнага, В.А.Залатарова, Я.К.Цікоцкага і інш. 7 (1929—[1960-я]).

Лісты В.А.Залатарову: А.В.Багатырова 3 (1941—1942), Дз.А.Лукаса (1943), П.П.Падкавырава 2 (1944), Р.Р.Пукста 2 (1944, 1945); лісты М.В.Мільману: А.Н.Амітона (1945), А.К.Клумава 30 (1933—1943); лісты А.Ц.Грачанінава (маш.коп.): С.С.Аксакаву 20 (1932—1940), Р.Р.Шырму 12 (1933—1937); ліст В.А.Залатарова У.У.Алоўнікаву (1943).

Літаратурна-маст. часопіс "Мститель" імя газеты "Правда" з фота і ілюстрацыямі (1944).

Фота І.Г.Нісневіча, індывідуальныя і ў групах з роднымі, Л.М.Абеліёвічам, М.І.Аладавым, Г.М.Вагнерам, З.Л.Кампанейцам, К.Цэкі —італ. дырыжорам, Р.Р.Шырмам, дэлегатамі з'ездаў Саюзаў кампазітараў саюзных рэспублік і інш., 72 (1919—1974).

Фота з дароўнымі надпісамі І.Г.Нісневічу: І.М.Балоціна (1950), І.А.Гітгарца (1958), В.А.Залатарова (1963), М.М.Чуркіна (1949) і інш.



Рукапісы С.Г.Нісневіч. Даследаванні: "Белорусская народная песня в музыкальной драматургии белорусских опер и балетов" [1960—1970], "Белорусский романс" (1964), "Белорусская народная песня в симфоническом и инструментальном творчестве национальных композиторов (1925—1945 гг.)" [1960-я]; падручнікі па гісторыі беларус. музыкі для музычных школ, вучылішчаў і кансерваторый [1960—1980]; нарысы, артыкулы, інфармацыі (1940—1976); рэцэнзіі: на спектаклі ДАВТа БССР (1941—1970), канцэрты сімф. і камернай музыкі, асобныя музычныя творы (1945—1970), даследаванні, манаграфіі, зб-кі вакальных твораў (1956—1978); водгукі пра С.С.Аксакава (1958), хранікальна-дакументальны этнаграфічны фільм "Палескія калядкі" па сцэнарыі З.Я.Мажэйкі [1970-я]; Г.М.Вагнера, В.А.Залатарова, М.М.Чуркіна, В.А.Яфімава і інш. (1946—[1960-я]), сцэнарый радыёперадачы пра Беларускі дзяржаўны народны хор пад кіраўніцтвам Г.І.Цітовіча (1959); даклады, лекцыі і інш. ([1940—1950]—1974); анатацыі да пласцінак з запісамі твораў Л.М.Абеліёвіча, М.І.Аладава, А.В.Багатырова, М.М.Вагнера і інш. [1950—1960]. Усяго каля 190 рук.

Лісты да С.Г.Нісневіч: Л.Ф.Аляксеевай (1941), Н.А.Асрыева 12 (1938—1942), А.В.Багатырова 4 (1941—[1968]), А.А.Гантмана (1942), В.А.Залатарова 182 (1940—1964), Дз.Б.Кабалеўскага (1957), Дз.А.Лукаса II (1942—1943), Р.В.Млодак 6 (1941—1942), Я.К.Цікоцкага 5 (1942), А.С.Чышко 35 (1949—1977) і інш. Усяго 37 кар.

Дароўны надпіс С.У.Палонскага С.Г.Нісневіч на нотах песень (1946).

Матэрыялы да біяграфіі С.Г.Нісневіч (1946—1982).

Артыкулы са згадкай пра С.Г.Нісневіч, інфармацыі пра яе працы — друк. выр. (1951—1975); інфармацыі пра выступленні С.Г.Нісневіч на пленумах, вечарынах і інш. — друк. выр. (1947—1979); водгукі і рэцэнзіі на манаграфіі, лекцыі і інш. працы С.Г.Нісневіч — аўт., маш., друк. выр. (1955—1976).

Артыкулы, нататкі, прысв. беларускаму і ўзбекскаму мастацтву; некралогі Р.В.Млодак, Н.Ф.Сакалоўскага, Я.К.Цікоцкага — друк. выр., фотакоп. (1950—1972); мат-лы да манаграфіі

"Яўген Цікоцкі" [1960—1970]; мат-лы пра В.А.Залатарова ([1940—1950]—1965).

Фота С.Г.Нісневіч, індывідуальныя і ў групах з роднымі, студэнтамі і выкладчыкамі БДК, В.А.Залатаровым, Д.Р.Камінскім, Дз.А.Лукасам, В.А.Яфімавым і інш., 45 ([1910]—1980).

Фота з дароўнымі надпісамі С.Г.Нісневіч: С.У.Палонскага 2 (1943), А.С.Чышко 3 (1949, 1954), Т.І.Шымко (1968).

Дароўны надпіс М.І.Дзянісава Б.А.Мардвінаву на фота ўдзельнікаў дэкады беларускага мастацтва ў Маскве (1940).

Фота: Л.П.Александроўскай, індывідуальныя і з І.М.Балоціным, 3 ([1940-я]—1964), Г.М.Вагнера [1970-я], В.А.Залатарова [1950-я], І.І.Кузняцова [1970-я], П.П.Падкавырава [1950-я], Ю.М.Дрэйзіна, Е.Пашковай, Т.Сяданкінай 3 [1925—1935]; І.І.Жыновіча з артыстамі з Казахстана і франтавікамі 2 (1942); С.У.Палонскага сярод удзельнікаў яго ансамбля (1929), Я.К.Цікоцкага з Карлам Цэкі (італ. дырыжорам) [1960—1970] і інш.

Фота сцэн са спектакляў ДАВТа БССР: "Калючая ружа" Ю.У.Семянякі (1960), "У пушчах Палесся" А.В.Багатырова [1939].

Фота В.М.Фурс у ролях Марыі Грэгатовіч ("Кастусь Каліноўскі" Дз.А.Лукаса) (1960), Аксінні ("Ціхі Дон" І.І.Дзяржынскага), сыграных у ДАВТ БССР, 2 (1947, 1951).

Фота Б.В.Платонава ў ролі Жарава са спектакля Л.І.Мазалеўскай "Даходнае месца", сыгранай у тэатры імя Я.Купалы (1953).

* * *

Дароўныя надпісы І.Г.Нісневічу на кнігах: Л.Д.Аўэрбаха (1966), А.В.Багатырова (1960), Г.М.Вагнера 3 (1958—1975), І.І.Жыновіча (1948), Л.С.Мухарынскай 2 (1959, 1977), Р.Р.Пукста (1958), Ш.С.Сайфідзінава 2 (1967), Я.К.Цікоцкага 3 (1950—1953), М.М.Чуркіна 2 (1948, 1960) і інш. Усяго 51.



## Нядзведскі У.І.

***Ф. 217; воп.1; 143 адз. зах.; 1948—1973 гг.***

Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929—1973) — паэт, празаік.

**Рукапісы У.І.Нядзведскага. Паэмы: "Арлёнак" (1955), "На шэрых барознах" (1957—1958), "У лясной старане" (1961),"Паўкіламетра арбіты" (1973) і інш.; зб-кі вершаў "Вясновыя барозны" (1958), "Вузлы" (1970—1971); вершы (1949—1972); аповесці:"Хлопцы з другога корпуса" (1963—1964), "Экспедыцыя ў змагарах" (1965), "Будую сваю планету" [1965—1970], "Шэрыя світкі" [1965—1972]; зб-кі апавяданняў, апавяданні, гумарэскі [1955—1973]; нарысы, рэпартажы, інфармацыі (1948—[1970]); рэцэнзіі на зб-кі вершаў Э.Зубрыцкага, А.Кукулянскага, Т.Дзмітрусёвай, Л.Мароза, У.І.Ляпешкіна, М.М.Федзюковіча і інш., (1959—[1970]; пераклады вершаў Э.Матузявічуса, С.С.Нараўчатава, С.Нерыс, Д.В.Паўлычкі (1954—[1970]). Усяго 650 рук.**

**Пераклады вершаў У.І.Нядзведскага І.Ц.Бурсавым, Л.С.Рашкоўскім [1960—1970].**

**Матэрыялы да біяграфіі У.І.Нядзведскага (1948—1972).**

**Р.І.Барадулін "Партызанскі край" — верш, прысв. У.І.Нядзведскаму [1958—1960], рэцэнзіі на зб. вершау У.І.Нядзведскага (1960—1962) і інш.**

**Шаржы У.І.Нядзведскага на А.М.Адамовіча, Р.І.Барадуліна, М.Лужаніна, П.Ф.Прыходзьку і інш. [1959—1965].**

**Фота У.І.Нядзведскага, індывідуальныя і ў групах з М.Я.Аўрамчыкам, Г.М.Бураўкіным, Н.С.Гілевічам, Я.Коласам, К.Крапівой, К.Т.Мазуравым, Э.Межэлайцісам і інш., 20 (1953—[1972]).**

**Фота У.С.Караткевіча ў групе з Э.Агняцвет, У.Ф.Луцэвіч і інш., 2 [1957—1959], А.Х.Асіпенкі з С.І.Кухаравым [1965—1968].**

* * *

Дароўныя надпісы У.І.Нядзведскага на кнігах: М.Я.Аўрамчыка (1960), Р.І.Барадуліна (1963), Н.С.Гілевіча (1957), І.І.Калесніка (1959), Е.Я.Лось (1962), П.С.Пестрака (1964), М.А.Скрыпкі (1959) і інш. Усяго 45.

## Няхай Р.В.

*Ф. 88; воп.1, 2; 83 адз. зах.; 1937—1975 гг.**

Няхай Рыгор Восіпавіч (1914-1991) — празаік, паэт.

Рукапісы Р.В.Няхая. Аповесці: "Гудкі абуджаюць вясну" (1949), "Бессмяротная цытадэль" (1958-1959), "Героі не адступаюць" (1960—1965), "Дарога без прывалу" (1964), "Туман над стэпам" (1965) і інш.; апавяданні, нарысы: "Вяца ноу э" (1956), "Суровыя былі" (1966), "Мінскія гарызонты" (1968) і інш.; вершы (1954—1962); пераклады: зб-каў апавяданняў малдаўскіх пісьменнікаў (1956), вершаў У.Грыбаса, А.Ф.Дрылінгі, А.Ю.Мішкеніса, М.Л.Нагнібеды, Л.Украінкі (1943—1954); літаратурныя запісы: І.П.Ветрава "Дружба, згартаваная ў агні барацьбы" (1962), В.І.Лівенцава "Партызанскі край" (1956), І.Г.Шубітыдзе "Палескія былі" (1968) і інш. Усяго 69 рук.

Матэрыялы да біяграфіі Р.В.Няхая (1963—1967).



## Падкавыраў П.П.

*Ф. 247; воп.1; 214 адз. зах.; 1930—1977 гг.**

Падкавыраў Пётр Пятровіч (1910—1977) — кампазітар; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1957).

Рукапісы-ноты П.П.Падкавырава. Творы для сімфанічнага аркестра: сімфонія № 1 "Юнацтва" (1946), сімфонія № 2 (1947, 1979), сімфонія № 3 "Дружба народаў" (1949, 1964), сімфонія № 4 (1972), сімфонія № 5 (1977); "Калгасная сюіта" № 2 (1950), "Святочная уверцюра" (1948), канцэрты для скрыпкі з сімф. аркестрам (1941—1974) і інш.; опера "Павел Карчагін" паводле М.А.Астроўскага, лібрэта аўтара — клавір (1937—1958); "Паэмафантазія" для струннага аркестра з ф-п (1969); "Калгасная сюіта" № 1 для беларус. народнага аркестра ў 4-х частках (1948); камерна-інстр. творы: квінтэты, квартэты, трыо; накцюрны, маршы, фантазіі, эцюды, мікрасюіты, санаты для розных інструментаў і ф-п (1939—1976); вакальна-сімф. творы (1944—1954); песні для хору ([1937]—1955); дуэты (1945-1954); рамансы і песні на сл.А.Астрэйкі, А.М.Бачылы, М.В.Ісакоўскага, Я.Коласа, М.Машары, П.Е.Панчанкі, А.Г.Русака, М.Танка, Т.Р.Шаўчэнкі і інш. (1930—[1971]); апрацоўка народных песень (1945—[1960-я]). Усяго каля 100 рук.

Рукапісы П.П.Падкавырава. Лібрэта оперы "Павел Карчагін" (1956), аўтабіяграфічная аповесць (1960—[1970-я]), артыкулы і нататкі аб оперным жанры (1951-1975), рэцэнзіі на работы і зб-кі песень ([1940]—1972) і інш. Усяго 27 рук.

Лісты П.П.Падкавырава Р.Я.Кісялёву 3 (1958—1959).

Лісты да П.П.Падкавырава: В.А.Залатарова 9 (1944—1963), І.В.Шамава 5 (1953), Р.Р.Шырмы 7 (1947—1952) і інш. Усяго 21 кар.

Матэрыялы да біяграфіі П.П.Падкавырава (1942—1977).

Манаграфія і нарыс Дз.М.Жураўлева "Пётр Падкавыраў" — маш. (1971—1975), сцэнарый музычнай тэлеперадачы А.Дудзіна "Творчы вечар Пятра Пятровіча Падкавырава" — маш. (1960);

нататкі, інфармацыі аб творчасці П.П.Падкавырава — друк. выр. (1946—1974); рэцэнзіі на яго творы: Г.М.Пятрова, Я.К.Цікоцкага і інш. — друк. выр. (1946—1970).

Шаржы А.В.Волкава, С.Р.Раманава на П.П.Падкавырава — друк. выр. (1949, 1954).

Фота П.П.Падкавырава ў групе з Л.М.Абеліёвічам, М.І.Аладавым, У.У.Алоўнікавым, А.В.Багатыровым, Г.М.Вагнерам, М.Дз.Ворвулевым, І.І.Жыновічам, В.А.Залатаровым, К.А.Кацманам, Дз.А.Лукасам, Ю.П.Матраевым, Л.С.Мухарынскай, Р.К.Пукстам, Н.Ф.Сакалоўскім, Я.К.Цікоцкім і інш. 19 (1947—[1970]).

Фота з дароўным надпісам В.А.Залатарова П.П.Падкавыраву (1958).

## Палескі В.

*Ф. 274; воп. 1; 93 адз. зах.; 1923—1982 гг.*

Палескі Вячаслаў (Станкевіч Вячаслаў Пятровіч) (1912—1971) — драматург; заслужаны дзеяч культуры БССР (1967).

Рукапісы В.Палескага. П'есы ([1940-я]—1964), апавяданні, вершы — друк. выр. [1930-я]; нарысы, дарожныя нататкі — друк. выр. (1930—1968); артыкулы — друк. выр. (1950—1971). Усяго 72 рук.

Матэрыялы да біяграфіі В.П.Палескага-Станкевіча (1950—1971). Афішы і праграмы спектакляў, паст. па п'есах В.Палескага (1949—1959).

Водгукі і рэцэнзіі на творы В.Палескага, на спектаклі, паст. па п"есах драматурга ў тэатрах Беларусі — друк. выр.,маш. (1934—1982).

Фота В.Палескага, індывідуальныя, 5 [1960-я], у групах з А.Астрэйкам, В.Вольскім, К.Крапівой, У.У.Коршам-Сабліным, М.Ц.Лыньковым, У.Ф.Луцэвіч, А.Маўзонам, П.Е.Панчанкам, І.П.Шамякіным і інш., 18 (1923—1970); з артыстамі: Г.Б.Абуховіч, Р.І.Гладункай, Я.А.Карнавухавым, Р.А.Качатковым, А.Ф.Кіставым, М.І.Кузьменка, Г.К.Някрасавым, Я.М.Палосіным, С.Ф.Уладычанскім, Р.І.Янкоўскім і інш. II (1950—[1960]).

Фота: Н.Дз.Расолькі (жонкі В.П.Станкевіча) і А.В.Станкевіча (сына) (1970).

## Палітыка Дз.А.

*Ф. 167; воп.1; 113 адз. зах.; 1952—1967 гг.*

Палітыка Дзмітрый Антонавіч (1915—1965) — крытык, літаратуразнавец.

Рукапісы Дз.А.Палітыкі. Манаграфія "Роман Гончарова "Обрыв" (1962), артыкулы, літаратурныя нататкі (1952-1965); водгукі і рэцэнзіі на кнігі В.Вольскага, М.Хведаровіча і інш. (1951—1963); лекцыі, даклады (1947—1965). Усяго каля 100 рук.

Лісты да Дз.А.Палітыкі: В.П.Андрыянавай-Ператц (1950), М.Ф.Бельчыкава (1950), А.Косага (1956), В.Мяцеліцы (1964), М.К.Піксанава 2 (1958, 1964).

Матэрыялы да біяграфіі Дз.А.Палітыкі (1953—1969).

Фота Дз.А.Палітыкі, індывідуальныя і ў групе з членамі сям"і, 4 (1955—1961).

## Палонскі С.У.

*Ф. 30; воп.1; 428 адз.зах.; 1925—1956 гг.**

Палонскі Самуіл Уладзіміравіч (1902—1955) — кампазітар, харавы дырыжор; заслужаны артыст БССР (1940).

Рукапісы-ноты С.У.Палонскага. Музыка да кінафільмаў: "Песня пра дружбу" (1940), "Родныя напевы" У.У.Корша-

Сабліна (1953); інструментальныя творы: "Ах, ты поле маё, поле чыстае", "Хаджу я гуляю наўкола" — варыяцыі на рускія тэмы для народных інструментаў (1953), "Беларускі вянок" — фантазія на тэмы беларускіх народных песень — для акардыёна ці баяна (1950), "Еўрапейская рапсодыя" — для ф-п (1946), "Капрыз" — сола для грубы з ф-п (1942), "Фантазія на беларускія тэмы" — для духавога аркестра, партытура (1951), "Кірмаш" — для аркестра народных інструментаў [1950-я]; песні на словы Э.Агняцвет, Я.Коласа, Я.Купалы, К.Крапівы, М.Ю.Лермантава, М.Машары і інш. (1925—1955); апрацоўкі народных песень і танцаў (1944—1953). Усяго каля 490 рук.

Нотныя сшыткі С.У.Палонскага 43 (1941—1954).

Ліст С.У.Палонскага да К.Ц.Кірэенкі [1950-я].

Лісты да С.У.Палонскага: А.Г.Русака 4 (1939—1954), Р.Р.Шырмы 6 (1950—1952), С.Юшковай (1950) і інш. Усяго 11 кар.

Матэрыялы да біяграфіі С.У.Палонскага (1932—1954).

Запрашальныя білеты, канцэртныя праграмы, афішы (1945—1954).

Фота С.У.Палонскага, індывідуальныя і ў групах з роднымі, П.П.Падкавыравым і інш., 14 (1950—1952).

* * *

Дароўныя надпісы С.У.Палонскаму на кнігах: П.Акуленкі (1950), С.Каца (1949), Р.К.Пукста (1947), В.А.Яфімава (1948—1950) і інш. Усяго 24.



## Пальчэўскі А. і Цулукідзе Т.Р.

*Ф. 50; воп. 1—4; 414 адз. зах.; 1919—1985 гг.**

Пальчэўскі Алесь (Аляксандр Восіпавіч) (1905—1979) — празаік; яго жонка — Цулукідзе Тамара Рыгораўна (1903—1991) — пісьменніца; заслужаная артыстка Гр. ССР (1934).

Рукапісы А.В.Пальчэўскага. Аповесці: "Ты не адзін" (1958—1959), "Акно на волю" (1966), "Сцежкі" (1978) і інш.; п'есы (1945—1975), зб-кі аповесцяў і апавяданняў :Жнівеньская раніца" — гранкі (1965), "Ліпы" (1951) і інш.; сцэнарый тэлеперадачы, апавяданні, казкі (1936—[1976]); вершы, нарысы, артыкулы, рэцэнзіі (1947—[1975]); даклады, выступленні (1961—1968); успаміны пра У.М.Дубоўку, Я.Коласа і інш. (1966—1978); пераклады (1956—1964); аўтабіяграфія (1962); аўтабібліяграфія (1976). Усяго каля 274 рук.

Сшытак і блакнот з чарнавымі запісамі твораў (1960—1975).

Запісы беларус. народных песень, афарызмаў, сабраных А.В.Пальчэўскім [1960-я—1980-я].

Лісты А.В.Пальчэўскага: Т.Р.Цулукідзе 7 (1964—1978). Усяго 3 адр.

Лісты да А.В.Пальчэўскага: Т.Р.Цулукідзе 8 (1967—1978). Усяго 3 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.В.Пальчэўскага (1965—1975).

Нарысы, нататкі, рэцэнзіі, водгук на творы А.В.Пальчэўскага, план вечарыны памяці і інш. (1965—[1982]).

Фота А.В.Пальчэўскага, індывідуальныя і ў групах з роднымі, М.Я.Аўрамчыкам, А.С.Васілевіч, В.Віткам, Ц.Л.Даўгапольскім, І.П.Шамякіным і інш., (1928—[1978]).

Фота: С.Баранавых [1920-я], І.І.Жыновіча [1920—1931], У.М.Хадыкі [1920-я] і інш. — коп.

Фота з дароўнамі надпісамі А.В.Пальчэўскаму: С.І.Грахоўскага (1948), В.П.Каваля (1928).

Рукапісы Т.Р.Цулукідзе: "Всего одна жизнь" — аповесць, маш. з аўт. праўкай (1972—1976); п'есы для дзяцей, сцэнарый дак. фільма, апавяданні, нарысы, артыкул, рэцэнзіі на тэатральныя спектаклі і інш. (1956—1981); успаміны пра А.В.Пальчэўскага, пераклады (1972—1985); дзённікавыя запісы [1979-1984], творчая біяграфія [1960], аўтабібліяграфія (1983). Усяго каля 29 рук.

Лісты Т.Р.Цулукідзе: Я.І.Бяганскай (1983), Р.Р.Стуруа (1985) і інш. Усяго 14 адр.

Лісты да Т.Р.Цулукідзе: К.Буйло 4 (1979—1982), А.С.Васілевіч 3 (1980—1981), Н.В.Гернет [1950-я] і інш. Усяго 104 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Т.Р.Цулукідзе (1924—1983).

Вершы, нарысы і нататкі пра Т.Р.Цулукідзе і яе творчасць — маш., друк. выр., гранка (1966—1984).

Фота Т.Р.Цулукідзе, індывідуальныя і ў групах з Э.Агняцвет, В.Віткам, М.Ф.Дубянецкім, А.В.Пальчэўскім, У.М.Юрэвічам і інш., сябрамі, знаёмымі і інш., 9 (1919—1984).

Фота з дароўным надпісам Т.Р.Цулукідзе С.Краснога (А.Д.Бранскага) (1984).

**Пацехін В.В.**

*Ф. 150; воп. 1; 236 адз. зах.; 1928—1967 гг.*

Пацехін Васіль Васільевіч (1906—1963) — рэжысёр; заслужаны артыст БССР (1949).

Рукапісы В.В.Пацехіна. П"есы, сцэнкі, скетчы, сцэнарыі, інсцэніроўка (1953—1962); рэцэнзіі ([1948]—1960); аўтабіяграфія (1943); дзённік ([1943]—1945), "Прыкладная праграма (метадычны дапаможнік) для выкладчыкаў драматычнага аддзялення рэспубліканскіх пастаянна дзеючых 10-месячных курсаў пры Міністэрстве культуры БССР ([1943]—1963). Усяго каля 140 рук.

Лісты В.В.Пацехіна (1952—1959). Усяго 4 адр.



Лісты да В.В.Пацехіна: В.М.Бебутава 2 (1955), І.І.Пешкура (1960), У.М.Стэльмаха (1955), Л.В.Стэльмаховіча (1957), А.А.Яфрэменкі (1955). Усяго 5 кар.

Праграмы Мінскага дзярж. цырка (1959—1960), Мінскага абласнога свята песні, прысв. 16-м угодкам вызвалення сталіцы Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у паст. В.В.Пацехіна (1959—1960).

Фота В.В.Пацехіна, індывідуальныя і ў групах з артыстамі тэатра імя У.Э.Меерхольда, ТЮГа БССР, 116 (1928—1963).

**Пестрак П.С.**

*Ф. 57; воп.1; 31 адз. зах.; 1947—1983 гг.*

Пестрак Піліп Сямёнавіч (1903—1978) — паэт, празаік, перакладчык; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я.Коласа; заслужаны дзеяч культуры БССР (1968).

Рукапісы П.С.Пестрака. "Серадзібор" — раман [1959—1962]; "Перад вызваленнем" — п'еса, маш. з праўкай [1950-я]; вершы (1960, 1967), артыкулы, рэцэнзіі, аўтабіяграфія (1947—[1970-я]); пераклад апавядання А.Жукаўскаса (1958).

Пераклад рамана П.С.Пестрака "Серадзібор" Ю.П.Гаўруком на рус. мову — гранкі з нязначнай праўкай (1966).

Матэрыялы да біяграфіі П.С.Пестрака (1929—1983).

Матэрыялы рэвалюцыйнай дзейнасці П.С.Пестрака ў Заходняй Беларусі — маш. і фотакоп. (1929—1939).

Фота П.С.Пестрака, індывідуальныя і ў групах з П.У.Броўкам, А.С.Вялюгіным, П.Ф.Глебкам, С.І.Грахоўскім і інш., 4 [1950-я—1970-я].

**Платнер І.**

*Ф. 73; воп. 1; 141 адз. зах.; 1928—1962 гг.**

Платнер Ісак (Айзік Хаймавіч) (1895—1961) — паэт, празаік; пісаў на яўрэйскай мове.

Рукапісы І.Платнера. Паэмы (1928, 1945), вершы (1921—1961); апавяданні (1960); успаміны пра Д.Бергельсона, С.Галкіна, С.Росіна, Э.Ш.Кагана, М.С.Кульбака і інш. [1959]. Усяго каля 240 рук.

Лісты І.Платнера: А.Вольскаму (1961), Л.Я.Ільіной (1961), Л.А.Озераву (1961) і інш. Усяго 6 адр.

Лісты да І.Платнера: П.С.Кабзарэўскага 2 (1957. 1961). Усяго 4 кар.

Матэрыялы да біяграфіі І.Платнера ([1940-я]—1961).

Рэцэнзіі на кнігі І.Платнера — друк. выр. (1956—1959).

Фота І.Платнера, індывідуальныя і ў групе з М.А.Засімам, П.С.Пестраком, В.С.Сурскай, М.Танкам, 3 (1947).

**Платонаў Б.В. і Ждановіч І.Ф.**

*Ф. 220; воп. 1; 315 адз. зах.; 1922—1977 гг.*

Платонаў Барыс Віктаравіч (1903-1967) — артыст тэатра імя Я.Купалы; педагог; народны артыст СССР (1948), народны артыст БССР (1946); яго жонка — Ждановіч Ірына Фларыянаўна (нар. 1906) — артыстка тэатра імя Я.Купалы; педагог; народная артыстка БССР (1940).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці Б.В.Платонава. Ролі, сыграныя ў тэатры імя Я.Купалы, 15 (1937—1953); фота ў ролях і сцэнах у спектаклях: "Фронт" А.Я.Карнейчука, "Канстанцін Заслонаў" А.Маўзона, "Мост" Я.С.Рамановіча, "Мяцеж" Дз.А.Фурманава і С.Палiванава, "Рамэа і Джульета" У.Шэкспіра і інш., індывідуальныя і ў групе с С.С.Бірылам, Г.П.Глебавым, І.Ф.Ждановіч, У.М.Крыловічам, В.М.Пола, Л.І.Ржэцкай, У.І.Уладамірскім і інш., 166 (1922—1965).

Рукапісы Б.В.Платонава. Артыкулы, нататкі, водгукі, успаміны аб рабоце на ролю Леніна, выступленні (1947—1969). Усяго каля 20 рук.

Лісты да Б.В.Платонава: І.М.Балоціна (1958), У.І.Уладамірскага 10 (1959—1966), Б.У.Эрына 6 (1957—1964) і інш. Усяго 64 кар.

Лісты да Б.В.Платонава з устаноў і арганізацый (1948—1965).

Матэрыялы культурна-шэфскай работы: пасведчанне Б.В.Платонава, адказнага брыгадзіра брыгады артыстаў БДТ-1 па мастацкаму абслугоўванню калгасаў (1934), загады, водгукі (1934—1935); пасведчанні артыста тэатра імя Я.Купалы і членскі білет БТА (1947—1960), ганаровыя граматы (1943—1944), дыплом МК СССР аб наданні звання лаўрэата фестывалю драматычных і музычных тэатраў (1957), праграмы і афішы спектакляў тэатра імя Я.Купалы (1948—1961); мат-лы дэпутацкай дзейнасці: пасведчанні, лісты выбаршчыкаў і інш. (1950—1965).

Адрасы тэатра імя Я.Коласа, тэатра оперы і балета БССР, Дзярж.рускага тэатра БССР, МК БССР і інш. Вершы А.А.Куляшова да юбілею Б.В.Платонава (1953).

Сцэнарыі тэлеперадач, артыкулы, успаміны пра Б.В.Платонава — аўт. маш., друк. выр. (1946—1970), артыкулы, рэцэнзіі, нататкі на спектаклі тэатра імя Я.Купалы з яго ўдзелам — маш., друк. выр. (1934—1962).

Стэнаграмы выступленняў М.М.Штрауха, М.А.Сямашкі, Я.М.Яраслаўскага аб рабоце над роллю У.І.Леніна; артыкулы, нататкі пра У.І.Леніна — маш., друк. выр. (1938—1960).

Фота Б.В.Платонава, індывідуальныя і ў групе з З.І.Бравацкай, І.Ф.Ждановіч, У.У.Коршам-Сабліным, К.Крапівой, А.Я.Макаёнкам, П.С.Малчанавым і інш., 142 (1922—1967).

Фота: С.Ю.Друкер [1950-я], М.А.Зорава (1934), У.М.Крыловіча (1935), І.М.Раеўскага 2 (1960), М.К.Філанюка (1953).

Матэрыялы артыстычнай і рэжысёрскай дзейнасці І.Ф.Ждановіч. Ролі, сыграныя ў тэатры імя Я.Купалы, 26 (1937—1961); спіс роляў, сыграных І.Ф.Ждановіч у тэатры імя Я.Купалы за 1920—1970 гг.; фота ў ролях і сцэнах у спектаклях: "Машачка" А.М.Афінагенава, "Апошнія" М.Горкага, "Нора" Г.Ібсена, "Платон Крэчат" А.Я.Карнейчука і інш., індывідуальныя і ў групах з Г.П.Глебавым, У.І.Дзядзюшкам, М.А.Зоравым, У.М.Крыловічам, Л.І.Ржэцкай, Л.Г.Рахленкам, С.М.Станютай, В.М.Пола і інш., 40 (1926—1961). Рэж. экзэмпляры п'ес, рэж. нататкі і мізансцэны да спектакляў, паст. І.Ф.Ждановіч: "Пунцовая кветачка" І.Карнавухавай і Л.Т.Браўсевіча (1952, 1953), "Таня" А.М.Арбузава (1956, 1957) і інш.

Рукапісы І.Ф.Ждановіч.Нататкі,водгукі,выступленні (1933—1969), успаміны аб першых гадах працы ў БДТ-1 (1970). Усяго 7 рук.

Лісты да І.Ф.Ждановіч: З.І.Браварскай (1974),Я.Дылы 2 (1966, 1967), Б.В.Платонава (1950) і інш. Усяго 48 кар.

Праграмы спектакляў тэатра імя Я.Купалы з удзелам І.Ф.Ждановіч (1947—1954), аўтабіяграфія (1961); мат-лы дэпутацкай дзейнасці: заявы, лісты, тэлеграмы і інш. (1947—1956).

Адрасы БТА, тэатра імя Я.Купалы, Дзярж. рускага тэатра БССР; тэлеграмы: Т.М.Аляксеевай, П.У.Броўкі, В.У.Галіны, К.Крапівы і інш. І.Ф.Ждановіч у сувязі з юбілеем (1960, 1976).

Манаграфія, нарысы, артыкулы, нататкі, рэцэнзіі на спектаклі з удзелам І.Ф.Ждановіч — маш., друк. выр. (1935—1970). Вершы Б.В.Платонава, прысв. І.Ф.Ждановіч (1961).

Рэж. экзэмпляры п'ес: "Машачка" А.М.Афінагенава, паст. К.М.Саннікавым — маш. з паметкамі рэж. (1941), "Красная шапочка" Я.Л.Шварца, паст. Дз.А.Арловым У БДТМІ — маш. з паметкамі рэж. (1962), пераклад П.Н.Кавалёва п'есы Д.Гоў і А.Д"Юсо "Глыбокія карані" (1947).

Фота І.Ф.Ждановіч, індывідуальныя і ў групе з К.Крапівой, П.С.Малчанавым, Л.І.Ржэцкай, К.М.Саннікавым, С.М.Станютай, Б.У.Уладамірскім і інш., 13 ([1930-я]—1972).



## Пола В.М.

*Ф. 338; воп. 1; 104 адз. зах.; 1921—1989 гг.*

Пола Вера Міхайлаўна (1901—1989) — артыстка тэатра імя Я.Купалы; народная артыстка БССР (1953).

Матэрыялы артыстычнай дзейнасці В.М.Пола. Ролі, сыграныя ў тэатры імя Я.Купалы, 16 (1948—1974); фота ў ролях і сцэнах у спектаклях: "Жаніцьба Бальзамінава", "Позняе каханне" А.М.Астроўскага, "Суд" У.Галубка, "Кацярына Жарнасек" М.М.Клімковіча, "Канец дружбы", "Партызаны", "Пяюць жаваранкі" К.Крапівы, "Мост", "Палешукі" Я.С.Рамановіча, "Бацькаўшчына" К.Чорнага, "Рамэо і Джульета" У.Шэкспіра і інш., індывідуальныя і ў групах з Г.С.Аўсяннікавым, У.І.Дзядзюшкам, А.П.Доўгай, Р.М.Кашэльнікавай, Л.І.Ржэцкай, С.М.Станютай, Б.У.Уладамірскім і інш., 54 (1923—1973); фота ў ролях з фільмаў: "Несцерка", "Паўлінка" А.Г.Зархі (1952, 1955), "Хвоі гамоняць" Л.Малчанава (1927—1929).

Рукапісы В.М.Пола. Артыкул, успаміны пра першую роль у кіно і рабоце ў тэатры, выступленні ([1955]—1984). Усяго 5 рук.

Матэрыялы да біяграфіі В.М.Пола (1944—1989).

"Щедрые россыпи таланта" — дыпломная праца К.Дз.Гусева аб творчасці В.М.Пола з фота ў ролях і жыцці (1967), нарысы, артыкулы, нататкі пра артыстку, рэцэнзіі на спектаклі з яе ўдзелам — друк. выр. (1929—1988).

Матэрыялы У.М.Крыловіча: фота ў ролях у спектаклях БДТ-1: ["Жорж Дандэн" Ж.Б.Мальера], "Жрэц Тарквіній" С.Палівана — з аўтографамі У.М.Крыловіча 3 (1922—[1926]), нататкі аб рабоце над роллю Чадава — друк. выр. (1935); спачуванне сям'і і калектыву БДТ-1 у сувязі са смерцю У.М.Крыловіча (1937); нарыс, артыкулы пра У.М.Крыловіча — друк. выр. (1970—1986).

Фота В.М.Пола, індывідуальныя і ў групах з З.І.Браварскай, І.Ф.Ждановіч, Р.М.Кашэльнікавай, У.М.Крыловічам, Г.К.Макаравай, Л.Г.Рахленкам, К.М.Саннікавым, І.П.Шамякіным і інш., 61 (1921—[1980-я]).

Фота рэпрадукцыі артыстаў БДТ-1 — 31 [1930-я].

Фота: В.У.Галіны з У.І.Дзядзюшкам і У.У.Кудрэвічам, 2 [1950-я], Б.Я.Малкіна 5 ([1930-я], 1951), Л.Г.Рахленкі [1940-я] і інш., фота з эскіза дэкарацыі Б.Я.Малкіна да спектакля "Пані міністэрша", паст. у тэатры імя Я.Купалы (1956).

**Прохараў Я.В.**

*Ф. 188; воп.1; 138 адз. зах.; 1800-я—1941 гг.*

Прохараў Якаў Васілевіч (1870—1942) — кампазітар; этнограф; педагог.

Рукапісы-ноты Я.В.Прохарава. Рамансы, песні (1908—1927), запісы і апрацоўкі народных песень ([канец 1900]—1938). Усяго каля 650 рук.

Рукапісы Я.В.Прохарава. Даследаванні: "Музыкально-поэтическое творчество русской женщины-крестьянки" (1911), "Музыкально-поэтическое творчество русского народа" (1918—1920); музычна-этнаграфічныя зб-кі (1918—1922); артыкулы, рэцэнзіі, даклады (1914—1925) і інш. Усяго каля 20 рук.

Лісты да Я.В.Прохарава: М.І.Аладава (1918); П.П.Кудраўцова (1919). Усяго 4 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Я.В.Прохарава (1895—1940).

Праграмы і афішы канцэртаў з удзелам Я.В.Прохарава (1895—1940).

Водгукі і артыкулы аб работах Я.В.Прохарава (1911—1937).

Матэрыялы, сабраныя Я.В.Прохаравым для сваіх работ (1888ё1929).

Фота Я.В.Прохарава (1923); малюнкі Я.В.Прохарава 3 (1923).



**Пукст В.К.**

*Ф. 130; воп. 1; 8 адз. зах.; 1927—1937 гг.*

Пукст Варвара Канстанцінаўна (1907—1990) — спявачка тэатра оперы і балета БССР.

Фота сцэн са спектакляў Беларускай студыі оперы і балета, тэатра оперы і балета БССР з удзелам В.К.Пукст 4 (1930—1935).

Праграмы, афішы спектакляў тэатра оперы і балета БССР (1931—1937).

Фота В.К.Пукст у групе з І.М.Балоціным, студэнтамі харавога класа Мінскага муз. тэхнікума (1927).

Фота сцэн са спектакляў Беларускай студыі оперы і балета і тэатра оперы і балета БССР з удзелам І.М.Балоціна, С.Ю.Друкер, М.І.Дзянісава і інш. 4 (1931—1936).

**Пукст Р.К.**

*Ф. 10; воп. 1; 233 адз. зах.; 1918—1961 гг.*

Пукст Рыгор Канстанцінавіч (1900—1960) — кампазітар; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955).

Рукапісы-ноты Р.К.Пукста. Оперы: "Машэка" паводле Е.А.Міровіча, "Магіла Льва" паводле Я.Купалы — лібрэта К.Пуроўскага, урыўкі — клавір (1945—1947), "Марынка" паводле Э.Агняцвет, "Песня пра піянерскі сцяг", яе ж лібрэта — клавір, галасавыя партыі (1954, 1958); музыка да спектакляў (1932—1933); творы для сімф. аркестра: сімфоніі № 2, 3, 4, 5, 6 (1940—1959), сюіты (1929, [1941—1952]); творы для скрыпкі і ф-п [1920-я—1930-я] і інш.; "А хто там ідзе?" — кантата на сл. Я.Купалы (1958); вакальна-сімф. "Паэма аб Чырвонай Арміі" (1938); харавыя і вакальныя творы: фугі, царкоўныя мелодыі, рамансы і песні на сл. А.Астрэйкі, А.М.Бачылы, А.А.Блока,

П.У.Броўкі, Ц.Гартнага, М.М.Клімковіча, Я.Коласа, Я.Купалы, М.А.Машары, А.Г.Русака, М.Танка, С.А.Ясеніна і інш. (1928—1960); запісы і апрацоўкі беларус. народных песень (1928—1954). Усяго каля 225 рук.

Рукапісы Р.К.Пуксга. Артыкулы, рэцэнзіі і інш. (1940—1960). Усяго 20 рук.

Лісты Р.К.Пукста да родных 6 (1959—1960).

Лісты да Р.К.Пукста: жонкі і дзяцей 28 (1953—1960), В.А.Залатарова 2 (1944—1945), Я.К.Цікоцкага 10 (1949—1960), Г.І.Цітовіча (1952), Р.Р.Шырмы 6 (1944—1951) і інш. Усяго каля 73 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Р.К.Пукста (1920—1961).

Э.Агняцвет. "Марынка" — лібрэта оперы з праўкай і дапрацоўкай Р.К.Пукста, прыкл. ліст Э.Агняцвет да Р.К.Пукста (1954); К.Пуроўскі "Машэка" — лібрэта оперы (1958).

Творы і ўрыўкі з твораў рус. і беларус. кампазітараў М.І.Аладава, В.Буніна, С.Н.Васіленкі, А.Ц.Грачанінава, І.І.Любана, Дз.А.Лукаса, С.У.Палонскага, С.В.Рахманінава, І.Ф.Стравінскага, А.Я.Туранкова, Я.К.Цікоцкага, П.І.Чайкоўскага, М.Шчаглова і інш., некаторыя з дароўнымі надпісамі Р.К.Пуксту — аўт., рук., друк. выд. (1918—1958).

Партрэты Р.К.Пукста — мал. С.П.Геруса, А.М.Тычыны, 3 (1949—1954).

Фота Р.К.Пукста, індывідуальныя і ў групах з выпускнікамі Маскоўскай кансерваторыі (у т.л. з М.М. Іпатавым-Іванавым) Омскага дзярж. муз. тэхнікума, з М.І.Аладавым, У.У.Алоўнікавым, В.А.Залатаровым, Дз.А.Лукасам і інш., 47 (1928—1960).

Фота з дароўнымі надпісамі Р.К.Пуксту: Б.Афанасьева [1959], І.М.Балоціна [1935—1936], Я.Э.Віцінга [1948—1950], В.А.Залатарова (1958), Р.Р.Шырмы (1944) і інш.



## Пушча Язэп

*Ф. 26; воп. 1; 123 адз. зах.; 1922—1967 гг.*

Пушча Язэп (Плашчынскі Іосіф Паўлавіч) (1902—1964) — паэт.

Рукапісы Я.Пушчы. Паэмы: "Песня вайны" (1928), "Лявонка" (1950), "Бор шуміць" (1954), "Людвіся" (1959), "Цудоўны час які" (1959); зб-кі вершаў і паэм: "Песні на руінах" — друк. выд. (1929), "Вершы і паэмы" — маш. (1959), "Неадасланыя лісты" — маш. (1960), "Імправізацыя" — маш. (1961), "Вершы і паэмы" (1960), "Нядобрае не вернецца", "Дваццатыя гады" — маш. (1962), "Паэт і салаўі" (1962), "Песні працы" — маш. (1962), "Пачатак легенды" — маш. (1963), "Хараство Радзімы" — маш. (1963); вершы (1922—1962); "Залаты струмень" — легенда (1958), "На Бабрыцы" — казка ў вершах (1958); пераклады (1958—1962); рэцэнзіі на зб-кі вершаў: А.Г.Русака, А.В.Пысіна, С.П.Шушкевіча (б.д.); аўтабіяграфіі 2 (1958,1959). Усяго каля 459 рук.

Запісныя кніжкі Я.Пушчы (9) з накідамі вершаў (1928—1958).

Лісты Я.Пушчы: С.Э.Шпакоўскай (жонцы) 5 (1960), знаёмым (1957—1961). Усяго 3 адр.

Лісты да Я.Пушчы: А.А.Бабарэкі 10 (1933—1935), У.М.Дубоўкі (1958), П.С.Кабзарэўскага 2 (1961), Я.А.Лапеты 39 (1958—1963) і інш. Усяго 14 кар.

Віншавальныя лісты, паштоўкі і тэлеграмы Я.Пушчы з юбілеем (1962).

Дароўныя надпісы Я.Пушчы на кнігах: М.Чарота (1926), Я.А.Лапеты (1959).

Матэрыялы да біяграфіі Я.Пушчы (1929—1963).

Прадмова С.І.Грахоўскага да зб-ка вершаў, артыкулы аб творчасці Я.Пушчы — друк. выр., маш. (1961—1967).

Фота Я.Пушчы, індывідуальныя і ў групах з сям"ёй, роднымі, вучнямі, 26 (1922—1958), У.М.Дубоўкам, М.Я.Зарэцкім, П.Трусам, Я.Коласам, Б.І.Эпімах-Шыпілам і інш., 18 (1924—1927).

Фота з дароўнымі надпісамі Я.Пушчы: А.А.Бабарэкі 2 (1925—1934), У.М.Дубоўкі 5 (1925—1928), У.А.Жылкі 3 (1930), У.М.Сасюры 3 (1928), Г.Вылчава (1961), С.Гурыновіч (1928).

Фота І.Дзядовіча (1933).

## Пысін А.В.

*Ф. 308; воп. 1; 61 адз. зах.; 1939—1985 гг.*

Пысін Аляксей Васільевіч (1920-1981) — паэт; перакладчык; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я.Купалы (1968); заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Рукапісы А.В.Пысіна. Верш "Калісьці лес, вечназялёны..." [1970-я].

Ліст А.В.Пысіна да А.С.Вялюгіна (да ліста прыкл. верш "Балкон суседкі") (1958).

Лісты да А.В.Пысіна: А.П.Кудраўца (1968), І.Рамашова (1968) і інш. Усяго 15 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.В.Пысіна (1940—1985).

Віншавальныя лісты і тэлеграмы А.В.Пысіну з нагоды юбілеяў: А.Астрэйкі, Р.С.Бярозкіна, А.І.Вярцінскага, М.Танка, І.П.Шамякіна і інш. (1968—1980).

Вершы М.Д.Львовіч, прысв. А.В.Пысіну — маш., друк. выр. [1960-я—1970-я], успаміны С.З.Гаўрусёва (1985).

Фота А.В.Пысіна, індывідуальныя і ў групах з Р.І.Барадуліным, П.У.Броўкам , С.І.Грахоўскім, В.А.Ракавым і інш., 83 ([1939]—1981).



## Рамановіч Я.С.

*Ф. 243; воп.1; 531 адз. зах.; 1900-я—1979 гг.*

Рамановіч Яўген Сцяпанавіч (1905—1979) — празаік, драматург, артыст; заслужаны артыст БССР (1944).

Рукапісы Я.С.Рамановіча. Аповесці: "Галіна Званцова" (1955—1956), "Чацьвера з Мінска" (1970—1971); п'есы: "Яны ідуць" (1924), "Палешукі" (1942—1943, 1975), "Товарищ Андрей" (1944); інсцэніроўкі, сцэнкі (1940—1968); лібрэта опер і балетаў: "У пушчах Палесся" (1939), "Дзяўчына з Палесся" (1953), "Падстаўная нявеста" (1958), "Мечта" (1958—1961); сцэнарыі фільмаў, радыё- і тэлеперадач (1952—1978); апавяданні (1954—1978); гумарэскі [1950-я—1960-я]; вершы (1932—1964); нарысы, эсэ (1930—1978); успаміны пра З.Бядулю, Ц.Гартнага, Э.Самуйлёнка, М.Чарота і інш. (1946—1979); артыкулы, нататкі (1944—1977); даклад, выступленні (1943—1977); дзённікавыя запісы (1943—1962); пераклады (1942—1963). Усяго каля 300 рук.

Фота Я.С.Рамановіча ў ролі ад"ютанта ("Кастусь Каліноўскі" 2 (1923) у БДТ-І.

Лісты Я.С.Рамановіча: З.І.Браварскай (1943), І.П.Мележу (1971), М.Танку (1978) і інш. Усяго 17 адр.

Лісты да Я.С.Рамановіча: З.І.Браварскай 4 (1946-1975), В.У.Галіны (1944), К.Крапівы (1942), М.Ц.Лынькова (1942), І.М.Раеўскага (1941), К.М.Саннікава 2 (1943—1944), У.І.Уладамірскага 6 (1944—1969), Х.С.Шынклера (1941) і інш. Усяго каля 52 кар.

Пасведчанні: члена ССП СССР (1934), заг. літаратурнай і навуковай часткі тэатра імя Я.Купалы (БДТ-І) (1935—1948), працоўная кніжка (1939), аўтабіяграфіі 2 (1963, 1978) і інш.

Артыкулы, нататкі, рэцэнзіі на п'есы і лібрэта Я.С.Рамановіча — аўтарыз. маш., друк. выр. (1928—1978), бібліяграфічныя звесткі аб выдадзеных творах і спектаклях, паст. па п'есах Я.С.Рамановіча (1948—1974).

Матэрыялы па гісторыі тэатра імя Я.Купалы: спісы і аўтабіяграфіі артыстаў і мастакоў, рэпертуар, праграмы, афішы; нарысы, артыкулы, нататкі, інфармацыі, карты гастрольных вандровак тэатра і інш. ([1971]—1978).

Аўтапартрэт Я.С.Рамановіча — мал. [1950—1960-я]. Фота Я.С.Рамановіча, індывідуальныя і ў групах з Я.Дылам, Ф.П.Ждановічам, У.М.Крыловічам, Е.А.Міровічам, Б.В.Платонавым, З.Ф.Стомам, У.І.Уладамірскім і інш., 221 (1911—1976).

Фота з дароўнымі надпісамі Я.С.Рамановічу: У.М.Крыловіча 21 (1922—1935), У.І.Уладамірскага 7 (1949—1955), Я.К.Цікоцкага (1967).

Фота: Л.П.Александроўскай [1930-я—1940-я], Ф.П.Ждановіча [1920-я], Л.М.Літвінава (1950), К.Э.Міронавай [1940-я], І.М.Раеўскага [1930—1940-я], К.Чорнага [1940-я], М.М.Шашалевіч [1940-я] і інш.

Памятны альбом з фота дзеючых асоб і сцэн са спектакля "Мост" па п'есе Я.С.Рамановіча ў гонар 200-га паказу спектакля ў БДТ-І [1930].

Фота артыстаў тэатра імя Я.Купалы, індывідуальныя і ў ролях: І.М.Антонава 3 (1935—1938), С.С.Бірылы 7 (1936—1952), В.У.Галіны 13 (1924—[1957]), У.І.Дзядзюшкі 5 (1947—1952), І.Ф.Ждановіч 13 (1934—1957), Р.М.Кашэльнікавай 2 (1956), В.А.Краўцова 4 (1937—1947), Б.К.Кудраўцава 5 (1941—1952), П.А.Пекура 4 (1947—1952), Б.В.Платонава 12 (1922—[1950-я]), В.М.Пола 7 (1929—1950), Л.Г.Рахленкі 7 (1947—1952), Л.І.Ржэцкай 8 (1927—1952), К.М.Саннікава 2 (1938), С.М.Станюты 5 (1933—1943), І.Б.Шацілы 7 (1946—1952), Л.П.Шынко 4 ([1930-я]—1952) і інш.

Фота сцэн са спектакляў тэатра імя Я.Купалы: "Вір" (1926), "Гута" (1930), "Воўкі і авечкі" (1936), "Палешукі" (1944), "Канстанцін Заслонаў" 3 (1947), "Пяюць жаваранкі" (1950), "На досвітку" (1952) і інш. з удзелам А.А.Бараноўскага, С.С.Бірылы, З.І.Браварскай, В.У.Галіны, Г.П.Глебава, Г.Ю.Грыгоніса, У.І.Дзядзюшкі, І.Ф.Ждановіч, Р.М.Кашэльнікавай, У.М.Крыловіча, А.Крыніцы, У.У.Кудрэвіча, М.П.Лысухі, П.С.Малчанава, В.М.Пола, Б.В.Платонава, Л.Г.Рахленкі, Л.І.Ржэцкай, А.В.Рынковіч,



С.М.Станюты, Э.П.Шапко, Л.П.Шынко і інш., 131 (1926—1955).

* * *

Дароўныя надпісы Я.С.Рамановічу на кнігах: А.Астрэйкі (1952), П.У.Броўкі (1974), Я.Брыля (1972, 1973), А.П.Бялевіча (1946, 1959), У.Б.Карпава (1960), А.Маўзона (1964), І.П.Мележа (1954, 1958), Б.С.Смольскага (1963), І.П.Шамякіна (1957) і інш. Усяго 53.

## Рунец П.

*Ф. 62; воп.1; 17 адз. зах.; 1955—1963 гг.*

Рунец Пятро (Пётр Мікалаевіч) (нар. 1911) — празаік.

Рукапісы П.М.Рунца. Апавяданні (1963). Усяго 21 рук.

Фота П.М.Рунца 8 (1955—1962).

## Русак А.Г.

*Ф. 14; воп. 1; 73 адз. зах.; 1926—1962 гг.**

Русак Адам Герасімавіч (1904—1987) — паэт; заслужаны работнік культуры БССР (1964).

Рукапісы А.Г.Русака. Вершы: "А дзе тая вішня", "Вяснявыя плыні", "Добры дзень", "Над Нёманам", "Табе, мой край" і інш. (1927—1962); п'есы, апавяданні (1942—1947); артыкулы (1961—1962); пераклады вершаў А.Будніцкай, М.В.Ісакоўскага, С.Каралёва (1952—1957),; дзённікавы запіс (1960). Усяго больш за 400 рук.

Запісныя кніжкі А.Г.Русака 2 (1936, 1945).

Лісты да А.Г.Русака: К.Буйло 6 (1946—1949), І.А.Гершковіча 8 (1952—1959), М.В.Ісакоўскага 4 (1940—1947), І.І.Любана 8 (1945—1959), І.Я.Маціна 5 (1951—1954), Ю.І.Назаранкі 4 (1954—1958), С.У.Палонскага 9 (1950—1954) і інш.; музычных рэдакцый, Беларускага дзярж. ансамбля песні і танца і інш. (1960—1962). Усяго больш за 100 кар.

Матэрыялы да біяграфіі А.Г.Русака (1941—1961).

Артыкулы, нататкі аб вершах А.Г.Русака — друк. выр. (1939—1961).

Фота А.Г.Русака, індывідуальныя і ў групах з А.Астрэйкам, А.Гурло, Я.Купалам, Я.Коласам, А.А.Куляшовым, І.І.Любанам, П.Е.Панчанкам, Р.Р.Шырмам і інш., 73 (1921—1960).

Фота музыкантаў сімфанічнага аркестра Белдзяржфілармоніі (1957).

## Рылько А.

*Ф. 205; воп.1; 197 адз. зах.; 1947—1967 гг.*

Рылько Алесь (Аляксей Іванавіч) (1923—1967) — празаік, драматург, публіцыст.

Рукапісы А.Рылько. Раман "Срэбныя росы" (1965—1966); аповесці (1947—1958); п'есы (1948—[1950-я]); апавяданні,фельетоны (1947—1959); нарысы, артыкулы, нататкі, рэцэнзіі ([1947]—1966); пераклады [1950-я—1966].

Матэрыялы да біяграфіі А.Рылько (1952—1962).

Рэцэнзіі на зб-кі апавяданняў і п'ес А.Рылько "Зацвіла чаромха" і інш. (1954—1960).



## Рэлес Р.Л.

*Ф. 179; воп. 1; 28 адз. зах.; 1934—1936; 1961—1973 гг.**

Рэлес Рыгор Львовіч (нар. 1913) — паэт, празаік, піша на яўрэйскай і рускай мовах.

Рукапісы Р.Л.Рэлеса: п'есы, навелы; лісты да Р.Л.Рэлеса; фота: С.Баранавых, С.Дарожнага, Р.М.Рэйзіна і інш. — коп. (1934—1936).

## Сабаленка Р.К.

*Ф. 60; воп. 1—2; 142 адз. зах.; 1943—1970 гг.**

Сабаленка Раман Карпавіч (1907—1975) — празаік, паэт, публіцыст.

Рукапісы Р.К.Сабаленкі.Аповесці: "Каралінцы" (1960), трылогія "Іду ў жыццё" ("Юнацтва ў дарозе") (1960), "Выпрабаванне сталасці" (1960), "Агнём гартавання" (1963), "Незамужняя ўдава" (1964), "Лора" (1966), "Трэці не лішні" (1968), "Падарожжа ў Рослікі" (1970). "Дзесяць навел пра адных і тых жа" — аўт., маш. са значнай аўт. праўкай [1970]; апавяданні (1958—[1970]); нарысы (1955—[1960-я]); паэмы, вершы (1943—1954); байкі (1945—1954); артыкулы, рэцэнзіі, выступленні (1961—1964); пераклады [1940-я—1950-я]. Усяго 297 рук.

## Савіцкі А.

*Ф. 218; воп.1; 70 адз. зах.; 1945—1976 гг.**

Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч) (нар. 1924) — празаік; лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

Рукапісы А.А.Савіцкага. Раманы: "Жанчына" (1959—1963), "Палын-зелле горкае" (1962—1966), "Тры непражытыя дні" (1970—1972), "Верай і праўдай" (1972—1974); аповесці: "Самы высокі паверх" (1964—1967), "І нічога ўзамен" (1971); кінасцэнарый "Ля парога" (1968); апавяданні, нарысы (1950—1969). Усяго 18 рук.

Рэцэнзіі Дз.І.Гальмакова, І.П.Шамякіна на творы А.А.Савіцкага (1967, 1968).

Фота А.А.Савіцкага, індывідуальныя і ў групах з А.Ц.Бажко, Г.М.Бураўкіным, І.П.Мележам, П.Е.Панчанкам, І.П.Шамякіным, М.А.Шолахавым і інш., 52 (1945—1976).

## Садоўскі Я.І.

*Ф. 92; воп. 1; 386 адз. зах.; 1929—1976 гг.**

Садоўскі Яфім Ільіч (нар. 1908) — празаік, нарысіст, паэт.

Рукапісы Я.І.Садоўскага. Аповесці: "Заводские журналисты" (1948—1954); "Окрыленная песня" (пра П.Труса) (1950), "Мицкевич в Белоруссии" (1953—1954) і інш.; апавяданні (1937—1970); гумарэскі (1961—1969); вершы (1958—1968); нарысы (1945—1972); артыкулы (1948—1975); успаміны: "Записки старого комсомольца" (1950), "Из моего репортерского опыта" (1953), "Литературные встречи" (1960) і інш.; дзённікавыя запісы (1947—1976); аўтабіяграфіі 2 (1964, 1970) і інш. Усяго каля 450 рук.

Лісты Я.І.Садоўскага ў рэдакцыі часопісаў (1954—1973). Усяго 4 адр.

Лісты да Я.І.Садоўскага: М.І.Аляксеева 15 (1946—1976), П.У.Броўкі (1954), П.С.Кабзарэўскага (1950), С.С.Пілітовіча II (1954—1974), С.П.Шушкевіча (1964) і інш. Усяго каля 100 кар.

Матэрыялы да біяграфіі Я.І.Садоўскага (1943—1975).

Водгукі на апавяданні Я.І.Садоўскага — аўтарыз. маш. (1953—1955).

Фота Я.І.Садоўскага, індывідуальныя і ў групах з М.М.Барсток, К.Буйло, В.Вольскім, П.В.Лютаровічам і інш., 45 (1942—1973).

Рэпрадукцыя карціны М.І.Манасзона "Максім Багдановіч і Змітрок Бядуля ў Мінску 1916 г." з дароўным надпісам Я.І.Садоўскаму — фотакоп. (1974).

Фота: Б.Берут у час сустрэчы на Мінскім вакзале (1949); Я.Колас сярод партыйных работнікаў і выбаршчыкаў у г. Мозыры 2 (1949, 1952); П.К.Панамарэнка з К.Я.Варашылавым, В.І.Казловым і інш. у г. Мінску 2 (1946, 1948).

Агітплакат "Раздавім фашысцкую гадзіну" з аўтографамі А.Астрэйкі, К.Крапівы, М.Танка, К.Чорнага (1942).

## Салавейчык І.І.

*Ф. 169; воп.1; 255 адз. зах.; 1928, 1949—1966 гг.*

Салавейчык Ісак Іосіфавіч (1890—1967) — фотакарэспандэнт; з 1916 г. — у фатаграфіі Макоўскага (г.Віцебск); з 1926 г. — у Белдзяржкіно, Белдзяржвыдавецтве, у газ. "Літаратура і мастацтва".

Фота пісьменнікаў, індывідуальныя і групавыя: П.У.Броўкі 8 (1961), Я.Брыля з А.С.Васілевіч, Р.В.Няхаем і інш. 5 (1952), В.Віткі з В.Ф.Вольскім, А.Маўзонам, П.Е.Панчанкам і інш. 6

Афішы літаратурных вечарын (1958—1975); святаў паэзіі ў Вязынцы і Мікалаеўшчыне (1973, 1974); творчых вечарын і сустрэч: М.Я.Аўрамчыка, М.А.Багдановіча, Р.І.Барадуліна, Г.М.Бураўкіна, А.І.Вярцінскага, Н.С.Гілевіча, А.А.Зарыцкага, В.В.Зуёнка, К.Ц.Кірэенкі, І.Я.Навуменкі, І.П.Шамякіна і інш. (1973—1984).

Метадычныя распрацоўкі лекцый: С.Х.Александровіча, Дз.Я.Бугаёва, Р.С.Бярозкіна, У.В.Гніламёдава, С.К.Майхровіча, М.Мішчанчука, М.І.Мушынскага, В.Ц.Мысліўца, Я.Семяжона і інш. (1970—1982).

Гадавыя справаздачы і інш. матэрыялы бухгалтэрыі (1957—1984).

## Беларускае аддзяленне літаратурнага фонду СССР

*Ф. 65; воп. 1; 155 адз. зах.; 1941—1984 гг.*

Створана ў 1934 г. пры саюзе пісьмннікаў БССР як грамадская арганізацыя. Ажыццяўляе матэрыяльна-побытавую дапамогу пісьменнікам.

Загады, пастановы, выпіскі з пратаколаў Літфонду СССР (1945—1956); загады па Літфондзе (1944—1965).

Пратаколы савета і праўлення Літфонду (1948—1984).

Творчыя справаздачы пісьменнікаў (1948). Спісы: маладых пісьменнікаў (1954); рэабілітаваных пісьменнікаў (1956); пісьменнікаў-інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны (1955); членаў Літфонду (1979—1984).

Перапіска з СМ БССР аб узвядзенні помніка М.А.Багдановічу ў г.Ялта і інш. (1948).

Матэрыялы аб дзейнасці Літфонду ў гады Вялікай Айчыннай вайны (пастановы, спісы, перапіска і інш.) (1941—1944).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. дакументы бухгалтэрыі (1941—1984).



## Усебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк"

*Ф. 225; воп. 1; 20 адз. зах.; 1924—1927 гг.*

Узнікла ў лістападзе 1923 г. як гурток маладых паэтаў пры часопісе "Маладняк". Заснавальнікі: А.І.Александровіч, А.А.Бабарэка, А.Вольны, А.Дудар, Я.Пушча, М.Чарот. З утварэннем філіі ў Маскве (май 1924 г.) і ініцыятыўных груп у Віцебску і Магілёве — набывае найменне Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў. Мела філіі, студыі і гурткі ў розных гарадах Беларусі, а таксама Смаленску, Ленінградзе, Празе, Рызе. У яго ўваходзілі нацыянальныя секцыі рускіх, літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх пісьменнікаў. Узначальвала работу аб'яднання Цэнтральнае бюро. У лістападзе 1928 г. рэарганізавана ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

Пратаколы аргкамітэта па скліканні I Усебеларускага з’езда пісьменнікаў аб’яднання "Маладняк" (1925); пасяджэнняў Цэнтральнага бюро "Маладняк" (1925—1927); I акруговай канферэнцыі Магілёўскай філіі (1925); агульных сходаў філій: Барысаўскай, Бабруйскай, Віцебскай (1925), Гомельскай (1926—1927), Мінскай, Магілёўскай, Мозырскай, Полацкай (1925—1926), Горацкай студыі, Аршанскай філіі, гуртка ў Мсціславе (1925). Анкеты дэлегатаў з'езда (1925—1926).

Перапіска Цэнтральнага бюро з філіямі па пытаннях работы, аб перасылцы літаратуры, часопіса "Маладняк" і г.д. (1925—1927).

Лісты У.М.Дубоўкі і А.Звонака ў Мінскую філію (1926), П.Ф.Глебкі ў Цэнтральнае бюро з просьбай аб матэрыяльнай дапамозе, У.М.Дубоўкі да М.Чарота (1928) і інш.

Вершы і нарысы маладнякоўцаў (1925).

Справаздачы аб рабоце філій: Бабруйскай, Калінінскай, (1925—1927), літ.-маст. гуртка ў Мсціславе (1925).

Спіс адрасоў філій "Маладняка", размешчаных на тэрыторыі Беларусі (1926); спісы членаў аб’яднання "Маладняк" па філіях:

Барысаўскай, Віцебскай (з анкетамі), Магілёўскай, Гомельскай (1926), Слуцкай (з анкетамі) (1925, 1927).

Аўтабіяграфіі маладнякоўцаў Віцебскай філіі (1925).

Заява У.Галубка аб залічэнні ў аб'яднанне "Маладняк" (1926).

## Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў (УУААП)*

*Ф. 81; воп. 1; 195 адз. зах.; 1917—1935; 1944—1988 гг.*

Створана ў 1926 г. як Беларускае таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў (Белдрамтаварыства Наркамасветы БССР; з 1931 г. — Беларускае таварыства драматургаў, кампазітараў і сцэнарыстаў; з 1933 г. — Упраўленне па ахове аўтарскіх правоў ССП БССР; з 1938 г. — Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў (УУААП); з 1941 г. да 1944 г. УУААП часова не дзейнічала, са снежня 1944 г. па 1973 г. — Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў Саюза пісьменнікаў БССР.

У 1973 г. УУААП было ліквідавана і пастановай СМ СССР ад 16.08.73 г. на яго базе створана Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах.

Пастановы і распараджэнні СНК і Наркамасветы СССР і БССР па пытаннях аўтарскага права (1928—1931); пратаколы: праўлення (1928—1931), рэвізійнай камісіі (1927—1931), рэдакцыйнай камісіі (1928—1930), сходаў (1982—1988); стэнаграмы Усесаюзных канферэнцый (1929—1932); планы і справаздачы (1944—1988); звесткі аб рэпертуары тэатраў, клубаў; асабовыя справы аўтараў (1940—1965); перапіска з аддзяленнямі і агентамі, дзеячамі культуры Беларусі і інш. (1928—1979).

* З 1991 г. — Беларускае рэспубліканскае агенцтва па аўтарскіх правах, з жніўня 1992 г. — Упраўленне па аўтарскіх і сумежных правах пры СМ Рэспублікі Беларусь.



Рукапісы п'ес: У.Галубка, М.А.Грамыкі, Я.Дылы, М.К.Ільінскага, Р.Я.Кобеца, Я.Коласа, Б.М.Мікуліча, Е.А.Міровіча, М.А.Міцкевіча, У.М.Стэльмаха, В.А.Шашалевіча і інш. (1917—1935).

## Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры (РНМЦ)*

*Ф. 79; воп. 1; 713 адз. зах.; 1944—1987 гг.*

Створаны як Рэспубліканскі дом народнай творчасці (РДНТ) у 1937 г.; у гады Вялікай Айчыннай вайны дзейнасць РДНТ была часова спынена; з мая 1944 г. узнавіў сваю дзейнасць у г.Гомелі; у 1945 г. вярнуўся ў Мінск; з 1954 г. называўся Рэспубліканскі дом народнай творчасці і методыкі культасветработы, з 1956 г. — Рэспубліканскі дом народнай творчасці; з 1979 г. — Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы (РНМЦ); з 1988 г. — Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры.

З 1937 г. быў у падначаленні Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Пратаколы пасяджэнняў мастацкіх саветаў і творчых грамадскіх секцый РДНТ; мат-лы рэспубліканскіх і абласных выставак народнай творчасці, дэкад, аглядаў і конкурсаў маст. самадзейнасці; зб-кі беларускіх народных песень, загадак; рэцэнзіі на творы самадзейных паэтаў, кампазітараў, прыпевачнікаў і маладых драматургаў; творчыя характарыстыкі на калектывы маст.

* Ліквідаваны 31.05.91 г.

самадзейнасці і звесткі пра іх; стэнаграмы творчых канферэнцый; метадычныя распрацоўкі; планы работы і справаздачы па ім; вучэбныя планы і праграмы рэспубліканскіх семінараў і курсаў павышэння кваліфікацыі культработнікаў; справаздачы супрацоўнікаў аб творч. камандзіроўках; мат-лы аб правядзенні рэспубліканскіх аглядаў і конкурсаў народнай творчасці і аб удзеле народных калектываў рэспублікі ў мерапрыемствах на ВДНГ СССР (1944—1987).

## 2. ТЭАТРЫ, ЦЫРК, КІНАСТУДЫЯ

### Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР (ДАВТ БССР)

*Ф. 20; воп. 1—3; 569 адз. зах.; 1933—1986 гг.*

Створаны ў 1933 г. у г.Мінску на базе Беларускай студыі оперы і балета. У 1940 г. тэатр узнагароджаны ордэнам Леніна і названы Вялікім. У 1964 г. тэатру нададзена званне акадэмічнага.

З 1933 г. знаходзіўся ў сістэме Наркамасветы БССР, з 1936 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

У розныя часы ў тэатры працавалі дырыжоры: Я.А.Вашчак, І.А.Гітгарц, Н.Б.Грубін, М.Э. Шнейдэрман, І.С.Абраміс, А.М.Брон, Т.М.Каламійцава, Л.В.Любімаў, Г.Дугашаў, К.Ціханаў; рэжысёры: В.М.Барысевіч, П.С.Златагораў, Н.У. Смоліч, Б.Чарняўскі, І.Ю.Шляпянаў, Л.П.Александроўская, А.М.Маралёў, Б.А.Мардвінаў, Ю.П. Ужанцаў, У.М.Шахрай; балетмайстары: К.Я.Галяйзоўскі, А.М.Ермалаеў, Л.М.Крамарэўскі, Ф.В.Лапухоў, К.А.Мулер, А.Л.Андрэеў, А.М.Дадышкіліяні, М.Стукалкін, У.М.Елізар'еў.



Пастановы, загады, распараджэнні Наркамасветы БССР (1933); СНК БССР (1934, 1942—1945); Упраўлення па справах маст-ваў пры СНК БССР (1944—1945); Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР (1946—1949); Камітэта па справах маст-ваў пры СМ БССР (1952), Мін-ва культуры БССР і СССР (1954-1973), СМ БССР (1961, 1965), загады і распараджэнні па тэатру (1934, 1942—1944, 1952—1973).

Пратаколы: маст.савета (1947—1948, 1950—1973), конкурснай камісіі (1948), камісіі па тарыфікацыі (1948, 1953, 1959), вытворчых сходаў і калегіі пры дырэкцыі (1950—1961).

Рэпертуарныя планы (1954—1973).

Акты прыёму спектакляў (1952—1953).

Пагадненне аб супрацоўніцтве з Дзяржаўным Вроцлаўскім тэатрам оперы і балета (ПНР) (1972).

Матэрыялы аб рабоце тэатра ў гады Вялікай Айчыннай вайны: загады і распараджэнні СНК БССР і СССР, план, дагаворы, даклад, водгукі, спісы і інш. (1942—1944).

Матэрыялы па правядзенні дэкады беларус. літаратуры і мастацтва ў г.Маскве: дагаворы, каштарысы, спісы, перапіска і інш. (1953—1955).

Матэрыялы агляду творчай моладзі: палажэнне, загады, пратаколы, творч. характарыстыкі (1952).

Матэрыялы па аднаўленні і рэканструкцыі будынка тэатра (1945—1950).

Перапіска з СНК БССР, ЦК КПБ, СМ БССР, Упраўленнем па справах маст-ваў пры СМ БССР, Мін-вамі культуры БССР і СССР, тэатрамі і інш. (1946—1973); з Берлінскім дзяржаўным оперным тэатрам, тэатрам Б.Харта (Англія), тэатрамі ЧССР і ПНР аб супрацоўніцтве (1966—1973).

Оперныя лібрэта: М.Вольпіна і М.Эрдмана ("Лятучая мыш") (1961), А.М.Бачылы ("Калі падае лісце") (1966), У.С.Караткевіча ("Дзікае паляванне караля Стаха") (1978). Балетнае лібрэта М.М.Клімковіча і В.Смірнова ("Князь-возера") (1944).

Эскізы дэкарацый, сцэн, касцюмаў, рэквізіту М.А.Блішча, Б.І.Волкава, А.Дулеўскага, В.П.Кульваноўскага, В.Мамантава, П.В.Масленікава, Я.Дз.Нікалаева, І.І.Пешкура, В.Хадасевіча, М.П.Чэпіка, Я.Р.Чамадурава і інш. (1945—1969).

Афішы і праграмы (1946—1962).

Журналы ўліку спектакляў, складу выканаўцаў, занятасці артыстаў (1964—1971).

Гадавыя справаздачы, каштарысы, штатныя расклады, ведамасці і інш. мат-лы бухгалтэрыі (1933—1935, 1942—1973).

Спісы работнікаў тэатра (1943, 1951—1960); навучэнцаў балетнай школы пры тэатры (1934).

## Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я.Коласа (тэатр імя Я.Коласа)

*Ф. 269; воп. 1—2; 580 адз. зах.; 1941—1978 гг.*

Створаны з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў г.Маскве. Адчыніўся ў г.Віцебску 21 лістапада 1926 г. як Беларускі другі дзяржаўны тэатр (БДТ-2). У снежні 1944 г. тэатру нададзена імя Я.Коласа. У 1976 г. узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. У 1977 г. прысвоена званне акадэмічнага.

З 1926 г. знаходзіўся ў сістэме Наркамасветы БССР, з 1936 г. — Упраўленне па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўленне па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Мастацкія кіраўнікі тэатра: С.Хачатураў (1926-1928), С.Г.Розанаў (1928—1930), М.А.Міцкевіч (1931—1933), У.А.Дар-вішаў (1934—1937), А.Б.Скібнеўскі (1949—1958), Г.Б.Шчарбакоў (1958—1962), С.С.Казіміроўскі (1967—1975), В.Я.Мазынскі (1977—1991).

Загады і пастановы калегіі Мін-ва культуры БССР (1978).



Пратаколы маст. савета (1948—1978); вытворчых нарад (1947, 1953).

Перапіска з Мін-вам культуры БССР (1954—1978).

П'есы: "Вясельнае падарожжа" В.А.Дыхавічнага, "Хлопец з нашага горада" К.М.Сіманава (1941), "Ягор Булычоў і іншыя" М.Горкага (1942), "Позняе каханне" А.М.Астроўскага (1944), "Гамлет" У.Шэкспіра, "Каварства і любоў" Ф.Шылера (1946), "Глыбокія карэнні" Д.Гоу і А.Д'юсо, "На белым свеце" П.Ф.Ніліна, "Рускае пытанне" К.М.Сіманава (1947), "Авадзень" паводле Э.Войніч, "Закон Лікурга" паводле Т.Драйзера, "Вас выклікае Таймыр" К.Ф.Ісаева і А.Галіча, "Вялікая сіла" Б.С.Рамашова, "Нараджэнне свету" А.М.Талстога (1948), "На тым баку" А.Баранава, "Незабыўны 1919" У.В.Вішнеўскага, "Чужы цень" К.М.Сіманава, "Вяселле Крачынскага" А.В.Сухаво-Кабыліна, "За вокнамі пасольства" бр. Тур (1949), "Калінавы гай" А.Я.Карнейчука, "Калі зацвітаюць сады" В.П.Палескага, "Яе сябры" В.С.Розава, "Свежы вецер" В.Н.Сабко, "Блізкае" Ю.П.Чапурына (1950), "Двайная гульня" І.В.Бехцерава, "Бітва за жыццё" В.Волінай і К.Шатровай, "Атэстат сталасці" Л.Б.Гераскінай, "Разлом" Б.А.Лаўранёва, "Сям'я Алана" Г.Мухтарава (1951), "Пралітая чаша" Вана Шы-Фу, "Простая жанчына" К.Л.Губарэвіча, "Настаўнік танцаў" Лопэ дэ Вэгі, "Неспакойныя сэрцы" А.Е.Кучара (1952), "Шторм" У.М.Біль-Белацаркоўскага, "Жорсткі свет" паводле Ч.Дзікенса, "Выбачайце, калі ласка" А.Я.Макаёнка, "Не называючы прозвішчаў" В.Мінко, "Старонкі жыцця" В.С.Розава, "Небяспечны спадарожнік" А.Д.Салынскага, "Трэцяя маладосць" бр.Тур (1953), "Гаіці" У.Дзюбуа, "Капітан Коршун" В.Н.Сабко, "У бэзавым садзе" Ц.С.Саладар, "Сэрца не даруе" А.У.Сафронава, "Гісторыя аднаго кахання" К.М.Сіманава, "Ганна Лучыніна" К.А.Транёва, "Дачка пракурора" Ю.І.Яноўскага (1954), "Домік на ўскраіне" А.М.Арбузава, "Машэка" В.Вольскага, "Андрэй Лабанаў" паводле Д.А.Граніна, "Каханне Ані Бярозкі" В.Пісталенкі, "У добры час" В.С.Розава, "Персанальная справа" А.П.Штэйна (1955), "Родная маці" М.А.Алтухова, "На крутым павароце" К.Л.Губарэвіча, "Шчасце" І.Л.Дорскага, "Мараль пані Дульскай"

Г.Запольскай, "Платон Крэчат" А.Я.Карнейчука, "Няшчасны выпадак" М.Б.Маклярскага і Д.М.Жалендро, "Крэпасць над Бугам" С.С.Смірнова (1956), "Адна" С.Алёшына, "Калі цвіце акацыя" М.Г.Віннікава, "Святло з Усходу" П.Ф.Глебкі, "Юныя мсціўцы" А.З.Гутковіча і Ф.М.Казоўскай, "Тры салаўі, д.17" С.Дабрычаніна, "Злачынства і пакаранне" паводле Ф.М.Дастаеўскага, "Вечная крыніца" Д.І.Зорына, "Апошні прыпынак" Э.-М.Рэмарка (1957), "Навальніца будзе" паводле Я.Коласа, "Квадратура круга" В.П.Катаева, "Дзімка-невідзімка" У.М.Карастылёва і М.Львоўскага, "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Блудны сын" Э.Ранета, "У пошук радасці" В.С.Розава (1958), "Юстына" Х.Вуаліёкі, "200000 на дробныя выдаткі" В.А.Дыхавічнага і М.Р.Слабадскога, "Сіньёр Марыо піша камедыю" А.Нікалаі, "Бітва ў дарозе" паводле Г.Я.Нікалаевай, "Пабег з начы" бр. Тур, "Тайфун" Цао Юй (1959), "Іркуцкая гісторыя" А.М.Арбузава, "Лявоніха" П.А.Данілава, "Наследнікі Рабурдэна" Э.Заля, "Сяржант міліцыі" І.Лазуціна, "Востраў Афрадыты" А.Парніса, "Імем рэвалюцыі" М.Шатрова, "Якарная плошча" І.Штока (1960), "Адзін год" Ю.П.Германа, "Справа яе жыцця" А.З.Гутковіча і Ф.М.Казоўскай, "Провады белых начэй" В.Ф.Пановай, "Дзяўчына з вяснушкамі" А.В.Успенскага, "Крыніцы" і "Выгнанне блудніцы" І.П.Шамякіна, "Завадскія хлопцы" І.Шура, "Трэцяя галава" М.Эме (1961), "Пад адным небам" А.Маўзона, "Перад вячэрай" В.С.Розава, "Гульня без правіл" А.Шэйніна, "Ленінградскі праспект" І.В.Штока (1962), "Жыве на свеце жанчына" З.М.Аграненкі, "Таня" А.М.Арбузава, "Бездакорная рэпутацыя" М.А.Смірновай і М.Крэйндзель (1963), "Мой бедны Марат" А.М.Арбузава, "Вендэта" М.Г.Віннікава, "Шануй бацьку свайго" В.В.Лаўрэнцьева, "Гардзячка" Т.Яна (1964), "Чатыры крыжы на сонцы" А.А.Дзялендзіка, "Вей, ветрык" Я.Райніса, "Праўда і крыўда" М.А.Стэльмаха, "Абуджанае сумленне" В.Шаўрына (1965), "Заглянуць у калодзеж" Я.І.Волчака, "Гарачае лета ў Берліне" паводле Д.К'юсак, "У доме на Сонечнай" А.Маўзона, "Бацькаўшчына" паводле К.Чорнага (1966), "Вайна пад стрэхамі" паводле А.М.Адамовіча, "Шчыт і меч" У.М.Кажэўнікава, "Сіняя варона" Г.В.Пагодзіна, "Шостае ліпеня" М.Шатрова (1967), "Варшаўская мелодыя" Л.Г.Зорына, "Клоп" У.У.Маякоўскага, "Званок у пустую кватэру" Дз.Б.Угрумава (1968), "Нічога не здарылася" М.Гіндзіна і Г.Рабкіна, "Усім смярцям назло" В.П.Цітова і А.Міленкі, "Улада цемры" Л.М.Талстога, "Горад без любові" Л.Усцінава (1969), "Маскоўскія канікулы" А.Кузняцова, "Амністыя" М.Я.Матукоўскага, "Трэцяя патэтычная" М.Ф.Пагодзіна, "Сямнаццаць імгненняў вясны" Ю.С.Сямёнава і В.С.Токарава (1970), "Многа шуму з нічаго" У.Шэкспіра (1971), "Свой востраў" Р.Каўгвера, "Снежныя зімы" І.П.Шамякіна (1972), "Таблетку пад язык" А.Я.Макаёнка, "Антаніна" Г.С.Мамліна (1973), "Сталявары" Г.Бокарава, "Падобны на ільва" Р.Ібрагімбекава (1974), "Лёнушка" Л.М.Лявонава, "Калі лялькі не спяць" Л.Мілевай (1975), "Апошняя інстанцыя" М.Я.Матукоўскага, "Мезазойская гісторыя" Р.Ібрагімбекава, "Укралі кодэкс" А.Л.Петрашкевіча (1976), "Мае надзеі" М.Шатрова (1978).



Буклеты, прысв. 25 і 50-годдзю тэатра (1951, 1976).

Афішы і праграмы спектакляў (1941—1942, 1946—1978).

Даведкі аб рабоце тэатра (1957, 1975).

Гадавыя справаздачы і інш. мат-лы бухгалтэрыі (1955—1978).

Спісы работнікаў тэатра — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны (1971).

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы (тэатр імя Я.Купалы)***

*Ф. 126; воп. 1—2; 574 адз. зах.; 1920—1980 гг.*

Створаны ў 1920 г. і называўся Беларускім дзяржаўным тэатрам. З 1926 г. — Беларускі першы дзяржаўны тэатр (БДТ-І). З 21 снежня 1944 г. — Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я.Купалы. У 1955 г. нададзена званне акадэмічнага. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1940).

З 1920 г. знаходзіўся ў сістэме Наркамасветы БССР, з 1936 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Мастацкія кіраўнікі тэатра: Ф.П.Ждановіч (1920—1921), Е.А.Міровіч (1921—1931), М.А.Папоў (1925—1926), Л.М.Літвінаў (1932—1948), Л.Г.Рахленка (1937—1943), К.М.Саннікаў (1948—1952), Б.У.Эрын (1964—1968), В.М.Раеўскі (з 1973 г.).

Пастановы і распараджэнні СНК БССР (1944—1945); загады Наркамасветы БССР (1934), загады і распараджэнні Упраўлення па справах маст-ваў пры СНК БССР (1942—1945), Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР (1946—1951), Камітэта па справах маст-ваў пры СМ БССР (1952), Мін-ва культуры СССР і БССР (1955—1980); загады па тэатру (1924—1941, 1943—1980).

Стэнаграма дыскусіі "Аб фармалізме ў мастацтве" (1936); пратаколы: расцэначна-канфліктнай камісіі (1930—1932), рэпетыцый спектакляў "Сімфонія гневу", "Як яе завуць", "Канец дружбы", "Велікадушша" (1934—1935), сустрэчы калектыву тэатра з прадстаўнікамі маскоўскай тэатральнай грамадскасці (1931), творч. канферэнцыі БДТ-І (1935); адкрытага партыйнага сходу

* Са снежня 1993 г. — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы.



БДТ-І (1935), маст. савета (1937—1938, 1945—1980), вытворчых сходаў і нарад (1937—1938, 1956—1957).

Палажэнне аб маст. савеце (1958).

Рэпертуарныя планы (1936—1937, 1940—1976).

Перапіска з Наркамасветы БССР (1927—1936), Упраўленнем па справах маст-ваў пры СМ БССР (1945—1952), Мін-вамі культуры СССР і БССР (1955—1980), Навасібірскім абласным аддзелам маст-ваў і музеем імя П.І.Чайкоўскага (1942), Мінскай ваеннай акругай (1945—1946), Цэнтральным тэатрам Народнай Албанскай Рэспублікі (1948) і інш.

П'есы: "Рысь" Э.Ажэшкі, "Паўлінка" Я.Купалы (1920), "Апошняе спатканне" У.Галубка (1921), "Польскі жыд" Эркмана-Шатрыяна (1922), "Гімн працы" В.Андрэенкі (1923), "Мешчанін у дваранстве" Ж.Мальера (1924), "Вясковы суддзя" Кальдэрона дэ ла Баркі (1925), "Эльга" Г.Гаўптмана, "Абураны муж", "Шлюб пад прымусам" і "Цырымонлівыя паненкі" Ж.Мальера, "Шамякаў суд" і "Ноеў каўчэг" М.А.Папова, "Вір" Я.С.Рамановіча (1926), "Над Нёманам" М.А.Грамыкі, "Змрок" В.А.Шашалевіча (1927), "Гута" Р.Я.Кобеца (1930), "Недаростак" Дз.І.Фанвізіна (1934), "Ваўкі і авечкі" А.М.Астроўскага, "Далёкае" А.М.Афінагенава, "Сваты" І.Д.Гурскага, "Платон Крэчат" А.Я.Карнейчука, "Без віны вінаватыя" А.М.Астроўскага (1936), "Неспакойная старасць" Л.Рахманава (1938), "Хто смяецца апошнім" К.Крапівы (1939), "Машачка" А.М.Афінагенава, "У стэпах Украіны" А.Я.Карнейчука, "Хлапец з нашага горада" К.М.Сіманава (1941), "Урок жыцця" В.Я.Галаўчынера, "Фронт" А.Я.Карнейчука, "Сям'я Мерльє" паводле Э.Заля (1942), "Пётр Крымаў" К.Я.Фіна, "Сабака на сене" Лопэ дэ Вэгі (1943), "Позняе каханне" А.М.Астроўскага (1944), "Мілы чалавек" К.Крапівы (1945), "Дрымучае сэрца" В.У.Ліпатава (1946), "Глыбокія карэнні" Дж.Гоу і А.Д'юсо, "За тых, хто ў моры" Б.А.Лаўранёва, "Канстанцін Заслонаў" А.Маўзона, "Маладая гвардыя" А.А.Фадзеева (1947), "Маскоўскі характар" А.У.Сафронава, "Дзень цудоўных падманаў" Р.Шэрыдана (1948), "Змова асуджаных" М.Я.Вірты, "Гэта было ў Мінску" А.Е.Кучара, "Чужы цень" К.М.Сіманава (1949), "Таленты і

паклоннікі" А.М.Астроўскага, "Цытадэль славы" К.Л.Губарэвіча, "Калінавы гай" А.Я.Карнейчука, "Пяюць жаваранкі" К.Крапівы, "Голас Амерыкі" Б.А.Лаўранёва, "Дурная для іншых, разумная для сябе" Лопэ дэ Вэгі, "Сям'я Лутоніных" бр. Тур і І.А.Пыр'ева (1950), "Ганна Карэніна" паводле Л.М.Талстога, "Набег" Дз.Шчаглова, "Шчасце паэта" В.Віткі, "Макар Дубрава" А.Я.Карнейчука, "На досвітку", А.Я.Макаёнка, "Кастрычнік" ("Залп Аўроры") М.Бальшынцова і М.Чыаурэлі (1952), "Даходнае месца" А.М.Астроўскага, "Пагібель эскадры" М.Я.Вірты, "Простая дзяўчына" К.Л.Губарэвіча, "Пунцовая кветачка" І.Карнавухавай і Л.Т.Браўсевіча, "Каварства і каханне" Ф.Шылера (1953), "Выбачайце, калі ласка" А.Я.Макаёнка, "Дачка пракурора" Ю.І.Яноўскага (1954), "Ілгун" К.Гальдоні, "Зыкавы" М.Горкага, "У добры час" В.С.Розава (1955), "Праўда добра, а шчасце лепш" А.М.Астроўскага, "На крутым павароце" К.Л.Губарэвіча, "Пані міністэрша" Б.Нушыча, "Крамлёўскія куранты" М.Ф.Пагодзіна (1956), "Вечная крыніца" Дз.І.Зорына, "Шлюб па сакрэту" Дж.Колмена-старэйшага і Д.Гарыка, "Ліса і вінаград" Г.Фігейрэду, "Дамы і гусары" А.Фрэдры (1957), "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Забыты ўсімі" Н.Хікмета (1958), "Вось я іду" Г.С.Бярозкі, "Дабракі" Л.Г.Зорына, "Дні нашага нараджэння" І.П.Мележа, "Трэцяя патэтычная" М.Ф.Пагодзіна, "Пабег з ночы" бр.Тур (1959), "Востраў Афрадыты" А.Парніса, "Выбух" І.М.Дварэцкага, "Веру ў цябе" У.М.Карастылёва (1960), "Трэцяе жаданне" Б.Блажака, "Любоў, Надзея, Вера" П.С.Васілеўскага, "Лявоніха на арбіце" А.Я.Макаёнка, "Гаспадар" І.Собалева, "Жывы труп" Л.М.Талстога (1961), "На ўсякага мудраца хапае прастаты" А.М.Астроўскага, "Узнагарода - тысяча франкаў" В.Гюго, "Перад вячэрай" В.С.Розава (1962), "Жаніцьба Бялугіна" А.М.Астроўскага, "Ноч памылак" О.Голдсміта, "Сябры і гады" Л.Г.Зорына, "Першая старонка" Н.А.Івантара, "Рускія людзі" К.М.Сіманава (1963), "Мяцеж невядомых" Г.А.Баравіка, "Воўка на планеце Ялмез" У.М.Карастылёва, "Адалень-трава" В.А.Любімавай, "Дзівак" Н.Хікмета, "Канец - справе вянец" У.Шэкспіра (1964), "Мой бедны Марат" А.М.Арбузава, "Я, бабуля, Іліко і Іларыён" Н.У.Думбадзе і Г.Д.Лордкіпанідзе,



"Мяцеліца" Л.М.Лявонава, "104 старонкі пра каханне" Э.С.Радзінскага, "Патрэбен ілгун" Дз.Псафаса (1965), "Чатыры крыжы" А.А.Дзялендзіка, "Людзі на балоце" І.П.Мележа, "Сляпы падзішах" Н.Хікмета, "Сэрца на далоні" І.П.Шамякіна (1966), "Блакада" Ус.В.Іванава, "Традыцыйны збор" В.С.Розава (1967), "Рудабельская рэспубліка" С.І.Грахоўскага, "На дне" М.Горкага, "Робін Гуд" С.С.Заяіцкага, "Гросмайстарскі баль" І.Шцімлера (1968), "Апошняя ахвяра" А.М.Астроўскага, "Што той салдат, што гэты" Б.Брэхта, "Дзесяць сутак за каханне" В.Канстанцінава і Б.Рацара, "Адкуль грэх, адтуль і збавенне" А.Л.Петрашкевіча (1969) , "Праўда! Нічога, акрамя праўды!!!" Д.Аля, "Памяць сэрца" А.Я.Карнейчука, "Амністыя" М.Я.Матукоўскага (1970), "Залатая карэта" Л.М.Лявонава, "Трыбунал" А.Я.Макаёнка (1971), "Лесвіца славы" О.З.Скрыба, "У ноч зацмення месяца" М.Карыма, "Раскіданае гняздо" Я.Купалы (1972), "Працяг" В.Валеева, "Лапці - самаскокі" І.Іванова, "Таблетку пад язык" А.Я.Макаёнка, "Безымянная зорка" М.Себасцьяна (1973), "Забыць Герастрата" Г.І.Горына, "Брама неўміручасці" К.Крапівы, "Калі хочаш жыць" ("Апошні шанц") В.У.Быкава (1974), "Навальніца" А.М.Астроўскага, "Пратакол аднаго пасяджэння" А.І.Гельмана (1975), "Святая прастата" А.Я.Макаёнка (1976), "Святая святых" І.Друцэ (1977), "Дзядзечкаў сон" Ф.М.Дастаеўскага, "Снежная каралева" Я.Л.Шварца, "Ваня, як ты тут" паводле В.М.Шукшына, "Чалавек з легенды" Я.П.Шабана і І.Ражкова (1978), "Напісанае застаецца" А.Л.Петрашкевіча (1979).

Праграмы і афішы спектакляў (1927—1928, 1948—1960, 1971, 1979).

Матэрыялы аб рабоце тэатра ў тыдні беларус. культуры ў г.Маскве (1931), гастролях па Бярэзіне-Прыпяцкім басейне, у гг.Адэсе, Нікалаеве, Кіеве, Варшаве (1936—1951, 1960).

Матэрыялы аб святкаванні юбілеяў тэатра (1935—1960).

Кнігі рэгістрацыі складу выканаўцаў, спектакляў, рэпетыцый, уліковыя карткі спектакляў (1937—1938, 1943—1944, 1973), ведамасці пра колькасць спектакляў, гледачоў і сумы збораў (1927—1933).

Справаздачы аб дзейнасці тэатра (1931—1934, 1950—1973).

Спісы і характарыстыкі творч. работнікаў (1932—1945, 1955—1956).

Сцэнарыі тэле- і радыёперадач (1969—1970).

Матэрыялы драмстудыі пры тэатры (1936, 1945—1948, 1960).

Гадавыя справаздачы і інш. дакументы бухгалтэрыі (1924—1937, 1941, 1944—1980).

### Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М.Горкага (Дзярж. рускі тэатр БССР імя М.Горкага)

*Ф. 94; воп. 1—2; 531 адз. зах.; 1940, 1944—1983 гг.*

Створаны ў 1932 г. на базе трупы У.У.Кумельскага і С.В.Скальскага, якія працавалі ў г.Бабруйску. Да 1941 г. тэатр працаваў у г. Магілёве. У 1941 г. трупа тэатра распалася (вайна заспела тэатр на гастролях у г.Беластоку). У канцы 1942 г. створаны ў г.Маскве франтавы тэатр з сабраных артыстаў гэтага тэатра. Пасля вызвалення Беларусі ў 1944 г. тэатр узнавіў сваю дзейнасць у г.Магілёве. У красавіку 1945 г. тэатр пераводзіцца ў г.Гродна. З верасня 1947 г. тэатр знаходзіцца ў г.Мінску.

У 1955 г. тэатру прысвоена імя М.Горкага, у 1982 г. — узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, у 1994 г. стаў акадэмічным.

З 1932 г. тэатр знаходзіўся ў сістэме Наркамасветы БССР, з 1936 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Мастацкія кіраўнікі тэатра: У.У.Кумельскі (1932—1936), А.Я.Данаці (1936—1938), Дз.А. Арлоў (1939—1941, 1944—1948), С.Ф.Уладычанскі (1948—1952), В.Ф.Фёдараў (1952—1958), Б.М.Дакутовіч (1958—1960), М.Л.Співак (1960—1964), Б.І.Луцэнка (1973—1981), Б.А.Глаголін (1981—1983).



Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні тэатра ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1982); загады Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР і Камітэта па справах маст-ваў пры СМ БССР (1942—1952), загады і пастановы калегіі Мін-ва культуры БССР (1953, 1977), загады і распараджэнні па тэатру (1979—1982).

Пратаколы і планы работы маст. савета (1948—1961, 1970—1983), канферэнцыі гледачоў (1951).

Рэпертуарныя планы (1953—1983).

Матэрыялы па будаўніцтву тэатра ў г.Мінску (1949—1951).

Дагавор з М.П.Ахлопкавым на пастаноўку заключнага канцэрта дэкады беларус. маст-ва ў г.Маскве (1952).

Перапіска з Мін-вамі культуры СССР і БССР, тэатрамі і інш. (1950—1983).

Дзённікі спектакляў і рэпетыцый (1947—1959), запісы работы мастацка-пастаноўчай часткі (1968—1972), журналы ўліку работы акцёрскага складу (1960—1973); звесткі па выпуску спектакляў (1932—1976); даведкі і інфармацыі аб дзейнасці тэатра (1977—1982).

П'есы: "Мачеха" А. дэ Бальзака (1938), "Три сестры" А.П.Чэхава (1944), "Двенадцатая ночь, или что угодно" У.Шэкспіра (1945), "Царь Федор Иоаннович" А.К.Талстога (1946), "Дядя Ваня" А.П.Чэхава (1947), "Дети Ванюшина" С.А.Найдзёнава (1948), "Счастье" П.А.Паўленкі (1949), "Директор" С.Алёшына, "Хозяйка гостиницы" К.Гальдоні, "Разлом" Б.А.Лаўранёва, "Бешеные деньги" А.М.Астроўскага (1951), "Хитроумная влюбленная" Лопэ дэ Вэгі (1952), "Весна в Москве" В.М.Гусева, "Пигмалион" Б.Шоу, "Шакалы" А.М.Якабсана, "Фуэнте Овехуна" Лопэ дэ Вэгі (1953), "Порт-Артур" паводле А.М.Сцяпанава, "Смерть Тарелкина" А.В.Сухаво-Кабыліна (1954), "Домик на окраине" і "Годы странствий" А.М.Арбузава, "Обыкновенный человек" Л.М.Лявонава, "Проделки Скапена" Ж.-Б.Мальера, "Персональное дело" А.П.Штэйна (1955), "Мещане" М.Горкага, "Доктор" Б.Нушыча,

"Каменное гнездо" Х.Вуаліёкі, "Торговцы славой" М.Паньёля і П.Нівуа (1956), "Когда цветет акация" М.Г.Віннікава, "Оптимистическая трагедия" У.В.Вішнеўскага, "Главная ставка" К.Л.Губарэвіча, "Повторный визит" С.Б.Дубравіна (1957), "Дальняя дорога" А.М.Арбузава, "Дали неоглядные" М.Я.Вірты, "Васса Железнова" М.Горкага, "Царь Потап" А.Капкова, "Блудный сын" Э.Ранета, "Моя семья" Э. дэ Філіпа (1958), "Один в поле воин" Ю.П.Дольд-Міхайліка, "Дикари" С.У.Міхалкова (1959), "Ненужная победа" А.П.Чэхава, "Власть тьмы" Л.М.Талстога, "Иркутская история" А.М.Арбузава (1960), "Лявониха на орбите" А.Я.Макаёнка, "Один год" Ю.П.Германа і Б.Рэста, "Друзья и годы" Л.Г.Зорына, "Проводы белых ночей" В.Ф.Пановай, "Изгнание блудницы" І.П.Шамякіна, "Двенадцатый час" А.М.Арбузава, "Океан" А.П.Штэйна (1961), "Мамаша Кураж и ее дети" Б.Брэхта, "День рождения Терезы" Г.Д.Мдывані (1962), "Владельцы ключей" М.Кундзера, "Берегите сыновей живых" А.У.Сафронава, "Безупречная репутация" М.А.Смірновай і М.Крэйндзель, "Вечный огонь" П.А.Харкова, "Ленинградский проспект" І.В.Штока, "Поднятая целина" паводле М.А.Шолахава (1963), "В день свадьбы" В.С.Розава, "Филумена Мартурана" Э. дэ Філіпа (1964), "К морю-океану" Ю.К.Петухова (1965), "Свадьба на всю Европу" А.Арканава і Л.Горына, "Маскарад" М.Ю.Лермантава, "Заглянуть в колодец" Я.І.Волчака, "Шестое июля" М.Шатрова (1966), "Моя дочь" М.А.Гарулёва, "Любовь Яровая" К.А.Транёва, "Дети солнца" М.Горкага, "Варшавская мелодия" Л.Г.Зорына (1967), "Дурочка" Лопэ дэ Вэгі (1968), "Путешественник без багажа" Ж.Ануя, "Руины стреляют в упор" І.Р.Новікава (1960), "Враги" М.Горкага, "Мария Стюарт" Ф.Шылера, "С вечера до полудня" В.С.Розава, "Мария" А.Д.Салынскага (1970), "Сказки старого Арбата" А.М.Арбузава, "Разгром" А.А.Фадзеева, "Птицы нашей молодости" І.Друцэ, "Человек со стороны" І.М.Дварэцкага, "Милый лжец" Дж.Кілці (1972), "На последнем перегоне" А.Маўзона, "Горячее сердце" А.М.Астроўскага, "Восхождение на Фудзияму" Ч.Айтматава і К.Мухамеджанава, "Три минуты Мартина Гроу" Г.А.Баравіка, "Лошадь Пржевальского" М.Шатрова,



"Алиса в стране чудес" Л.Кэрола, "Последняя инстанция" М.Я.Матукоўскага (1974), "Час пик" паводле Я.Ставінскага (1975), "Сладкоголосая птица юности" Т.Уільямса (1976), "Возвращение в Хатынь" А.М.Адамовіча і Б.І.Луцэнкі, "Фантазии Фарятьева" А.М.Сакаловай, "Баня" У.У.Маякоўскага (1977), "Добровольцы" Я.А.Далматоўскага (1978), "Синие кони на красной траве" М.Ф.Шатрова (1979), "А поутру они проснулись" В.М.Шукшына (1983).

Музычныя партытуры і клавіры да спектакляў: У.У.Алоўнікава, М.У.Багаслоўскага, Ю.Д.Бяльзацкага, Г.М.Вагнера, Я.А.Глебава, К.А.Кара-Караева, С.А.Картэса, К.В.Малчанава, А.Ю.Мдывані, В.І.Мурадэлі, Ю.У.Семянякі, І.М.Тэйтэльбаўма, Я.К.Цікоцкага, М.М.Чуркіна, А.Р.Янчанкі і інш.

Эскізы дэкарацый, фота касцюмаў, чарцяжы канструкцый да спектакляў: "Не называя фамилий", "Оптимистическая трагедия", "Мамаша Кураж", "Дети солнца", "Ещё не вечер", "Возраст расплаты", "С вечера до полудня", "Дети Ванюшина", "Разгром", "Милый лжец", "Сослуживцы" (1953—1972).

Афішы і праграмы спектакляў (1940, 1945—1983).

Артыкул Дж.Ферналда (рэж.Мастацкага тэатра ў Лондане) аб спектаклі "Король Лир" у паст. Дзярж. тэатра БССР імя М.Горкага — маш. (1974), рэцэнзіі на спектаклі тэатра — друк. выр. (1950—1972); мат-лы аб гастролях тэатра ў гг.Ленінградзе Растове-на-Доне, Львове (1953), Венгрыі (1979).

Гадавыя справаздачы і інш. дакументы бухгалтэрыі (1944—1983).

Спісы артыстаў і супрацоўнікаў тэатра (1955—1958).

Асабовыя справы артыстаў: Э.М.Аўчыннікавай, Дз.А.Арлова, А.А.Бялова, А.В.Душачкіна-Карсакоўскага, Е.С.Едзіткінай (Вясніной), В.З.Краўчанкі, М.І.Кузьміной, І.І.Жарава, Я.М.Палосіна, В.П.Шрамчанкі (1946—1984).

## Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі (ТЮГ БССР)

*Ф. 80; воп. 1; 273 адз. зах.; 1955—1987 гг.*

Створаны ў 1955 г. У 1970 г. прысвоена імя 50-годдзя камсамола Беларусі. Знаходзіцца ў сістэме Міністэрства культуры БССР.

Загады Мін-ва культуры БССР (1955—1980), загады па тэатру (1961—1986).

Пратаколы маст. савета (1967—1968, 1977—1983, 1987), вытворчых нарад (1981—1985).

Рэпертуарныя планы (1955—1978).

Даведкі аб рабоце тэатра (1957—1976); артыкулы і рэцэнзіі на спектаклі тэатра (1956—1976).

Праграмы і афішы спектакляў (1956—1987).

Перапіска з СМ БССР, Мін-вам культуры БССР (1955—1987).

Ганаровыя граматы і дыпломы тэатра (1956—1982).

Дагаворы з драматургамі, кампазітарамі, мастакамі (1960—1970); спісы творчага і інш. складу тэатра (1968, 1984, 1987).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. дакументы бухгалтэрыі (1955—1987).



## Дзяржаўны тэатр лялек БССР

*Ф. 87; воп. 1; 262 адз. зах.; 1944—1983 гг.*

Створаны ў жніўні 1938 г. у г.Гомелі з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. У гады Вялікай Айчыннай вайны асноўны калектыў тэатра знаходзіўся ў г.Душанбэ. Узнавіў сваю дзейнасць у маі 1944 г. у г.Гомелі. У 1949 г. — пастаўлены на кансервацыю. У сакавіку 1950 г. узнавіў сваю дзейнасць у г.Мінску пры Белдзяржэстрадзе. З 1951 г. — стаў самастойным.

З 1938 г. знаходзіўся ў сістэме Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Загады Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, Мін-ва культуры БССР і інш. (1946—1983), загады па тэатру (1945—1954, 1976—1983).

Пратаколы маст. савета (1959—1983).

Планы работы тэатра (1953—1983); рэпертуарныя планы (1948—1983); справаздачы і даведкі аб рабоце тэатра (1976—1977).

Перапіска з Упраўленнем па справах маст-ваў, Мін-вам культуры БССР і інш. (1947—1983).

Праграмы і афішы спектакляў (1969—1983).

Кніга водгукаў гледачоў (1952—1953).

Ліст Я.А.Пермяка калектыву тэатра пра п'есу "Рукавіцы і тапор" (1953).

Спісы асабовага складу (1953); творчага складу тэатра (1976).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. мат-лы бухгалтэрыі (1944—1983).

## Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР

*Ф. 306; воп. 1; 42 адз. зах.; 1943—1949 гг.*

Створаны 7 кастрычніка 1943 г. у г.Маскве. У 1944 г. пераехаў у г.Бабруйск. Згодна з загадам Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР № 29 ад 1 сакавіка 1949 г. быў ліквідаваны.

Знаходзіўся ў сістэме Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР.

Галоўны дырыжор — Ю.Д.Бяльзацкі (1947—1949).

Загады Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР (1943—1948), загады па тэатру па асноўнай дзейнасці, асабоваму складу (кастр. 1943—1949).

Эскізы касцюмаў да спектакляў: "Сільва" І.Кальмана, "Вяселле ў Малінаўцы" Б.А.Аляксандрава (1946).

Спісы рабочых і служачых тэатра (1944).

Асабовыя справы супрацоўнікаў (1943—1949).

Асабовыя рахункі (1943—1949).

## Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР

*Ф. 223; воп. 1; 194 адз. зах.; 1970—1984 гг.*

Заснаваны ў лістападзе 1970 г. часткова на аснове музычнай трупы Магілёўскага абласнога тэатра музычнай камедыі. Адкрыты ў Мінску ў студзені 1971 г. пастаноўкай музычнай камедыі Ю.У.Семянякі "Пяе жаваранак". Знаходзіцца ў сістэме Міністэрства культуры Беларусі.

Пастановы, загады Мін-ва культуры БССР (1970—1981), загады па тэатру (1970—1984).



Пратаколы маст. савета (1970—1981).

Даведкі аб фарміраванні тэатра (1970).

Рэпертуарныя планы (1970—1984).

Перапіска з маст. кіраўнікамі, аўтарамі лібрэта па творч. пытаннях (1977—1984).

Акты прыёму новых пастановак тэатра (1972—1975); звесткі пра абслугоўванне сельскага насельніцтва (1972—1983).

Праграмы і афішы спектакляў (1970—1984).

Бухгалтарскія дакументы (1970—1984).

## Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР

*Ф. 222; воп. 1; 60 адз. зах.; 1924, 1941—1949 гг.*

Існаваў з кастрычніка 1926 г. да кастрычніка 1949 г. у г.Мінску. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў у г.Навасібірску. У 1949 г. — расфарміраваны.

Мастацкія кіраўнікі: М.Ф.Рафальскі (1926—1937), В.Я.Галаў-чынер (1942—1946).

Загады Камітэта па справах маст-ваў пры СНК СССР, Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР і інш. (1942—1949), загады па тэатру (1942—1949).

Пратаколы маст. савета (1946—1948), агульных сходаў (1946), ліквідацыйнай камісіі (1949).

Акты прыёму спектакляў (1947—1948).

Рэпертуарныя планы (1946—1949); журналы запісаў па вядзенні спектакляў (1943—1946).

Даклады, артыкулы, справаздачы і інш. аб дзейнасці тэатра (1941—1948).

Апавяданні, сцэнкі, песні, выкананыя франтавой брыгадай тэатра (1941—1945).

Перапіска з СМ БССР і Упраўленнем па справах маст-ваў пры СМ БССР і інш. (1946—1948).

Спісы супрацоўнікаў (1942—1944), трупы (1949).

Асабовыя рахункі, ведамасці, асабовыя лісты па ўліку кадраў і інш. дакументы бухгалтэрыі (1941—1949).

[Б.Норд]. Эскізы касцюмаў і дэкарацыі да спектакля Дзярж. яўр. студыі "Хітрыкі Скапэна" Ж.-Б.Мальера 6 [1924].

### Мінскі дзяржаўны цырк

*Ф. 85; воп. 1; 213 адз. зах.; 1947—1988 гг.*

Створаны ў красавіку 1947 г. загадам Галоўнага ўпраўлення цыркаў Камітэта па справах мастацтваў пры СМ СССР на базе цырка-шапіто г.Арла, які быў пераведзены ў г.Мінск. ІІ лютага 1959 г. у Мінску быў адкрыты стацыянарны цырк.

Уваходзіў у сістэму Галоўнага ўпраўлення цыркаў (Галоўцырк) Камітэта па справах мастацтваў пры СМ СССР, з 1957 г. — Упраўлення цыркаў Міністэрства культуры СССР; з 1957 г. — Усесаюзнага аб'яднання дзяржаўных цыркаў (Саюздзяржцырк) Міністэрства культуры СССР. З 1991 г. знаходзіцца ў сістэме Міністэрства культуры Беларусі.

Загады і распараджэнні Галоўцырка, палажэнне аб цырку, праграмы і сцэнарыі цыркавых прадстаўленняў, акты іх прагляда́ў, перапіска з Саюздзяржцыркам і інш. арганізацыямі па пытаннях дзейнасці цырка, штатныя расклады, гадавыя справаздачы (1947—1988).



### Кінастудыя "Беларусьфільм"

*Ф. 112; воп. 1—3; 1545 адз. зах.; 1943—1982 гг.*

Створана ў 1928 г. кінаарганізацыяй "Белдзяржкіно" ў г.Ленінградзе пад назвай "Савецкая Беларусь". У 1939 г. пераведзена ў г.Мінск. З 1946 г. мае назву "Беларусьфільм". На базе сектара кінаперыёдыкі і дакументальнага фільма кінастудыі ў 1961 г. была арганізавана Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, якая ў 1968 г. улілася ў кінастудыю як аб'яднанне "Летапіс". На кінастудыі ў гэтыя гады дзейнічалі самастойна творчыя аб'яднанні: мастацкіх, тэлевізійных (з 1968 г.), навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў "Летапіс", творчая майстэрня мультфільмаў (з 1975 г.). Працуе тэатр-студыя кінаакцёра (з 1986 г.).

З 1928 г. кінастудыя знаходзілася ў сістэме "Белдзяржкіно", з 1938 г. — Упраўлення кінафікацыі пры СНК БССР, з 1946 г. — Міністэрства кінематаграфіі БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР, з 1963 г. — Дзяржкіно БССР, з 1988 г. — Міністэрства культуры БССР.

Загады, пастановы, распараджэнні Мін-ва культуры БССР, Мін-ва кінематаграфіі БССР (1952, 1960—1967). Палажэнне аб маст. савеце іграваых (мастацкіх і тэлевізійных) фільмаў (1973).

Пратаколы маст. савета кінастудыі (1959—1966, 1968—1982), рэдакцыйнага савета сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі (1961—1966, 1968—1982); ВТА мастацкіх фільмаў (1973—1982), ВТА "Тэлефільм" (1970—1982), ВТА "Летапіс" (1971—1982).

Перапіска з Камітэтам па справах кінематаграфіі СНК СССР і БССР; Мін-вамі культуры СССР і БССР і інш. (1943—1981).

Спісы фільмаў (1969—1982).

Матэрыялы мастацкіх фільмаў (аўтарскія заяўкі, літаратурныя і рэжысёрскія сцэнарыі, кінасцэнарыі, партытуры, генеральныя каштарысы, альбомы фотапробаў і інш.): "Асабістыя рахункі"

А.Борына, А.Я.Карпава; "Анюціна дарога", "Дзяўчынка шукае бацьку", "Маленькі сяржант", "Пачатак шляху", "Паланез Агінскага", "Вуліца малодшага сына" Л.У.Голуба; "Дзеці партызана" Л.У.Голуба і М.М.Фігуроўскага; "Давай пажэнімся" А.Гарунова, А.Яфрэмава; "Наперадзе — круты паварот", "Трэцяя ракета" Р.М.Віктарава; "Дзень, калі спаўняецца 30 гадоў", "Чакай мяне, Ганна", "Ліст да жывых" В.Вінаградава; "Рагаты бастыён" П.С.Васілеўскага, "Палеская легенда" П.С.Васілеўскага і М.М.Фігуроўскага; "Іду шукаць", "Іван Макаравіч", "Расклад на паслязаўтра", "Трэцяга не дадзена" І.М.Дабралюбава; "Несцерка" А.Г.Зархі; "Корцік", "Чырвонае лісце", "Рудабельская рэспубліка" М.А.Калініна; "Доўгія вёрсты вайны" А.Я.Карпава; "Іван ды Мар"я", "Хто смяецца апошнім", "Крушэнне імперыі", "На ростанях" У.У.Корш-Сабліна; "Канстанцін Заслонаў" У.У.Корш-Сабліна і А.М.Файнцымера; "Чужая бацькаўшчына" А.Лапшына і В.Рыбарава; "Вялікі трамплін" Л.Мартынюка; "Абочына", "Сын старшыні", "Хлеб пахне порахам" В.А.Нікіфарава; "Культпаход у тэатр", "Гамлет Шчыгроўскага павета", "Магіла льва" В.Д.Рубінчыка; "Альпійская балада", "Бацька", "Воўчая зграя", "Воблакі", "Апошні хлеб", "Я, Францыск Скарына" Б.М.Сцяпанава; "Зялёныя агні", "Каханнем трэба даражыць", "Нашы суседзі" С.І.Сплашнова; "Хроніка ночы", "Чорнае сонца" А.В.Спешнева; "Масква-Генуя" А.В.Спешнева, У.У.Корш-Сабліна і П.Арманда; "Подых навальніцы", "Я родам з дзяцінства" В.Ц.Турава; "Гадзіннік спыніўся апоўначы" М.М.Фігуроўскага і інш. (1945—1982).

Матэрыялы тэлівізійных мастацкіх фільмаў (рэжысёрскія і літаратурныя сцэнарыі, генеральныя каштарысы, загады, перапіска і інш.): "Фруза" Ф.Конева і В.А.Нікіфарава; "Дзень амаль шчаслівы" ("Пуск") Г.Бокарава і А.Галіева, І.Іванова; "Дэтэктыў без забойства" ("Загадка з трыма невядомымі") І.Вараб'ёва і С.Скорына, Б.Шадурскага; "Прададзены смех" Г.Веткінай, Л.А.Нячаева; "Па сакрэту ўсяму свету" ("Незвычайныя прыгоды Дзяніса Караблёва") В.Ю.Драгунскага, І.М.Дабралюбава; "Суседзі" А.А.Дурава, В.Г.Панамарова; "Алімпійскі медаль" ("Жалезныя гульні") В.Куніна, Л.Мартынюка; "Кафедра" І.Кеасашвілі; "Іван" А.Кудраўцава, В.Дудзіна; "Адзіны мужчына" Л.Ліхадзеева, В.Плоткіна; "Капітан Салжы-галава" П.Паўлава, М.Лук"янава; "Час выбраў нас" А.Л.Петрашкевіча, У.Т.Халіпа, М.М.Пташука; "Сустрэча" ("Мінулагодняя кадрыля") А.Працэнкі, Ю.М.Цвяткова; "Завеі, снежань" ("Апейка") В.Ц.Турава; "Звон адыходзячага лета" Р.Шмырова, Ю.Дубровіна; "З кошкі ўсё і пачалося" ("Усё наадварот") Ю.Томіна, Ю.Аксанчанкі і інш. (1968—1982).

Матэрыялы хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў (літаратурныя і рэжысёрскія сцэнарыі, генеральныя каштарысы, анатацыі, перапіска і інш.): "Дзядзька Якуб" В.У.Адамчыка, В.М.Сукманава; "Максім Танк" М.М.Арочкі і М.Жданоўскага; "Маўчаць не буду я ніколі" (пра П.У.Броўку) Л.І.Гаўрылкіна, В.М.Сукманава; "У вайны не жаночы твар" В.Н.Дашука; "Хроніка быцця на зямлі" ("Камандзір-29") М.Кацюшэнкі, Б.Грышановіча, Д.Міхлеева; "Іван Шамякін" ("Пакуль ёсць сілы") Г.Дз.Коласа, Д.Міляева; "Праз усё жыццё" (пра Е.А.Міровіча); "У.Галубок" Р.Б.Смольскага, М.Жданоўскага; "Максім Багдановіч" В.Я.Тараса, Р.З.Ясінскага і інш. (1946—1982).

Матэрыялы мультыплікацыйных фільмаў (сцэнарыі, каштарысы, справаздачы, перапіска і інш.); "Два погляды на адно і тое ж", "Мілавіца" Ю.Бутырына, Г.Сямёнава, В.Тарасава; "Дудка-весялушка" Б.Л.Лобан, Я.Ларчанкі; "Светлячок і расінка" Ю.Бутырына, В.Тарасава; "Мядзведзь-меліяратар" ("Ціхае балота") В.Я.Тараса, К.Красніцкага, А.Булая; "Пустэльнік і ружа" А.Булая, К.Красніцкага; "Казка пра вясёлага клоуна" А.Белавусава і В.Тарасава і інш. (1978—1982).

Справаздачы, штатныя расклады і інш. дакументы бухгалтэрыі (1943—1982).

### Мінская кінастудыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў

*Ф. 163; воп. 1; 91 адз. зах.; 1960—1969 гг.*

Існавала з 1 студзеня 1961 г. да 1968 г. Створана на базе сектара кінаперыёдыкі і дакументальных фільмаў кінастудыі "Беларусьфільм", з якой потым злілася. Выпускала кінаперыёдыку, дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы.

З 1961 г. уваходзіла ў сістэму Міністэрства культуры БССР, з 1963 г. — Дзяржкіно БССР.

Загады Мін-ва культуры БССР (1961); Дзяржкіно БССР (1962—1968).

Пратаколы маст. савета студыі (1963—1967).

Тэматычныя планы (1965—1966); планы вытворчасці фільмаў і справаздачы аб іх выкананні (1961—1967).

Перапіска з Дзяржкіно БССР (1967).

Матэрыялы фільмаў: "Кандрат Крапіва" С.М.Браўдэ, "Янка Купала" Р.Дзодзіевай, "Пятрусь Броўка" С.М.Прошына, "Георгій Скарына" В.І.Скітовіча, "Жыццё на сцэне (А.Ільінскі)" С.І.Сплашнова, "Вобразы і думы (Барыс Платонаў)" В.М.Стральцова, "Якуб Колас", "Кастусь Каліноўскі" П.П.Шамшура, "Горад становіцца святлейшым" У.П.Цеслюка і інш. (1960—1969).

Літаратурныя сцэнарыі, аўтарскія заяўкі: А.С.Вялюгіна, І.І. Грамовіча, А.Звонака, А.Я.Макаёнка ("Кандрат Крапіва"), Т.К.Хадкевіча і інш. (1960—1969).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. дакументы бухгалтэрыі (1961—1967).



## 3. ФІЛАРМОНІ, АНСАМБЛІ, ХОРЫ

### Беларуская дзяржаўная філармонія

*Ф. 114; воп. 1—2; 491 адз. зах.; 1941—1973 гг.*

Створана ў адпаведнасці з пастановай СНК БССР 1 студзеня 1937 г. Афіцыйнае адкрыццё адбылося 25 красавіка таго ж года. Аб'яднала існуючыя раней сімфанічны аркестр, аркестр народных інструментаў і створаныя хор і ансамбль беларускай народнай песні і танца. Сектар эстрады ў 1939 г. выдзеліўся ў самастойную арганізацыю Белдзяржэстрада. У гады Вялікай Айчыннай вайны філармонія не працавала. У 1945 г. узнавіла сваю дзейнасць.

У 1940 г. філармонія ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

З 1937 г. знаходзілася ў сістэме Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з чэрвеня 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Распараджэнні, пастановы, загады Упраўлення па справах маст-ваў пры СНК БССР (1941, 1944—1946); Упраўлення па справах маст-ваў пры СМ БССР (1946—1952); Мін-ва культуры БССР (1953—1965, 1971—1973), загады па філармоніі (1958, 1963—1973).

Пратаколы мастацкага савета (1960—1973), канцэртна-лекцыйнага бюро (1965—1970), савета філармоніі, канцэртна-эстраднага бюро (1972—1973), камернага аркестра (1973), пратаколы адміністрацыйных нарад (1960).

Планы работы філармоніі (1961—1973); рэпертуарныя планы (1952—1973); планы правядзення фестываляў, дэкад, святаў музыкі і інш. (1965—1973); тэматычныя планы лекцый, канцэртаў, міжрэспубліканскіх гастрольна-канцэртных абменаў і інш. (1959—1971).

Даведкі, справаздачы і інш. мат-лы аб рабоце філармоніі (1945—1973), справаздачы майстроў мастацтваў аб канцэртах (1971), аб правядзенні ў Беларусі свята маст-ваў, прысв. 50-годдзю ўтварэння СССР (1972), аб гастролях творч. груп па абслугоўванню насельніцтва (1973).

Перапіска з Камітэтам па справах маст-ваў пры СМ СССР і БССР, Мін-вамі культуры СССР і БССР і інш. аб рабоце філармоніі, аб арганізацыі канцэртаў, гастроляў, падрыхтоўчай рабоце па правядзенню фестываляў, дэкад і інш. (1946—1973).

Матэрыялы аб правядзенні конкурсаў (1958).

Лібрэта эстраднага спектакля-канцэрта "Марская душа" (1956).

Водгукі Галоўнага праўлення тав-ва польска-савецкай дружбы і інш. аб рабоце філармоніі (1959).

Праграмы і афішы канцэртаў творч. калектываў філармоніі (1948—1973).

Працоўныя пагадненні з артыстамі (1960—1961, 1967).

### Беларуская дзяржаўная эстрада

*Ф. 115; воп. 1; 63 адз. зах.; 1946—1959 гг.*

У 1939 г. з Беларускай дзяржаўнай філармоніі выдзелілася Беларускае дзяржаўнае аб"яднанне эстрады. У 1959 г. Белдзяржэстрада была зноў далучана да Белдзяржфілармоніі.

З 1939 г. знаходзілася ў сістэме Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, з 1946 г. — Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1952 г. — Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Загады і распараджэнні Мін-ва культуры БССР, загады па асноўнай дзейнасці, пратаколы маст. савета, вытворчых нарад,



планы і справаздачы аб вытворчай і канцэртнай дзейнасці, праграмы, афішы (1946—1959).

### Дзяржаўны ансамбль танца БССР

*Ф. 155; воп. 1; 126 адз. зах.; 1959—1981 гг.*

Створаны ў 1959 г. з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Складаецца з танцавальнай і аркестровай груп.

Знаходзіцца ў сістэме Міністэрства культуры Беларусі.

Загады Мін-ва культуры БССР (1968—1981), загады па ансамблю (1959—1967).

Пратаколы маст. савета ансамбля (1961—1981).

Планы работы (1971); справаздачы і даведкі аб рабоце ансамбля (1961—1964).

Рэпертуарныя планы і праграмы канцэртаў (1961—1981).

Матэрыялы гастроляў па СССР (1960—1969, 1971), Бельгіі і Галандыі (1969), Венгрыі (1970), Балгарыі (1971), Польшчы (1972), Аўстрыі (1973), Францыі (1981).

Перапіска з Мін-вам культуры БССР (1968—1973).

Спісы творчага складу ансамбля (1975—1976).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. дакументы бухгалтэрыі (1959—1981).

## Дзяржаўны джаз-аркестр БССР

*Ф. 224; воп. 1; 10 адз. зах.; 1941—1947 гг.*

Створаны ў 1941 г. пры Упраўленні па справах мастацтваў пры СНК БССР і называўся "Дзяржаўны джаз-аркестр п/к Эдзі Рознера". Згодна з загадам Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР ад 5 снежня 1943 г. выдзелены ў самастойнае гасразліковае прадпрыемства з назвай "Джаз-аркестр БССР Беларускай дзяржаўнай філармоніі". Згодна з загадам Упраўлення па справах мастацтваў пры СМ БССР ад 5 сакавіка 1947 г. джаз-аркестр быў расфарміраваны.

Загады па джаз-аркестру (1944—1947).

Матэрыялы ліквідацыйнай камісіі (загад, спіс і інш.) (1947).

Спісы работнікаў джаз-аркестра (1944, 1947). Асабовыя карткі, аўтабіяграфіі (1947).

Гадавыя справаздачы, штатныя расклады і інш. (1941—1947).



## Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР імя Г.І.Цітовіча

*Ф. 127; воп. 1; 144 адз. зах.; 1953—1984 гг.*

Створаны пастановай СМ БССР N 243 ад 29 лютага 1952 г. на базе хору ў Падлессе Ляхавіцкага раёна, арганізаванага Г.І.Цітовічам. Фарміраваўся з удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і фальклорных груп. У 1959 г. — 1964 г. называўся Беларускім дзяржаўным ансамблем песні і танца. У 1964 г. перайменаваны ў Беларускі дзяржаўны народны хор БССР. У 1983 г. нададзена званне акадэмічнага, у 1986 г. — імя Г.І.Цітовіча.

У 1952 г. знаходзіўся ў сістэме Камітэта па справах мастацтваў пры СМ БССР, з 1953 г. — Міністэрства культуры БССР.

Пастановы калегіі, загады Мін-ва культуры БССР (1973—1982).

Статут хору (1961).

Пратаколы маст. савета (1955—1984), агульных сходаў (1956—1967).

Планы работы хору (1958—1964).

Даведкі і справаздачы аб творчай дзейнасці хору (1952—1978), аб канцэртна-гастрольнай дзейнасці (1961—1974). Гістарычная даведка аб хоры (1976).

Перапіска з Мін-вам культуры БССР па асноўнай дзейнасці (1975).

Матэрыялы аб удзеле хору ў канцэртах (1956—1982).

Матэрыялы аб гастролях хору ў г.Маскве (1982).

Канцэртныя праграмы і афішы (1952—1984), буклеты (1975—1984); спісы твораў хору, запісаных на грампласцінкі і плёнкі, тэксты песень, выкананых хорам (1952—1960, 1963).

Спісы творчага складу хору (1957—1959, 1966, 1975, 1977).

Бухгалтарскія дакументы (1953—1984).

